ЗВЯРТАЛІ НА СЯБЕ ЎВАГУ І САМІ РАНЫ,
НАНЕСЕНЫЯ АБЕДЗВЮМ ЖАНЧЫНАМ. СУДОВЫ
МЕДЫК АДЗНАЧАЎ, ШТО АБЕДЗВЕ ЯНЫ
БЫЛІ ЗАБІТЫЯ ІДЭНТЫЧНАЙ ЗБРОЯЙ ВЕЛЬМІ
СПЕЦЫФІЧНАГА ВЫГЛЯДУ. КОЖНЫ РАЗ
СМЯРОТНЫ ... НЕСЕНЫ,
БЕЗ ... РАЗ.
АЛ ... РАСЯ
Ш ... МІ,
БЫ ... АДРАЗУ.
ЯК ... МАГЛО Б
ДАЦЬ ... СТАЙ
ФОРМЫ, КОЖН... ЯКОГА КРЫХУ
РАЗВЕДЗЕНЫ ЎБОК АД АСТАТНІХ –
ПРЫКЛАДНА ЯК ЗУБЫ ПІЛЫ

# ЗМІЦЕР ДЗЯДЗЕНКА



**Зміцер Дзядзенка**

# ВЯЛІКАЯ ПРАЛЕТАРСКАЯ СЭКСУАЛЬНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ

*крымінал у рытмах нэпа*

**Дзядзенка, З.**

Вялікая пралетарская сэксуальная рэвалюцыя:крымінал у рытмах нэпа / Зміцер Дзядзенка. — Мінск : ІП А.М. Янушкевіч, 2017. — Электрон. тэкст. дан. (1,190 Мб). — Лічбавае электрон. выд. — Загал. з тытул. экрана.

ISBN 978-985-7165-44-5.

Травеньскім вечарам 1926 года на аршанскай вуліцы знаходзяць зарэзаную прастытутку Рыўку Гольдберг. Праз некалькі дзён гіне савецкая актывістка Валянціна Мачуга... Ці аб'ядноўвае штосьці гэтыя два забойствы?

Расследаванне злачынстваў адбываецца на фоне нэпманскіх загулаў і маладнякоўскіх вершаў, палавой свабоды 1920-х, дзейнасці таемных агентаў АДПУ і левай апазіцыі ў камуністычнай партыі.

# 6 ТРАЎНЯ 1926 ГОДА, ЧАЦВЕР, ПАД ВЕЧАР

Абыякавае сонца хілілася на захад. І хаця грэла яно ўжо не на поўную моц, але свяціла яшчэ па-ранейшаму ярка, хіба што цені сталі даўжэйшымі пад сонечным нахілам. Антон Хлюдзінскі павярнуўся ў вузкім музейным пакойчыку, застаўленым не столькі экспанатамі, колькі кнігамі, тэчкамі з дакументамі, фотаальбомамі, што займалі ўсю вольную прастору, у якую маглі ўплішчыцца. Яны былі і ў дзвюх хісткіх шафах, падпертых знізу для ўстойлівасці драўлянымі цурбачкамі, і на некалькіх палічках на сценах, і, натуральна, на адзіным у пакоі нешырокім стале. Нават на падлозе ляжалі два стосікі шэрых тэчак, якім больш нідзе не знайшлося месца.

Вядома ж, не кнігі становяцца самымі заўважнымі музейнымі экспанатамі — што з іх за карысць для наведніка, які подбегам пройдзе ўздоўж выстаўленых аскабалкаў даўніны, не змытых плынню часу? Нават самы цікаўны наведнік музея зможа пабачыць толькі вокладку кнігі альбо нейкія яе старонкі. Але Хлюдзінскі любіў менавіта кнігі, старонкі якіх з часам нібы танчэлі, станавіліся шорсткімі навобмацак, пагражаючы паламацца ад неакуратнага абыходжання. Гэтыя выпетралыя ад часу старонкі і цяжкія ціснёныя вокладкі

дарылі яму ні з чым не параўнальную асалоду.

Праўда, Хлюдзінскі разумеў, што кнігі — гэта ягоная крыніца радасці, а іншых людзей могуць зацікавіць іншыя рэчы. Таму ў музей ён збіраў і старадаўнія манеты, і зброю мінулых стагоддзяў, і карціны, якія перажылі рэвалюцыйную ды ваенную віхуру. Ён ужо ўяўляў, як развесіць гэтыя карціны ў высознай музейнай зале — колішнім базыльянскім касцёле, дзе ў апошнім стагоддзі манашак-базыльянак былі змянілі праваслаўныя манахі…

Пакуль жа яго худая фігура нязграбна згорбілася каля палічак: Антон пільна ўглядаўся ў кніжныя карэньчыкі, чытаючы іх назвы. Дарэчы, не кожная кніга з гонарам абвяшчала гораду і свету сваё імя, бо на некаторых карэньчыках не было ніякіх надпісаў. Музейшчыку гэта не вельмі перашкаджала: большасць кніг яму была добра знаёмая.

Мужчынская фігура ў дзвярах няпэўна кхекнула, прачышчаючы горла, і гэты гук вярнуў Хлюдзінскага з аблокаў мройнай уявы на зямлю, а дакладней — у вузкі музейны пакойчык.

У нечаканым госцю беспамылкова ўгадваўся вясковец, які хутчэй за ўсё прыехаў у горад на кірмаш. Мужчына збянтэжана трымаў у адной руцэ скамечаную шапку, не ведаючы, як пачаць размову. Ён глядзеў на Хлюдзінскага, а потым пераводзіў вочы на шафу са

шклянымі дзверкамі. На паліцах яе стаялі бутэлечкі самых размаітых формаў і памераў. На ніжняй паліцы стаяла самая вялікая бутля, але яна амаль цалкам была прыкрытая непразрыстай, драўлянай часткай дзвярэй. Гэтая бутля і яе нябачнае змесціва, быццам магніт, прыцягвала да сябе вочы мужчыны, таму позірк яго скакаў то на бутлю, то на гаспадара памяшкання.

— Дзень добры, — з ветлівай усмешкай звярнуўся Хлюдзінскі, дапамагаючы госцю выйсці з няёмкай сітуацыі. — Штосьці шукаеце?

— І вам добры дзянёчак, — у голасе мужчыны быў чуваць недавер. — Шукаю, ага… Мне сказалі, што тут дзесьці збіраюць косткі старыя ды яшчэ грошы за гэта даюць…

Антон прыгадаў, як археалагічная экспедыцыя, якая нядаўна прыязджала на Аршаншчыну, радавалася знойдзеным біўням маманта: дзве незвычайныя знаходкі прынеслі навукоўцам мясцовыя мужыкі. Тады археолагі падрабязна распыталі, дзе былі знойдзеныя гэтыя скамянеласці, што знаходзіцца побач, ці знаходзілі там яшчэ што-небудзь незвычайнае. Потым яны абяцаліся наступным разам абавязкова вывучыць мясціны, адкуль вяскоўцы прынеслі ім гэтыя парэшткі маманта. А пакуль што забралі іх у Менск, каб пільна вывучаць.

І цяпер Хлюдзінскі адчуў, што яму ў рукі сама ідзе ўдача: вось гэты мужык таксама, відаць, прынёс якія-

небудзь косткі маманта. А можа, нават і дыназаўра! Былі ж і ў нас дыназаўры, не магло іх не быць, калі яны былі паўсюль! І тапталі тутэйшую глебу сваімі гіганцкімі перапончатымі лапамі задоўга да з'яўлення чалавека, бегалі, падкрадаліся, уцякалі, палявалі… Рэшткі дыназаўра можна будзе выставіць у музеі, каб усе наведнікі дзівіліся, якія ж нечаканасці і сюрпрызы тоіць аршанская зямля.

Уяўленне ўжо малявала Хлюдзінскаму, як ён уласнаручна будзе старанна ачышчаць старажытныя косткі мяккім пэндзлікам, а потым складзе адну да адной, каб яны стварылі шкілет дагістарычнага гіганта-пачвары.

У гэты момант прыхадзень перарваў яго думкі:

— Дык я і прывёз сюды.

Ачомаўшыся, Антон паспяшаўся на двор за селянінам.

На двары стаяў звычайны сялянскі воз, дно якога было засцеленае сенам, каб менш муляла пры яздзе. На сене і ляжалі абяцаныя селянінам косткі.

— Вось! — з гонарам сказаў мужык. — Яны вельмі старыя.

Хлюдзінскі маўчаў, бо яму проста заняло мову. Потым ён усё ж выціснуў з сябе, быццам праз сілу, словы:

— Дык гэта ж каровіны…

— Ага, — вясковец і не думаў пярэчыць. — Нашая Матруна ўжо дужа старая была. З мясам мы сяк-так далі рады, а вось косткі хацелі выкінуць сабакам. Але ж сусед сказаў, што можна ў горадзе здаць за грошы. Дык чаго ж дабру прападаць, так? Вы не сумнявайцеся, таварыш, старэй за нашую Матруну ў вёсцы каровы не было — яна яшчэ царскі рэжым помніла.

І селянін перайшоў да жыццеапісання сваёй жывёліны. Па яго словах, жыццё яе было амаль што легендарным: у свой час карова пазбегла не толькі нямецкага палону, але і харчразвёрсткі. Доўгія гады Матруна заставалася карміліцай і надзеяй сям'і…

— Не-не, нам трэба не такія косткі, — мара Хлюдзінскага на вачах разбівалася на аскепкі, ператваралася ў нікому не патрэбны друз. — Нам трэба косткі зусім старыя, якім ужо не адно стагоддзе.

Правая рука селяніна пацягнулася да патыліцы і пачала вышкрабаць з-пад яе думкі:

— Не, таварышу, столькі ні адна карова не жыве. Дый іншая якая жывёліна таксама… Хіба што крумкач! Хочаце — крумкача вам падстрэлю? Гэтая хітрая курв… птушка і па трыста гадоў жыве, кажуць, бо падлу дзяўбе. Але толькі ў яго і будуць такія старыя косткі, як вам трэба.

Ледзь удалося Антону адкараскацца ад прапаноў назолістага селяніна, які абавязкова хацеў лёгка здабыць

лішнюю капейчыну ад недалужнага гараджаніна. Правёўшы наведніка за дзверы, музейшчык пабачыў, як той на развітанне завучаным, механічным жэстам перахрысціўся на вежы, якія ўжо некалькі гадоў стаялі без якіх-небудзь крыжоў. Бездапаможна тыкаліся яны ў неба, і гэтак жа бездапаможна апусцілася рука селяніна, калі яго позірк не знайшоў крыж на належным месцы.

Пасля гэтага Хлюдзінскі зачыніў будынак і выйшаў на нешырокую вулачку — утаптаная пасярэдзіне, яна паступова зарастала травой бліжэй да платоў, з-за якіх вызіралі невысокія хаты. У паветры ўжо адчувалася вечаровая свежасць, і на прызбах сталі з'яўляцца мясцовыя жыхары — пераважна старыя, якія выйшлі патачыць лясы, абмеркаваць суседзяў і навіны. Антон вітаўся з імі, быццам ішоў не па горадзе, а па вёсцы, дзе вітанне абавязковае з усімі сустрэчнымі.

У думках Хлюдзінскі пасміхнуўся: «Бадзяюся паміж касцёламі». Так, ягоны шлях зараз ляжаў у напрамку дамініканскага касцёла: у адным з дамоў на Смалянскай вуліцы ў яго было дамоўленае спатканне. Аднак калі ён выйшаў да вуліцы Падгорнай, то адразу ж заўважыў нечакана вялікі збор людзей. Стоўпіўшыся каля аднаго з невысокіх будынкаў, яны насцярожана маўчалі, і гэтае маўчанне з кожным імгненнем пагрозліва гусцела ў паветры.

Было ў гэтым натоўпе штосьці няяснае, змрочнае, і

цікаўнасць пацягнула Хлюдзінскага ў той бок, быццам магнітам. Праштурхаўшыся бліжэй да сярэдзіны, ён пабачыў нежывое жаночае цела, якое ляжала, нязручна падкурчыўшы ногі і ўзняўшы правую руку ў апошнім руху. Галава з чорнымі кудзеркамі валасоў бездапаможна адкінулася, горла жанчыны было распаласаванае ледзь не ад вуха да вуха. Густая кроў, якая вылілася з раны, пацямнела і змяшалася з дарожным пылам, утварыўшы брудную лужу. На гіпсава-белым твары ненатуральна чырванелі кармінавыя вусны: смерць не змагла сцерці яркую памаду. Ногі заблыталіся ў зялёнай спадніцы — відавочна, вынік агоніі. Прыгожыя ногі, адзначыў міжволі Хлюдзінскі, пабачыўшы, што адна з іх адкрылася да калена. Было ў гэтай пасмяротнай адкрытасці штосьці спакушальнае і ўвадначас страшнае.

— У міліцыю паслалі? — прагучаў за спінай Антона чыйсьці сіплаваты голас.

— Ага ж, — адказаў немалады сівы мужчына ў кепцы, у якім беспамылкова ўгадваўся рабочы, што вяртаўся з працоўнай змены дадому. Яго жылістыя рукі з чорнай аблямоўкай на пазногцях нервова сціскаліся ў кулакі, потым расціскаліся, каб праз якое імгненне зноў сашчапіцца на чымсьці нябачным.

Неўзабаве прыбылі міліцыянты, расштурхалі

натоўп і прапанавалі грамадзянам разысціся і не перашкаджаць працы праваахоўных органаў. Гараджане разышліся, але недалёка — падаткнулі сабой навакольныя платы і дрэвы. Адмаўляцца па сваёй ахвоце ад такога відовішча ніхто не пагаджаўся.

Міліцыянт, які быў у гэтай групе відавочна самы галоўны, звярнуўся да людзей:

— Грамадзяне і грамадзянкі, хто-небудзь ведае забітую?

— Дык Рыўка гэта, Рыўка Гольдберг, — адразу ж адгукнуўся жаночы голас, у якім не было чуваць літасці да забітай. — Як яе не ведаць… Тут яе ўсе ведаюць, патаскушку гэтую.

Міліцыянт старанна запісаў сабе штосьці ў нататнік, які трымаў у руках.

— А жыла яна далёка? — зноў запытаўся ён ва ўсіх адразу.

— Дык праз дом адсюль і жыла, вунь там, — ахвоча падказаў ужо мужчынскі голас.

— А хто бачыў, як адбылося гэтае здарэнне? — працягваў міліцыянт, зноў жа не звяртаючыся ні да каго канкрэтнага. Аднак гэтым разам удача ад яго адвярнулася: ніхто не адгукнуўся. Людзі азіраліся навокал, першымі спрабуючы ўгледзець таго шчасліўчыка, які стаў сведкам такой незвычайнай падзеі. Шчасліўчыка не знаходзілася…

Зразумеўшы, што шанцаванне скончылася і далей пойдзе звычайная чарнавая праца, міліцыянт даў знак падначаленым забіраць цела і накіраваўся ў паказаны яму дом, дзе жыла забітая Рыўка Гольдберг.

Хлюдзінскі павярнуўся сыходзіць і незнарок зачапіў плячом суседа. Той незадаволена прашыпеў, Антон павярнуўся са словам «Прабач...» і не дагаварыў — на яго з халодным агнём варожасці глядзелі выцвілыя вочы Канстанціна Мачугі.

# 1914—1926

Канстанцін Мачуга ажаніўся незадоўга перад вайной. Сам ён прыгажуном не быў: каржакаваты, быццам складзены з падагнаных адзін да аднаго цурбачкоў, з прасцяцкім наіўным тварам і бляклымі вачыма, за якімі немагчыма было ўгадаць думак. А вось жонку сабе ўзяў ладную, гожую: на Валянціну заглядаўся шмат хто не толькі з халасцякоў, але і жанатыя. А і было на што глянуць — усё было, што называецца, на месцы: і абаяльная ўсмешка на сімпатычным тварыку, і зграбная фігура з усімі належнымі акругласцямі. Агонь-дзеўка, якая і за словам далёка не палезе, і ўсмешкай адорыць — як чырвонцам. А чорныя яе валасы вабілі, прасілі запусціцьу іх мужчынскія пальцы і лашчыцца, гуляцца з пакорлівымі пасмачкамі.

Прыгожая жонка трапілася Канстанціну, як ні глянь. І было гэта для яго прадметам гонару і адначасова — глыбокага душэўнага болю. Кожны чужы мужчынскі погляд на Валянціну ўспрымаў ён як замах на сваё, толькі яму прыналежнае.

Мучыўся праз гэта Мачуга аж да зубоўнага скрыгату. Не прайшло і пары месяцаў пасля шлюбу, як прыйшоў ён дадому п'яны. А ў адказ на мяккі жончын дакор стаў яе люта біць. Кулакі з сілай выбівалі

дыханне з жончыных грудзей, малацілі яе па спіне, моцны ўдар у твар адкінуў Валянціну на сценку, па якой яна беспрытомна спаўзла на падлогу і ляжала нерухома.

Канстанцін няўцямна паглядзеў на жонку, якая не варушылася, пакратаў яе мыском бота — ніякай рэакцыі. Мармычучы штосьці сабе пад нос, ён дабрыў да ложка і праваліўся ў цяжкі задушны алкагольны сон.

Зранку ён пачуваўся кепска: балела галава, да горла падступала млосць. Але разам з тым унутры яго была нейкая палёгка, быццам учора падчас п'янага самасуду ў ім распрасталася нейкая спружына, якую накручваў кожны чужы погляд на яго жонку, на яго маёмасць. Ад гэтага яму было лёгка і трошку няёмка — не за тое, што біў Валянціну (хто ж жонку не б'е?), а ад таго, што спружына гэтая выпрасталася ў ім толькі ў п'яным выглядзе.

А яшчэ праз якія пару месяцаў пачалася вайна з германцам. Мачугу мабілізавалі не адразу, але ж прыйшла і яго чарга ваяваць за веру, цара і Айчыну. Праводзіць мужа на фронт Валянціна прыйшла, старанна хутаючы твар у хустку па самыя вочы…

Канстанцін думаў, што тая спружына ў ім не будзе нацягвацца, калі ён будзе далёка ад жонкі. Аднак гэтая надзея не спраўдзілася: напружанне ўнутры яго пастаянна нарастала. Лягчэй станавілася хіба што пасля

рукапашнага бою, калі ўласнаруч насаджваеш германца на штык, б'еш яго з размаху прыкладам вінтоўкі або азвярэла душыш.

Бог вайны ці хто іншы, адказны за лёс чалавека на вайне, Мачугу аберагаў: атрымаў ён падчас усіх баёў толькі дзве невялікія раны — куля трапіла ў левую руку, ды яшчэ адна падрапала яму шчаку.

А смеласць і адвага байца былі заўважаныя камандзірамі. Паколькі малодшыя афіцэры гінулі на фронце не менш за шараговых салдатаў, то іх заўсёды неставала. Так Канстанцін Мачуга атрымаў накіраванне на курсы прапаршчыкаў.

Чатыры месяцы на курсах прамінулі хутка — нават не паспеў адвыкнуць ад свісту куляў. Перад адпраўкай на фронт атрымаў Мачуга кароткі адпачынак, каб змог пабачыцца з сям'ёй.

Валянціна войкнула ад нечаканасці, калі муж прыйшоў дадому. Ягоныя пацалункі былі прагнымі, патрабавальнымі, яна пакорліва прымала мужавы ласкі, але Канстанцін адчуў, што ў жонцы штосьці змянілася за час яго адсутнасці. У той жа вечар ён напіўся, стаў крычаць на жонку, раз'юшваючы сябе. Ён называў Валянціну паблядушкай, пытаўся, якога хахаля яна сабе завяла і ці адзін ён, той хахаль…

Жонка моўчкі глядзела яму проста ў вочы, сціснуўшы зубы. Верхняя губіна ў яе пачала бялець ад

напружання. Але калі Канстанцін замахнуўся на яе, Валянціна схапіла падрыхтаваную чапялу і з усяе моцы выцяла ёй мужа па запясці. Правая рука Канстанціна занылa, занямела, і ён перастаў яе адчуваць.

— Калі яшчэ раз мяне хоць пальцам зачэпіш, я цябе заб'ю, — ціха сказала жанчына. — Ачомаюся — і зарэжу ўначы…

Яна працягвала глядзець мужу ў вочы з халоднай рашучасцю.

Канстанцін, як выявілася, быў не настолькі п'яны, каб недаацаніць жончыну пагрозу. Некалькі хвілінаў яны маўчалі, паглядаючы адно на аднаго. Потым Мачуга сплюнуў на падлогу горкую сліну і выйшаў з дому. Да раніцы яго не было, а потым наваспечаны прапаршчык вярнуўся, маўкліва сабраўся і з'ехаў на фронт, не дагуляўшы два дні з адпушчанага яму адпачынку.

З насцярогай прыслухоўваўся Канстанцін да сваіх адчуванняў пасля развітання з жонкай. Чакаў, калі ж тая ўнутраная спружына нацягнецца да ўпору. Але заўважыў, што камандзірская пасада прыносіць яму палёгку: паганяе прапаршчык Мачуга сваіх салдатаў, тыкне каторага — і лягчэй яму становіцца ўсярэдзіне, папускае яго. З адной аглядкай, праўда, ганяў ён сваіх падуладных — калі была сапраўдная нагода. Знарочыстых дачэпак прапаршчык не прыдумваў, бо

ведаў: на фронце куля можа прыляцець не толькі з боку ворага, але і са спіны… Але ж яму і ненадуманых дачэпак было досыць: камандзір ганяе салдата для навучання — каб той застаўся цэлым на вайне.

Адрачэнне цара сустрэў Канстанцін усё ў тым жа званні прапаршчыка — не палічылі яго вартым павышэння. Да новых палітычных павеваў Мачуга далучацца не спяшаўся, але ўважліва слухаў, што кажуць розныя партыі. Найбольш сімпатычнымі падаліся яму бальшавікі: яны заклікалі спыніць абрыдлую вайну і адпраўляцца ўсім дадому. І стаў прапаршчык Мачуга бальшавіком, нават у палкавы камітэт трапіў.

А потым бальшавікі і ўвогуле ўзялі ўладу ў дзяржаве, і пайшла Мачугава кар'ера ўгору. Адно кепска — з вайны ён так і не сышоў. Наадварот, у дадатак да германскага і аўстрыйскага франтоў вайна парасла сваімі крывавымі кветкамі спрэс па краіне. Давялося Канстанціну і з Дзянікіным паваяваць, і з палякамі, і эсэраўскія ды меншавіцкія паўстанні расстрэльваць. І папускала Канстанціна кожны раз пры атаках, пры расстрэлах — распроствалася спружына. І дыхаць станавілася лягчэй. Ды яшчэ давала яму палёгку ўлада: даслужыўся Мачуга да камандзіра палка. Значыць, правільны бок выбраў — у белых пайшоў бы ён хіба што ў якую афіцэрскую роту, куды

збіралі такіх самых «наштампаваных» за вайну малодшых афіцэраў, якім не было салдатаў, каб камандаваць…

Калі ён вярнуўся пасля мабілізацыі ў Воршу да Валянціны, тая сустрэла яго так, як мужняя жонка і павінна сустракаць пасля доўгага растання. І расслабіўся Канстанцін, вырашыў даць волю сваёй спружыне: голас на жонку павысіў, стаў яе абражаць, каб сябе больш раз'юшыць… І раптам натыкнуўся на яе халодны погляд. І замоўк на паўслове. Зразумеў: не будзе больш, як раней. Не дасць яму Валянціна распусціць рукі — зарэжа, як і абяцала.

А праз пару дзён даведаўся Канстанцін, што жонка ягоная цяпер кіруе ў жаночым савеце — змагаецца за правы кабет. Даведаўся пра гэта ён зусім выпадкова: у гаркаме партыі, дзе ён станавіўся на ўлік і атрымаў прапанову заняць пасаду інструктара аддзела, першы сакратар раптам запытаўся, кім яму даводзіцца Валянціна Мачуга.

— Жонка, — у неўразуменні прамармытаў Канстанцін.

Твар першага заблішчэў, як наваксаваны чаравік, і расплыўся ў шчаслівай усмешцы:

— Як жа гэта цудоўна, што атрымалася такая перадавая ячэйка грамадства! Муж і жонка — разам актывісты, ідуць наперадзе і сваім прыкладам

паказваюць дарогу іншым. Наша грамадства мусіць браць вашую сям'ю за ўзор і раўняцца на вас як на правафланговых. Муж — актыўны камуніст, герой вайны, жонка — кіраўніца жансавета…

Мачуга зніякавеў, бо жонка ні словам, ні намёкам не давала яму зразумець, што займаецца грамадскай дзейнасцю, ды яшчэ і на такой пасадзе. А сакратар тым часам працягваў, не заўважаючы азадачанай фізіяноміі суразмоўцы:

— Не сакрэт, таварыш Мачуга, што многія ў нашай партыі па-ранейшаму лічаць жанчын не роўняй сабе. Падставы для гэтага ёсць: жанчыны займалі пры гнілым царскім рэжыме прыгнечанае становішча. Але ў наш час жанчыны, як і іншыя працоўныя слаі, атрымалі роўныя правы з мужчынамі… І ваш прыклад дае нам надзею, што і астатнія чальцы нашай перадавой партыі на шляху да сацыялізму неўзабаве зразумеюць гэтае палажэнне. Так сказаць, жанчына — гэта таварыш камуніста! — і сакратар тыкнуў пальцам некуды ў бок столі, быццам падпіраючы свае словы, завіслыя ў паветры.

Дадому Канстанцін ішоў у задуменні: ён ніяк не мог уразумець, як яму цяпер жыць з Валянцінай, як да яе ставіцца, як абыходзіцца… Добра першаму сакратару — для яго Валянціна толькі чужая жанчына, якая кіруе жансаветам. А як быць яму, мужу гэтай жанчыны?

Дома ён зняў боты, з грукатам паставіў іх у кут. Аднак сустрэць яго, на дзіва, ніхто не выйшаў. З жончынага пакоя былі чуваць галасы. Канстанцін зазірнуў туды: у Валянціны сядзелі чатыры госці — усе маладзейшыя за яе.

Жанчыны павіталіся з гаспадаром, а потым Валянціна працягнула, быццам мужа і няма побач:

— Новы, рэвалюцыйны час жанчыну вызваліў, і гэта значыць, што яна сама павінна заняць годнае месца. І таварыш Аляксандра Калантай правільна вучыць нас, што свабодная жанчына, якая працуе, можа сама распараджацца сваім лёсам, сваёй душой і сваім целам. Не можа быць такога, каб толькі мужчына атрымаў права на выбар жанчыны: яна таксама мае права прыйсці да яго і сысці ад яго.

Жанчыны ўважліва слухалі, быццам вучаніцы вакол навяяўленага прарока — дакладней, прарочыцы.

— А як жа сям'я? — нясмела запыталася адна з іх.

— Пры старым рэжыме лічылася, што сям'я ствараецца на ўсё жыццё. І жанчыне не было куды сысці ад мужа, — цярпліва тлумачыла Валянціна, раз-пораз устрасаючы сваімі чорнымі валасамі. — Яна заставалася служанкай пры ім. Але цяпер мы будуем сацыялізм, дзе жанчына сама зможа зарабіць сабе на жыццё — ёй не патрэбны будзе муж-кармілец. Калі замужняя жанчына пакахае іншага чалавека, яна мае права сысці да яго. А

калі проста разлюбіць мужа, то таксама зможа сысці і жыць асобна. Таварыш Аляксандра Калантай вучыць нас, што ў пралетарскай дзяржаве не можа быць эксплуататарскага прымусу ў сям'і.

Маладая кірпатая госця пачырванела, амаль зраўняўшыся колерам з пунсовай хусткай на галаве, і спыталася:

— А чым такая жанчына адрозніваецца ад… — яна замоўкла, падбіраючы найбольш мяккае слова, — гуляшчай?

Павісла напружаная ціша: усіх цікавіў адказ.

— Таварыш Аляксандра Калантай у сваім артыкуле «Каханне і новая мараль» дае нам адказ і на гэтае пытанне. Якія віды адносінаў мы ведаем на сённяшні дзень? Гэта законны шлюб, вольны шлюб і прастытуцыя. З законным шлюбам усё ясна: ён аддае жанчыну ў рабства мужу. Прастытуцыя, адзначае таварыш Калантай, маральна нявечыць людзей, бо робіць жанчыну прадметам гандлю, а мужчыну — спажыўцом гэткага тавару. Гэтыя вычварныя капіталістычныя адносіны не могуць стаць узорам для новага грамадства.

Павісла паўза. Валянціна абвяла сваіх госцей позіркам, уважліва ўглядаючыся ім у вочы.

— Як жа спалучыць сям'ю і тое, што жанчына, як і кожны чалавек, у сваім жыцці развіваецца, здабывае

новыя веды, спазнае новыя пачуцці? Ёй можа стаць папросту цесна і няўтульна ў старых адносінах, у ранейшай сям'і, асабліва калі там муж абскурантыст! Таварыш Калантай лічыць, што самай найлепшай формай пры гэтым будзе паслядоўная манагамія.

Апошняе слова, без сумневу, выклікала сярод прысутных жанчын збянтэжанасць. Яны позіркамі перакідвалі яго адна адной, як гарачую печаную бульбіну, што дасталі з вогнішча.

— Гэта значыць, што адна жанчына і адзін мужчына нейкі час жывуць разам, сям'ёй, — паспяшалася патлумачыць Валянціна.

Калі госці сышлі, жонка падышла да Канстанціна і, гледзячы яму ў вочы, халодным тонам сказала:

— Ты ўсё чуў? Дык вось, я таксама за паслядоўнасць.

Канстанцін глядзеў на яе агаломшана, нібы мыла з'еўшы, — ён не мог зразумець, да чаго яна вядзе. Наступныя словы канчаткова перакрэслілі ўвесь ягоны сусвет.

— Я сустрэла іншага мужчыну.

Паветра неяк імкліва загусцела, і Канстанцін адчуў, што не можа ўвабраць яго ў сябе. Ён давіўся пругкімі каўткамі паветра, якое не хацела запаўняць лёгкія.

Так Канстанцін Мачуга даведаўся пра існаванне Антона Хлюдзінскага. А пабачыўшы яго потым, ніяк не

мог зразумець, што Валянціна знайшла ў гэтым танклявым высокім акулярніку.

# 6 ТРАЎНЯ 1926 ГОДА, ЧАЦВЕР, ВЕЧАР

Невысокі будынак па адрасе вуліца Зялёная, 17 быў вядомы ўсяму гораду: тут размяшчаўся акруговы аддзел Аб'яднанага дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення — у скароце АДПУ, ці проста ДПУ.

Аператыўны ўпаўнаважаны Раман Васільчук сядзеў за масіўным дубовым сталом. Кароткімі пальцамі левай рукі ён задуменна чухаў адрослую за дзень шчаціну на шчацэ, пальцы ж правай тым часам ездзілі па радках данясення ад сакрэтнага супрацоўніка пад псеўданімам «Бландзінка». Палец на радку дапамагаў сачыць за напісаным, бо грамата была не самым моцным бокам Васільчука. Затое пралетарская свядомасць і класавае чуццё ў таварыша ўпаўнаважанага былі самай высокай якасці — да ворага ён быў бязлітасны.

Агента «Бландзінку» Васільчук цаніў: гэта быў дыямент сярод яго агентаў. Ніякае заданне не было для «Бландзінкі» невыканальным.

*У асяроддзі, якое можна ахарактарызаваць як нацыянал-камуністы, дагэтуль пануе эйфарыя з нагоды павелічэння БССР. Гучаць размовы пра тое, што неўзабаве ў Беларусь вернецца і Смаленск з Бранскам. Мяркую, што такія настроі перадаюцца з Менску. Пашыраць іх дапамагаюць*

*сталічныя эмісары, якія ездзяць па Беларусі пад выглядам пралетарскіх пісьменнікаў. Не выключана, што падтрымліваюць іх нядаўнія эмігранты з белапанскай Польшчы ды іншых імперыялістычных дзяржаў, якім Савецкая ўлада даравала ранейшыя грахі «бээнэраўшчыны» і дазволіла вярнуцца на Радзіму.*

*У групе, блізкай да левай апазіцыі, узмацняюцца крытычныя настроі. НЭП у размовах яны расшыфроўваюць не як «новая эканамічная палітыка», а як «новая эксплуатацыя пралетарыяту». Найбольш крытычных водгукаў выклікае дзейнасць наркама земляробства БССР Змітра Прышчэпава, якога вінавацяць у патуранні кулацкім настроям на вёсцы. Гэтая з'ява атрымала характарыстыку «прышчэпаўшчына».*

*Разам з тым гэтая левая апазіцыя крытыкуе партыйныя вярхі за адсутнасць дыскусіі па гарачых пытаннях нават у межах партыі.*

*Са свайго боку, лічу неабходным узмацніць кантроль за гэтымі дзвюма групамі, якія з'яўляюцца найбольш небяспечнымі ў агляднай перспектыве.*

*Бландзінка.*

З яўнай палёгкай Васільчук уздыхнуў, дачытаўшы паперу. Ай ды «Бландзінка»! Ай, малойца! У перспектыву глядзіць, у будучыню!

Ён дастаў з верхняй шуфляды стала драўляную каробку-пушачку з пячаткай «Строга сакрэтна»,

пяшчотна хукнуў на яе і прышлёпнуў надпіс у левым верхнім куце данясення. Потым звыклым рухам апусціў пячатку ў пушачку і вярнуў усё на ранейшае месца ў шуфляду. Само ж данясенне з павагай і любоўю, з якой калісьці, вельмі даўно нёс абраз на чале царкоўнай працэсіі, аднёс да сейфа ў куце кабінета. Данясенне далучылася да шэрагу іншых з падобным густа-сінім грыфам, якія збіраліся ў канцылярскай тэчцы, ствараючы разам такую эпапею жыцця, што і не снілася якому-небудзь там графу Талстому.

Дзеянні Васільчука не засталіся незаўважанымі. На сцяне ў яго за спінай віселі два партрэты, якія ні на хвіліну не заплюшчвалі вачэй, пільнуючы ўсё, што адбываецца ў кабінеце. Партрэт Дзяржынскага леваруч ад Васільчука пазіраў сувора, крыху скептычна і бескампрамісна, партрэт Леніна, што вісеў справа, — дапытліва і з нейкай затоенай насмешкай…

# 8 ТРАЎНЯ 1926 ГОДА, СУБОТА, ПАД ВЕЧАР

Ах, восень-румза! Пасярод алей
Навошта блытаеш аголенае вецце?
Апалае лісцё ўжо не падыме вецер
І не пагоніць, не памчыць далей…

Аўтар чытаў свой верш крыху напеўна, расцягваючы галосныя, быццам пераймаў нейкага дарэвалюцыйнага артыста. Было ў ягонай манеры штосьці ад дэкадэнцкага надлому Аляксандра Вярцінскага.

Хлюдзінскі сядзеў на пасяджэнні аршанскай філіі літаратурнага аб'яднання «Маладняк» і вывучаў навакольных. Яму хацелася курыць — здавалася, што язык аж смыліць ад нясцерпнага жадання. Але курыць у памяшканні не дазвалялася, і, каб пераключыць сваю ўвагу, Антон заняўся разгляданнем твараў.

Аўтар верша здзівіў Хлюдзінскага: Антон думаў, што цяпер, пасля грамадзянскай вайны, пасля напраўду тэктанічных зрухаў у грамадстве, пасля падзеяў, якія перакрышылі і перамяшалі ўсё на свеце, ніхто не піша вершаў у такім дэкадэнцкім стылі.

Тым часам аўтар працягваў дэкламаваць на памяць, не гледзячы ў спісаны аркуш, які трымаў у левай руцэ:

Апошнім пацалункам брудны глей
Паставіць пляму на прыгожым квеце.

І ўсё, што голае было на свеце,
Здаецца восенню яшчэ галей.

Пасля папярэдніх паэтаў гэты быў такой самай нечаканасцю, як трусік з капелюша фокусніка. Ніштo не прадказвала, што ён тут з'явіцца — і ўсё ж ён быў!

У невялікай зале гарадскога тэатрыка было поўна народу. Людзі не толькі занялі ўсе сядзячыя месцы, але і таўкліся ў праходах. На шчасліўчыкаў, якім удалося сесці, часам кідалі зайздрослівыя позіркі. Але ўсё ж сцэна адбірала больш увагі: дзеля відовішча, якое адбывалася там, гледачы былі згодныя трываць нязручнасці.

Хлюдзінскі згадаў афішу, расклееную на адной з гарадскіх вуліц: «*Таварышы аршанцы! Запрашаем на Першыя Публічныя Чытанні, якія ладзіць Аршанская філія „Маладняка"! Уваход вольны для ўсіх таварышаў*». Далей паведамлялася, што чытанні адбудуцца ў гарадскім тэатры, і быў пазначаны час. Пад тэкстам чырвоны сілуэт чалавека нешта прамаўляў у рупар — відаць, чытаў вершы нябачнай публіцы, якая не змясцілася на афішу.

Антон не гарэў жаданнем ісці глядзець на мясцовых

паэтаў: ён чытаў прэсу, бачыў, якія вершы там друкаваліся, і гучныя рыфмаванкі пра заводы і трактары не выклікалі ў яго захаплення. Да таго ж ён падазраваў, што ўзровень мясцовых паэтаў будзе яшчэ ніжэйшы, чым тое, што публікуюць у сталічных газетах. Калі б яны пісалі лепш за менскіх паэтаў, у сталічных газетах друкавалі б іх, а не цяперашніх, хіба не? Псаваць сабе вечар кепскімі вершамі ён не хацеў.

Угаварыла яго Валянціна, бо падчас закаханасці з мужчыны можна не толькі вяроўкі віць, але яшчэ і завязваць яго какетлівым банцікам. Па яе словах, на вечарыне Антону мусіць спадабацца, бо там чакаецца штосьці незвычайнае і вельмі блізкае яму па духу. І да таго ж, трэба ўдзельнічаць у культурным жыцці горада!..

На вечарыну яны прыйшлі не дужа рана, але месцы ім усё ж дасталіся сядзячыя: пасада Валянціны дазваляла ёй скарыстацца такой магчымасцю. Антон усім сваім выглядам паказваў: я сюды прыйшоў толькі дзеля цябе, бо ад падзеяў на сцэне не чакаю для сябе нічога цікавага або прыемнага. І выступоўцы не падманулі чаканняў Хлюдзінскага. Некалькі маладых хлопцаў у талстоўках чыталі свае вершы, у якіх неба і далечы то блішчалі пурпуровасцю, то імгліліся лілёвасцю, а час абавязкова бурапеніў. «Калектыўны Ясенін мясцовага разліву. Дробная тара для

маламаёмаснага насельніцтва», — прабурчэў Антон ціхенька, каб пачула толькі Валянціна. Яна ціхенька пырснула.

Потым вядоўца абвясціў, што зараз выступіць адзін з найбольш яскравых аршанскіх паэтаў — Уладзіслаў Гарбылоўскі. На сцэне з'явіўся чалавек у накінутым на плечы пінжаку. Левую руку ён трымаў у кішэні нагавіцаў, што надавала яму заліхвацкі выгляд, быццам малады чалавек прыйшоў на танцы. Хлюдзінскі падумаў, што яго чакае чарговая порцыя ясеніншчыны, але памыліўся: новы паэт чытаў вершы «пад Маякоўскага». Мяркуючы па ўсім, запісваў ён свае вершы таксама ў стылі маскоўскай славутасці — «лесвічкай». Прынамсі, пры чытанні ён рабіў паміж словамі кароткія паўзы і энергічным узмахам правай рукі адсякаў чарговую прыступку-слова.

Раніца<br>
        кастрычніка<br>
                крывавая<br>
Акрывавіла<br>
        пялёнкі мае<br>
                крывёю…

Публіка вітала Гарбылоўскага больш горача, чым папярэдніх. Валянціна таксама з радасцю пачала пляскаць у ладкі. А Хлюдзінскі зусім засумаваў:

— Ты ж абяцала, што мне таксама будзе цікава…

— Калі абяцала, то будзе, — на яе вуснах з'явілася хітраватая ўсмешка. — Але ж пакажы сваю цярплівасць.

Наступным выступоўцам быў абвешчаны Алесь Вечар, і Антон напружана засоп: паэтычныя псеўданімы яму не вельмі падабаліся праз сваю штучнасць і напышлівасць.

Але раптам менавіта гэты малады хлапец у клятчастай кашулі і пры гальштуку прачытаў верш пра восень-румзу, які так агаломшыў Хлюдзінскага.

Пасля гэтага быў абвешчаны выступ выкладчыка Горацкай акадэміі Юркі Гаўрука. Хударлявы малады чалавек са знешнасцю тэатральнага прыгажуна выглядаў так, быццам прыйшоў выступаць не перад жыхарамі невялікай Воршы, а як мінімум перад парыжскай багемай: чорны пінжак, белая кашуля, гальштук-мятлік. «Пераклад санетаў Уільяма Шэкспіра», — абвясціў ён і пачаў дэкламаваць:

Цяпер мяне найлепей ненавідзець,<br>
Калі жыццё заціснула, бадай.<br>
Твая бяда з маёй бядою прыйдуць,<br>
Як верныя сябры. Не адкладай!

Хлюдзінскі пачуваўся так, быццам яго нечакана перакінулі нейкай дзівоснай тэхнічнай прыладай з адной рэальнасці ў іншую. Не мог, не мог ён сабе

ўявіць, што вось так побач суіснуюць вершы пра заводы з бурапеннай лілёвасцю — і гэты акварэльны вершы пра восень-румзу, а таксама медна-чаканныя шэкспіраўскія радкі. І як жа гэта было хораша!..

Ён расказваў гэта Валянціне па дарозе дадому: сёння яна ішла да яго, каб застацца на ноч. І Антон дзякаваў ёй за прыўкрасны вечар, і цалаваў яе ў прыадтуленыя палкія вусны, і адчуваў, што гэтая жанчына разумее яго амаль з паўслова.

А потым яны кахаліся ў яго дома, камечачы прасціны.

Антон браў у далоні мяккія жаночыя грудзі, прапускаючы паміж указальным і сярэднім пальцамі напятыя чырванаватыя смочкі, і сціскаў іх, быццам хацеў напоўніць свае рукі толькі гэтым дарункам жаночага цела. Потым яго рукі працягвалі сваё падарожжа па выгінах і акругласцях гэтай фігуры — такой знаёмай і кожны раз новай.

Гэтым разам Валянціна стрымала яго рукі, не дапусціўшы да ўлоння:

— Пачакай, дай сёння волю мне!

— Што такое? — Антон разгубіўся, не ведаючы, як паводзіцца. Ён пачуваўся няёмка, быццам саплівы гімназісцік, які ўпершыню апынуўся сам-насам з жанчынай і не ведае, куды дзець рукі і вочы.

Тым часам Валянціна кульнула яго на спіну, села

зверху, і гарачы шэпт прашалахцеў яму ў вуха:

— Ляжы і не буянь!

У жаночым голасе можна было без цяжкасці пачуць усмешку.

Мужчына падпарадкаваўся і адчуў, як жаночыя вусны прайшліся па яго грудзях, спусціліся на жывот, але і там не затрымаліся…

Калі Антон нарэшце супакоіўся і адчуў, што пад ім не пух райскіх аблокаў, а звычайны зямны ложак, ён набраў у лёгкія паветра і спытаў крыху асіплым голасам:

— Што гэта такое было?

Валянціна лашчылася да яго марцовай коткай і толькі што не вуркатала задаволена:

— Мілы мой, цяпер жа не старыя часы, — жанчына цяпер не толькі аб'ект, але і суб'ект кахання. А калі так, то я таксама маю права на ініцыятыву. І на роўнасць у ложку маю права…

Голас яе гучаў салодкай спакусай, якая адначасова адбірала ў Антона спакой і гаіла душэўныя раны.

Калі яны, ужо стомленыя, засыналі побач, Хлюдзінскі пагладзіў мяккае далікатнае жаночае плячо:

— Валя, пераходзь да мяне. Што ж ты жывеш на два дамы…

Валянціна адгукнулася не адразу. Але калі жанчына загаварыла, то ў голасе яе гучала нотка

раздражнення:

— А чаму гэта я павінна сыходзіць? Думаеш, мне дужа кепска жыць на два дамы? Ці ты вырашыў ашчаслівіць мяне, да сябе паклікаўшы? Дык ты не думай — я за сябе сама магу пастаяць. Вы, мужыкі, думаеце, што ўсё павінна быць дзеля вашага задавальнення. І ты такі ж! Ты мяне спытаўся, ці хачу я пераходзіць да цябе?

Валянціна абурана адвярнулася і засапла. Антон нясмела паспрабаваў пагладзіць яе плячо, якое белай плямай расплывалася ў начным змроку, але жанчына толькі тарганула плечуком, быццам адганяючы назолістую муху.

# 10 ТРАЎНЯ 1926 ГОДА, ПАНЯДЗЕЛАК, РАНІЦА

Хлюдзінскі зранку ішоў у свой музей.

Свята-Пакроўская царква (якая ў часы ўніятаўбазыльянаў насіла імя Апекі Божай Маці) стаяла ў самым цэнтры горада: адкуль бы ні ішоў — здалёк бачыў яе стромы сілуэт, які цяпер чапляў рэдкія ранішнія ружаватыя аблокі сваімі званіцамі. Гэтыя строгія абрысы напаўнялі душу музейшчыка спакоем, абяцалі яму, што ўсё будзе добра, што праблемы і клопаты любога дня — гэта марнасць марнасцяў, пыл зямны ў параўнанні з мураваным харалам, узнесеным на беразе нешырокай Аршыцы.

Працавалася яму ў панядзелак добра, хоць Антон і не любіў справу, якой мусіў займацца з самай раніцы: напісаў планы, якія патрабавала начальства, распісаў графікі меркаваных паездак па наваколлі ў пошуку музейных экспанатаў.

Пісаніна нарэшце скончылася, Хлюдзінскі прамакнуў атрамант на апошнім запоўненым аркушы і з насалодай пацягнуўся, не падымаючыся з крэсла. Акуратна выцер пяро асадкі і адклаў яе ўбок.

Дзень стаяў сонечны, надвор'е проста вабіла, заклікала да сябе, і Антон няспешна выйшаў на ганак, каб крыху адпачыць ад надакучлівых паперак.

Выйшаў — і спыніўся: перад ганкам сабралася купка людзей. Няшмат — чалавек з дзесяць. Было заўважна, што, пабачыўшы Хлюдзінскага, яны на паўслове спынілі ўсе размовы, якія вялі да гэтага. У таўставатай жанчыны, якая стаяла пасярод грамады, дагэтуль быў прыадкрыты рот, быццам паўза нечаканым лязом перацяла яе фразу на сярэдзіне. Яе сусед, нестары яшчэ мужчына ў цёмнай камізэльцы, застыў з рукой, якая чухала галаву пад кепкай.

Усе глядзелі на Хлюдзінскага, быццам на другое прышэсце Ісуса — з надзеяй і недаверам адначасова.

Антон павітаўся, стараючыся схаваць няёмкасць і насцярожанасць. Нястройны галас пажадаў яму таксама добрага дня.

— Чаму сабраліся, грамадзяне? Музей яшчэ не працуе, мы толькі-толькі пачалі збіраць экспанаты, — паспрабаваў Хлюдзінскі зразумець, што ж тут такое адбываецца.

Незразумелае слова «экспанаты» нібыта зняло напружанне, якое апанавала натоўпам: раскрытыя раты пазакрываліся, узнятыя ўгору рукі апусціліся. Мажная жанчына, на якую Антон адразу звярнуў увагу, нясмела прагундосіла:

— Дык мы, гэта… Паглядзець прыйшлі.

— Няма чаго пакуль што глядзець, — цярпліва паўтарыў музейшчык. — Вось калі адчынімся, тады

можна будзе ўсё паглядзець, толькі рукамі чапаць не можна будзе — гэтага правілы не дазваляюць.

Натоўп моўчкі выслухаў ягоныя словы. Некаторыя мужыкі згодна заматлялі галавой: вядома ж, рукамі чапаць не будзем.

— Чорта пакажы! — выдыхнула тая ж баба, нарэшце набраўшыся смеласці.

— Якога такога чорта? — сумеўся Хлюдзінскі.

У натоўпе загулі галасы:

— Таго, што ў цябе ў шафе схаваны!

— У бутэльцы.

— Таго, што баба ад камісара губернскага нарадзіла.

— А хвост у яго ёсць? А рогі?

Басісты мужчынскі голас перакрыў іншыя:

— Кажу вам, што не чорт там, а негра заморская! Бо чартоў бальшавікі адмянілі!

Баба павярнулася да ўладальніка баса, уперлася рукамі ў бакі і з выглядам трыўмфатаркі абвясціла:

— Яны і буржуёў адмянілі, а пасля ўсё адно вярнулі — сказалі: цяпер называецца — нэп! Можа, і чартоў паадмянялі, а потым назвалі неграй ды вярнулі.

Антон узняў руку, заклікаючы ўсіх да цішыні. Людзі імгненна змоўклі, і стала чуваць, як у навакольных дварах квохчуць куры, як недзе далёка зацягнуў нейкую нудную песню возчык, як на

недалёкай Аршыцы смяюцца дзеці, якія пабеглі купацца…

— Хто вам пра таго чорта сказаў?

У натоўпе зашыкалі і выпхнулі наперад мужыка, які збянтэжана камечыў у руках шапку. Антон пазнаў у ім нядаўняга наведніка, які спрабаваў прадаць каровіны косткі.

Та-ак, сітуацыя станавілася весялейшай. Антон прыгадаў, як мужык падчас візіту пастаянна касавурыўся на шафу, у якой стаялі бутэлечкі.

— Я ўсё зразумеў, — заявіў музейшчык з абсалютна сур'ёзным выглядам, толькі вясёлыя яскаркі блішчэлі ў вачах. — Чакайце тут, зараз усё пабачыце.

Вярнуўшыся ў пакой, Хлюдзінскі адамкнуў шафу, выцягнуў з яе вялікую бутлю, у якой плавала ў вадкасці штосьці цёмнае, і паспяшаўся назад на ганак.

Выйшаўшы на сонечнае святло, Антон высока ўзняў бутлю, прытрымліваючы яе за дно правай рукой.

— Аё-ой! — толькі і здолеў вымавіць уладальнік баса.

— Вох! Чорт! — прасіпела мажная баба, у якой раптоўна знік голас.

— Божа-божа-божа! — пачаў жагнацца нядаўні музейны наведнік, які справакаваў увесь гэты гармідар.

Музейшчык пачаў тлумачыць, што грамадзяне бачаць перад сабой цуд прыроды, які абавязкова

будуць вывучаць навукоўцы. Аднак грамадзяне назіраць цуд аніяк не хацелі: праз якія пару хвілінаў двор быў пусты.

Антон гмыкнуў і панёс назад бутлю, у якой плавала ў вадкасці шасцілапая рапуха — адзін з магчымых будучых экспанатаў. Хлюдзінскі марыў, што ў музеі абавязкова будзе нешта накшталт кунсткамеры, у якой будуць збірацца падобныя незвычайнасці і цікавосткі.

У сваіх марах ён быццам увачавідкі бачыў, як вядзе Валянціну па музейнай зале, дзе стаяць усе яго найбольш цікавыя здабыткі, і выхваляецца перад ёй. А каханая жанчына то здзіўлена войкае, то зачаравана маўчыць, углядаючыся ў музейныя экспанаты і ўслухоўваючыся ці то ў ягоныя словы, ці то проста ў сам голас…

# 11 ТРАЎНЯ 1926 ГОДА, АЎТОРАК, РАНАК

Мачуга прачнуўся з пачуццём млосці: зрок ніяк не мог сфакусавацца на расплывістых каляровых плямах, што плавалі перад ім. У галаве ўсё плыло, а шлунак пратэставаў супраць таго змесціва, якое апынулася ў ім. Галава, на дзіва, не балела, хаця астатнія сіндромы пахмелля былі ўсе тут як тут.

Суладдзе з рэчаіснасцю ўсё ніяк не наступала: каляровыя плямы перад вачыма ніяк не хацелі складацца ні ў якія ўцямныя прадметы. Канстанцін паварушыўся і зразумеў, што ён ляжыць на левым баку. Стаў паварочвацца на спіну — і каляровыя плямы перад вачыма апынуліся малюнкам на насценным дыванку: дрэвы, кветкі, птушкі, звяры, быццам намаляваныя дзіцячай рукой. Аднак ляжаць на спіне мужчына не змог: млосць стала адчувацца значна мацней.

Мачуга нязграбна перакуліўся на правы бок, каб стрымаць пратэст вантробаў. З сярэдзіны вырваўся цяжкі ці то хрып, ці то ўздых, і гэты павеў не рассеяўся ў паветры: на яго шляху апынулася жаночая галава.

Канстанцін адчуў радасць, але раптам зразумеў, што галава гэтая — не ягонай жонкі, не Валянціны. Рудыя кудзеры на падушцы ніяк не маглі належаць

Валі, бо яе чорныя доўгія валасы ніяк не маглі за ноч ператварыцца ў гэтыя кароткія рудыя завіткі.

Мужчына няўцямна глядзеў перад сабой, стрымліваючы млосць, якая не спяшалася здаваць заваяваныя пазіцыі. Думка пра тое, хто гэтая жанчына побач з ім, пульсавала ў галаве далёкай зоркай — часам праяўляючыся, а потым зноў сыходзячы ў нейкую далёкую імглу.

Тым часам патрывожаная яго рухамі жанчына таксама павярнулася, і Канстанцін пазнаў Лідачку, сакратарку будаўнічага трэста, якая нярэдка заходзіла ў гаркам з дакументамі і даручэннямі.

Яна глядзела на Мачугу сытымі кашэчымі вачыма, у якіх блішчэла радасць валодання. Пагладзіла яго па няголенай шчацэ, а потым зморшчыла свой носік, калі чарговы гарачы выдых з мужчынскага рота накрыў яе. Па гэтым інстынктыўным руху Лідачкі Канстанцін зразумеў, што ад яго моцна нясе перагарам, але сораму не адчуў.

Жанчына паднялася з ложка, і стала відаць, што спала яна зусім голая. Бессаромна круцячы клубамі, быццам у нейкім танцы, музыку якога чуе толькі яна, Лідачка нетаропка пайшла па пакоі. Нават зацягнула была нейкую песню, але Мачуга спыніў яе.

— Не трэба! — выпхнуў ён кароткую фразу праз нібыта апечаную гартань, праз язык, які нейкімі

нябачнымі сталагмітамі прырос да нёба, і праз сасмяглыя непаслухмяныя вусны.

Лідачка перастала спяваць, але не спыніла свой бессаромны голы танец па пакоі. Датанцавала да вакна, нечым там забулькала, пасля чаго пайшла назад.

Яе грудзі пагойдваліся насустрач Канстанціну, а жывот быццам пасміхаўся яму. Але позірк мужчыны мог засяродзіцца толькі на адным: у жаночай руцэ, якая набліжалася да яго, была конаўка з расолам. Яго водар вабіў Мачугу, абяцаючы ратаванне ад усіх хворасцяў на свеце. Прынамсі, ад тых, якія мучылі яго тут і цяпер.

Лідачка мылася недзе за шырмай, адтуль было чуваць плёханне вады, а Канстанцін ляжаў на яе ложку і спрабаваў узгадаць, як апынуўся тут. Ён памятаў, як Васіль Кашэль з гаркама прапанаваў яму ўвечары пайсці разам адпачыць. На заўвагу Мачугі, што яшчэ толькі панядзелак і неяк рана стамляцца, Кашэль тоненька захіхікаў:

— Калі адпачываць толькі пасля стомы, дык атрымаецца адпачываць удвая радзей.

У высокага і мажнога Кашаля голас быў надзіва сіплаваты і высокі — зусім не адпаведны яго фігуры. Можа быць, думаў Мачуга, вусы, якія навісалі над верхняй губой гаркамаўскага работніка, працавалі як сіта — прапускалі толькі высокія ноты.

Адсмяяўшыся, Кашэль працягнуў з цынічнай

усмешкай:

— Мы з табой — на адказнай працы, а гэта лічы — як на передавой. На першай лініі барацьбы за сусветную рэвалюцыю! Ты на передавой калі адпачываў — толькі калі стомішся? Ці тады, калі была магчымасць? Сам жа ведаеш: ёсць магчымасць — адпачываеш, бо пра час наступнага адпачынку не ведаеш. Словам, я вечарам цябе забяру. Ты ж увечары нікуды не спяшаешся?

Канстанцін нікуды ўвечары не спяшаўся: іх жыццё з Валянцінай усё менш нагадвала сямейнае, а ўсё больш — нейкае суседскае. Таму спяшацца да гэтай ужо амаль чужой жанчыны яму не было ніякага рэзону. І ўвечары яны пайшлі адпачываць. Памяць паслужліва падказала Мачугу, што спярша яны сядзелі ў рэстаране гатэля «Эрмітаж» на Мінскай, 6. На невысокай сцэне граў аркестр, і чарнявая спявачка ў чырвонай ядвабнай сукенцы саладжавым голасам тужліва спявала пад акампанемент скрыпкі і раяля:

Купіце, койфтчэ, койфтчэ папіросн
Трукэнэ фун рэгн ніт фаргосн
Койфтчэ білік бэнэмонэс
Койфтчэ гот ойф мір рахмонэс
Ратэвэт фун гунгер міх ацынд.

Песня «Папяросы», наколькі ведаў Мачуга,

распавядала пра цяжкую долю габрэйскага сіраты. Круглы твар спявачкі, аднак, не дазваляў уявіць яе сіратой, якая просіць міласціну.

— Што будзеце замаўляць? — ветліва запытаўся ў іх над галовамі афіцыянт з прылізанымі валасамі.

— Перш, вядома, гарэлачкі графінчык, — Кашэль пачаў ужываць ласкальныя суфіксы, быццам ад гэтага станавіліся меншымі замоўленыя порцыі ды не такой відавочнай станавілася прага да смакавання ежы і проста абжорства. — Парсючок запечаны ёсць? Давайце яго. А рыбка?

— Селядзец найсвяжэйшы, — афіцыянт дагодліва схіліўся, вочы яго блішчэлі разуменнем.

— Давайце і яго нам, — пагадзіўся Кашэль. — Пра астатняе падумаем потым.

Яны выпівалі і закусвалі, разглядаючы навакольную публіку. Канстанціну публіка падабалася не вельмі: навакольныя сталы займалі нейкія ўкормленыя нэпманы са сваімі паненкамі. Велягурыстыя жаночыя капялюшыкі з пёркамі і без, на жаночых шыях — калье з каштоўных камянёў (у камянях Мачуга не разбіраўся — чуў толькі пра брыльянты, і яму падалося, што пара наведніц мае акурат калье з брыльянтаў), цяжкія залатыя пярсцёнкі на мужчынскіх пальцах…

Уся гэтая атмасфера была Канстанціну не проста чужой — варожай. Ён адчуў, што ледзь не задыхаецца

ў ёй. Апошняй кропляй стала фігура лысаватага мужчыны, які падняўся з-за стала з п'яным крыкам:

— На чорта мне гэтая нудзяціна! Грайце «Бублічкі» — плачу двайны тарыф!

Ён сунуў руку ва ўнтураную кішэню пінжака і рэзкім рухам выцягнуў адтуль кіпу асігнацый. Хістаючыся, быццам пастаянна сыходзіў з лініі стрэлу, ён дабраўся да сцэны. Высокай нотай блямкнуў, як разладжаны, раяль — гэта наведвальнік паклаў на клавішы адну купюру са свайго пачка. Скрыпач ледзь паспеў прыбраць сваю скрыпку — нэпман хацеў абавязкова запхнуць асігнацыю ў дэку, аднак яму давялося задаволіцца далонню музыкі. Спявачка адступіла ўглыб сцэны і насцярожана прамовіла:

— Сядайце, сядайце! Зараз будуць «Бублічкі»…

Нэпман працягнуў руку і схіліўся ў паўпаклоне — ён відавочна чакаў, што дзяўчына падасць яму руку для пацалунку. Аднак тая не спяшалася, і на дапамогу ёй прыйшоў скрыпач:

— Мадэмуазэль хвалюецца, таму я прашу вас зразумець яе — вяртайцеся на сваё месца, і мы пачнем «Бублічкі».

Нэпман на няцвёрдых нагах пасунуўся назад. Тым часам музыкі зайгралі папулярную песню, і замоўца, які яшчэ не паспеў дабрацца да свайго століка, пачаў танчыць.

Спявачка выводзіла словы песні з прыдыханнем:

Отец мой пьяница
За рюмкой тянется.
А мать — уборщица: какой позор!
Сестра гулящая,
Тварь настоящая,
А братик маленький — карманный вор.

Зала ажывілася: песня відавочна больш пасавала настроям нецвярозых наведнікаў. Халера з імі, са словамі! Затое які матыў у песні, які матыў! Ад гэтага нервовага ўздрыгвання скрыпкі ногі самі просяцца танчыць. А спявачка на сцэне тым часам сама заводзілася ад уласнага спеву:

Купите бублики, горячи бублики,
Купите бублики, да поскорей.
И в ночь ненастную
Меня, несчастную,
Торговку частную,
Ты пожалей.

П'яны нэпман больш не звяртаў увагі на выканаўцу — цяпер ён хацеў запрасіць на танец нейкую паненку з-за бліжэйшага століка. Яе суправаджальнік не пагаджаўся саступіць сваю пару, а жанчына, якую

нэпман пакінуў для замовы «Бублічкаў», паступова налівалася чырванню і яўна не ведала, што ёй рабіць — проста сысці або спярша даць поўху свайму нязветліваму кавалеру.

— Пайшлі адсюль! — прапанаваў Мачуга, з нянавісцю гледзячы на захмялелага нэпмана і яго эскапады.

Расплаціўшыся, калегі перайшлі ў іншы, менш рэспектабельны шынок. Далейшае Канстанцін памятаў толькі ўрыўкамі. Ён выпіваў з Кашалём, потым згубіў свайго вечаровага субутэльніка і далучыўся да нейкай кампаніі, якой расказаваў, што ягоная жонка — сцерва. Тыя спачувалі і прапаноўвалі выпіць разам, але не ісці начаваць да гэтай жорсткай жанчыны. Канстанцін, здаецца, плакаў са сваёй няскладнай долі і плаціў за наступную выпіўку.

Куды потым дзелася тая незразумелая кампанія і як ён апынуўся дома ў Лідачкі, Мачуга не памятаў: яго ўспаміны пра гэты прамежак ночы быццам ампутаваў нейкі хірург.

Было ў яго штосьці ўначы з гэтай рудой лісой ці не было? Раздумваючы, Канстанцін спусціў на падлогу ногі ў нясвежых кальсонах. Гм-м-м, кальсоны на ім, значыць… Ды нічога гэта не значыць! Калі ён не памятае сваіх начных прыгодаў, то мог нацягнуць споднее пасля ўсяго.

Зрэшты, перажываць і раздумваць не варта — не мужчынская гэта справа, хай Лідачка сама адказвае за сябе. А калі ён і скарыстаўся магчымасцю — дык на тое ён і мужчына!

Памыўшыся, Мачуга выйшаў з-за шырмы, за якой раней стаяла Лідачка, і пабачыў, як гаспадыня накрывае стол. На хуткую руку яна згатавала яечню на сале, нарэзала да яе хлеба і паставіла на стол поўную чарку — для папраўкі здароўя. Пакуль Канстанцін моўчкі снедаў, Лідачка сядзела насупраць яго, падпершы белай дагледжанай рукой падбароддзе, і з замілаваннем назірала кожны рух мужчыны.

Калі Мачуга, ужо сабраўшыся, стаяў у дзвярах, яна з нейкай крываватай усмешкай загаварыла:

— Дарогу ведаеце ўжо, дык заходзьце. Мне адной вечарамі бывае сумна…

Памаўчала. Потым раптам у вачах загарэліся вясёлыя хітрынкі, а ў голасе прагучала непрыхаваная гарэзлівасць:

— А з вамі вох як весела!

Мачуга нечакана для сябе пачырванеў і імклівым рухам зачыніў за сабой дзверы, грукнуўшы імі аб вушак.

# 11 ТРАЎНЯ, АЎТОРАК, АПОЎДНІ

Недзе на калідоры грукнулі жалезныя дзверы, заскрыгатала засаўка. Чыесьці галасы неразборліва выгуквалі ці то імёны, ці то загады — Мачуга не мог разабраць. Ён сядзеў у кабінеце ўпаўнаважанага АДПУ Рамана Васільчука ўжо гадзіну, але часу не заўважаў: ягоныя думкі разляталіся, быццам пчолы з патрывожанага вулея, і не былі здольныя сабрацца разам.

Гадзіну таму яго выклікалі з працы ў ДПУ, і Канстанцін адразу адзначыў насцярожаныя калючыя позіркі тых, каго лічыў сваімі таварышамі і калегамі: на вуліцу Зялёную проста так не выклікаюць. Не выключана, гаварылі іх позіркі, што спаміж нас затаіўся подлы і каварны вораг, якога даўно трэба гнаць…

У Канстанціна ад гэтага выкліку таксама ёкнула сэрца. Ён не ведаў прычыны гэтага выкліку, але нядобрае прадчуванне апанавала яго.

У прыёмнай яго трымалі каля чвэрці гадзіны. За гэты час Мачуга прыгадваў усе свае ўчынкі за апошні час: ну не было да чаго дачапіцца органам!

Ён з палёгкай перавёў дыханне, калі ў калідор выглянуў непаголены і троху прыпухлы з твару следчы і запрасіў:

— Заходзьце, таварыш Мачуга!

«Таварыш», а не «грамадзянін» — значыць, усялякія перасцярогі былі празмернымі, хваляваацца няма чаго. Або — пакуль яшчэ няма чаго. Бо ў органах можна зайсці ў кабінет таварышам, а выйсці грамадзянінам…

Тым не менш, кабінет Мачугу спадабаўся — правільны савецкі кабінет, дзе няма нічога лішняга: стол, пара крэслаў, сейф у куце. Над сталом — два партрэты: таварышы Ленін і Дзяржынскі ўважліва аглядаюць кожнага наведніка, ацэньваючы яго вернасць справе пралетарскай рэвалюцыі.

Гэтую пралетарскую сціпласць разбаўляла ці то сакратарка, ці то стэнаграфістка, якая асцярожна прыткнулася ў кутку, трымаючы напагатове нататнік і аловак. Адчувалася, аднак, што дзяўчына ў гэтым кабінеце — такая ж госця, як і Мачуга.

Васільчук кхекнуў і вымавіў:

— Мы, таварыш Мачуга, запрасілі вас, каб задаць некалькі пытанняў. Ад вашых адказаў на іх шмат што залежыць, таму прашу быць шчырым, як сапраўдны камуніст.

Ад гэтых словаў у наведніка неяк шчымліва і гадка пацягнула пад дыхавіцай. Тым часам следчы пачухаў сваю непаголеную шчаціну і запытаўся, не зводзячы позірку з яго твару:

— Валянціна Мачуга кім вам з'яўляецца?

— Жонка, — разгублена адказаў Канстанцін.

— Жывяце разам?

— Ну-у… так, — пытанне было настолькі нечаканым, што Мачуга разгубіўся яшчэ болей.

Васільчук працягваў з запытальнай інтанацыяй:

— А суседзі кажуць, што ў вас у сямейным жыцці не ўсё ладна. Кажуць, сварыцеся часам. Яшчэ паведамляюць, што раз-пораз то вы, то яна дома не начуеце…

— Ведаеце, нашае сямейнае жыццё — гэта нашая з ёй справа! — сарваўся, не вытрымаў напружання мужчына.

— Калі вы бачыліся апошні раз з Валянцінай Мачугай? — працягваў следчы, быццам не пачуўшы папярэдняй рэплікі.

— У панядзелак зранку… А для чаго вам гэта ўсё?

— Пытанні тут задаю я! — голас Васільчука нечакана пацяжэў, быццам набрыняў той уладай, якую даваў яму непрыкметны будынак на вуліцы Зялёнай, а яшчэ больш — гэты сціплы кабінет з яго двума партрэтамі. — Раскажыце, дзе вы былі ўчора пачынаючы ад васямнаццатай гадзіны.

Здагадка мільганула ў галаве Мачугі, і ён спытаўся, прадчуваючы адказ і баючыся пачуць пацвярджэнне сваім думкам:

— Штосьці з Валяй здарылася?

Васільчук маўчаў, разглядаючы Канстанціна ва ўпор, і яго сцятыя вусны не варушыліся, быццам склееныя разам. Маўчанне зацягнулася: следчы чакаў адказу, а Мачуга не мог, не быў здольны нешта вымавіць, бо думкі і словы ў яго галаве замітусіліся растрывожаным роем.

Ціха прачысціла горла стэнаграфістка, і гэты асцярожны кашаль перапыніў пакутлівую паўзу. Васільчук, чый твар быццам скамянеў, сказаў нягучна, але акуратна вылучаючы кожнае слова:

— Таварыш Валянціна Мачуга была забітая сёння ўначы. Яе зарэзаў невядомы. Або — невядомыя. Забітая адыгрывала значную ролю ў савецкім жыцці горада, і таму яе смерць, магчыма, стала адным з актаў палітычнага бандытызму і замахам на савецкую ўладу. Вось чаму справай займаецца не крымінальны вышук, а АДПУ. Таму настойліва рэкамендую вам узгадаць усё, чым вы займаліся мінулым вечарам і ноччу…

Следчы раскрыў бляшаны партабак, дастаў адтуль папяросу і, размяўшы яе ў пальцах, звыклым жэстам сунуў у зубы. Канстанціну цыгарэту ён не прапанаваў.

# 11 ТРАЎНЯ, АЎТОРАК, ВЕЧАР

Канстанціна выпусцілі з ДПУ пад вечар, калі доўгія цені ад дрэваў клаліся ўжо не на зямлю, а на сцены і стрэхі дамоў. Сышоўшы з прыступак мураванага ганка, ён спыніўся і з асалодай уздыхнуў: хоць за кратамі ён і не апынуўся, але паветра ў будынку за яго спінай было не такое смачнае, як на вуліцы.

Мужчына паспеў зрабіць пару крокаў, калі наперарэз праз вуліцу да яго кінулася невысокая дзявочая фігурка. Яна абхапіла яго плечы аберуч і ткнулася тварам у грудзі Мачугу. Па рудых кудзерах разгублены Канстанцін пазнаў Лідачку. Ён гладзіў дзяўчыну па галаве, пакуль ейны плач не перарос у кароткія сутаргавыя ўсхліпы.

Час разам з сонцам сцякаў па лісці на дрэвах і знікаў на захадзе за даляглядам.

— Я сказала… сказала ім… што ты ў мяне быў, — праз усхліпы паведаміла Лідачка. — Усю ноч быў…

Цяпер Канстанцін зразумеў, чаму яго выпусцілі. Па вачах Васільчука падчас допыту ён бачыў, што той не верыць у яго невінаватасць. Ці ж такая ўжо рэдкасць, што муж забівае жонку пры сварцы? Да таго ж і адносіны ў іх з Валянцінай былі далёка не ідэальныя. «Алібі вы, грамадзянін Мачуга, таксама не маеце, — зазначыў следчы, даслухаўшы расповед Канстанціна

пра мінулую ноч і яго прызнанне, што ён не памятае часткі сваіх прыгодаў. — Такім чынам, вы становіцеся галоўным падазроным у справе забойства вашай жонкі. Думаю, наступныя дні вам давядзецца пабыць пад вартай», — суха канстатаваў Васільчук. І дадаў, што рашэнне прыме пасля таго, як выслухае паказанні Васіля Кашаля і Лідачкі… гм, грамадзянкі Лідзіі Бурцавай.

У галаве і ў душы Канстанціна ўжо не было той разгубленасці, якая апанавала яго ўдзень пры паведамленні пра жончыну смерць. Апошнія некалькі гадзін падзейнічалі на яго быццам халодны душ — ацверазілі розум і абудзілі волю. Быццам зноў вярнуўся ліхі кавалерыст на фронт, дзе толькі ад яго рашэнняў і дзеянняў залежалі лёсы і жыцці навакольных людзей.

— Дзе забілі Валю, ты ведаеш? А то мне следчы гэтага не сказаў, — патлумачыў ён у адказ на няўцямны погляд Лідачкі.

— На самым пачатку Падгорнай. Уначы гэта было, недзе каля гадзіны ночы, кажуць. Крыві з яе нацякло — страх!

Жанчына сцялася, нібыта ратуючыся ад таго ўяўнага ручая крыві, што выцек з забітай Валянціны.

— Каля гадзіны, кажаш… — задуменна паўтарыў Канстанцін. — А я да цябе калі заявіўся? Толькі мне праўду кажы!

Лідачка апусціла галаву, безнадзейна спрабуючы схаваць твар за кароткімі рудымі кудзеркамі. Ціха прашаптала:

— Каля трэцяй…

Мачуга адчуў, як усярэдзіне яго нешта абарвалося і нейкі ненатуральны халадок стаў запаўняць яго знутры. Зямля пахіснулася пад яго нагамі — ці то сусвету, ці то самому Канстанціну неставала трываласці. Усё было вельмі кепска, і зусім не выключана, што менавіта ён сам, сваімі рукамі па п'янай лавачцы зарэзаў сваю жонку — гэтую любую і зненавідную жанчыну. Роспач запаўняла яго лёгкія, перашкаджаючы дыхаць.

— Дык нашто следчаму ты збрахала? — голас Мачугі афарбавала прыкрасць. — Калі апытаюць тваіх суседзяў, то могуць жа даведацца пра тваю хлусню. Скажуць, што хаваеш злачынца, — мала табе не будзе: органы самі не жартуюць і чужых жартаў не разумеюць… Ён памаўчаў і дадаў з непрыхаванай горыччу:

— Ну і… Можа, я напраўду і забіў яе.

Лідачка падняла на яго пачырванелыя, быццам у трусіка, вочкі і адмоўна закруціла галавой — яе рудыя кудзеркі ад рэзкіх рухаў узняліся, ствараючы залацісты арэол вакол галавы:

— Не, ты ні пры чым! Я ўпэўненая! Я ж кажу — там вялізная лужына крыві. А ты да мяне прыйшоў

хоць і брудны, але без ніводнай кроплі крыві — ні на вопратцы, ні на сабе.

Яна памаўчала і раптам тонка, нервова хіхікнула:

— Пагрукаўся ў шыбу з двара і праз вакно ўваліўся — ледзь паспела кветкі зняць з прываконня…

# 11 ТРАЎНЯ, АЎТОРАК, ПОЗНІ ВЕЧАР

Хлюдзінскі даведаўся пра смерць Валянціны таксама ў аўторак. Увесь горад толькі і казаў пра жорсткае забойства.

Напярэдадні яны не дамаўляліся сустрэцца, бо Валянціна заявіла, што ў яе пасяджэнне жаночага гуртка, а потым сустракацца ўсё адно няма сэнсу, бо ў яе пачаліся жаночыя дні. Антон не настойваў, хаця яму і карцела сказаць, што не адныя ж любошчы звязваюць іх…

Цяпер ён адчуваў, як перагараюць у ім усе недасказаныя словы, пакідаючы па сабе чорную пустку самоты.

Хлюдзінскі зачыніў музей і сышоў бадзяцца па горадзе. Ногі ягоныя механічна перасоўваліся па вуліцы, але сам Антон не бачыў, куды ён ідзе. Не заўважаў ён і навакольных людзей, таму часам натыкаўся на іх, але нават не прасіў прабачэння, калі працягваў свой мудрагелісты маршрут.

Пад позні вечар, калі сутонне мякка аплятала горад, ногі прынеслі Хлюдзінскага да трупярні. Змрочны цагляны будынак без вокнаў насцярожана ўслухоўваўся ў наваколле. Цяжкія дзверы, толькі яны адны звязвалі трупярню з гэтым светам, светам жывых.

Дзверы ды яшчэ вартаўнік дзядзька Базыль — кульгавы, сівы, з віслымі вусамі. За пяць рублёў гэты правінцыйны Харон пагадзіўся пусціць Хлюдзінскага ў морг і даць яму пабыць сам-насам з забітай жанчынай.

— Дуркаваць не будзеш? — сіплым голасам запытаўся дзядзька Базыль.

— Што? — не зразумеў Антон. — Мне развітацца з ёй трэба, пагаварыць.

Вартаўнік матлянуў галавой — ці то прыняў тлумачэнні, ці то проста адказваў сваім думкам. Пакінуўшы Антона аднаго ў пакоі («Чакай тут!») і падцягваючы нагу, ён выйшаў некуды ў паўзмрок калідораў.

Пустая каробка пакоя, у якой няма нічога: ні стала, ні крэсла, ні шафы. Сцены, абкладзеныя зялёнай халоднай кафляй, цэментавая падлога. Усё гэтае непрывабнае памяшканне быццам аблізвае жоўтае няяркае святло з голай электрычнай лямпачкі пад столлю. Няўтульна, па-сірочы.

Праз пару хвілінаў Базыль вярнуўся ўжо з каталкай, на якой ляжала цела, прыкрытае прасцінай.

Сыходзячы, вартаўнік сказаў наапошку:

— Я дзверы прычыню, бо ці мала хто аб'явіцца…

Дзверы пакоя з глухім грукатам адрэзалі ад свету Хлюдзінскага і Валянціну — тое, што яшчэ нядаўна было ёю. Цяпер Антон бачыў перад сабой застылы

белы твар чужой жанчыны. Яна была толькі крыху падобнай да той, каго ён прывык лашчыць начамі і бачыць зранку каля сябе, каго ён апантана цалаваў…

Незнаёмая, невядомая яму жанчына. Незнаёмы твар. Цела… Ці будзе гэта цела ягонай Валянціны? Антону закарцела прыўзняць прасціну і агледзець цела. Раптам яго працяла абсурдная надзея, што адбылася памылка і Валянціна не памерла, а яму паказваюць кагосьці іншага.

Прасціна папаўзла наніз, бессаромна агаляючы нежывую бель, і Хлюдзінскі пабачыў рану, якая абарвала жаночае жыццё. Горла было перарэзанае амаль ад вуха да вуха, адкрываючы другі рот, ствараючы пачварную ўсмешку… Потым ён пабачыў знаёмую радзімку на левай ключыцы, і надзея, якая нясмела разгаралася ў ім, канчаткова згасла. Не было ніякіх сумневаў — гэтая жанчына з малазнаёмым яму тварам была Валянцінай.

Ён не ведаў, колькі часу стаяў перад напаўраскрытым целам. Думкі пакінулі яго, пачуцці застылі, як замарожаныя. Хлюдзінскі не варушыўся да той пары, пакуль недзе ў глыбіні яго свядомасці не пачаў бліскаць маяком нейкі незразумелы, але навязлівы сігнал. Гэтая навязлівасць замінала яму, не давала цалкам занурыцца ў сваё гора, і Антон вырашыў разабрацца з гэтым адчуваннем, якое так недарэчна

выплыла з нетраў яго свядомасці.

Штосьці было не так з гэтым забойствам? Дык з забойствамі заўжды «штосьці не так» — хіба можа быць «усё так», калі ў чалавека гвалтоўна забіраюць жыццё?

Хлюдзінскі глядзеў на рэзаную рану і адчуваў, што менавіта яна стала крыніцай ягонага неспакою. Ён намагаўся зразумець, што яго бянтэжыць. І свядомасць нарэшце скарылася гэтым высілкам — памяць падказала, што зусім нядаўна ён бачыў зусім такую ж рану ў іншай жанчыны.

Некалькі дзён таму. Вуліца Падгорная. Натоўп людзей, якія сабраўся вакол нерухомага цела забітай прастытуткі. Дзяўчына ляжала з такім самым перарэзаным горлам.

І вочы.

Не, не вочы забітай дзяўчыны — гэта былі вочы мужчыны. Вырачаныя, поўныя нянавісці вочы Канстанціна Мачугі, які глядзеў на яго з натоўпу. Іх позірк быццам нанова апёк Хлюдзінскага. Як і чаму Мачуга апынуўся на месцы таго забойства? Ці выпадковасць гэта? Ці звязаныя паміж сабой забойствы той прастытуткі на Падгорнай і Валянціны?

У гэты момант лямпачка без абажура, якая асвятляла няўтульны голы пакой, мільганула і згасла. Непраглядная пагрозлівая цемрадзь імгненна запоўніла ўсё навокал. Для праверкі Хлюдзінскі паднёс да твару

свае рукі, але не змог пабачыць нават іх.

Дзесьці тут былі дзверы. Калі ў іх пагрукацца, павінен пачуць вартаўнік. Але дзе яны? У які бок рухацца?

І чаму ўвогуле пагасла лямпачка? Растрывожаны роздумамі розум падказваў Хлюдзінскаму, што не варта адмаўляць чалавечага ўмяшання. Можа быць, забойца, які зарэзаў прастытутку і Валянціну, цяпер прыйдзе па яго?

Антон асцярожна зрабіў крок назад, потым другі. Зараз ён дойдзе да сценкі, а потым, трымаючыся ўздоўж яе, дабярэцца да дзвярэй. Вартаўнік павінен жа пачуць грукат!

А калі пачуе забойца? Думкі ў галаве Антона блыталіся, і ўрэшце ён вырашыў, што лепш усё ж пастарацца выбрацца з гэтай змрочнай пасткі.

Трэці крок. Рука нечакана ўпёрлася ў халодны кафель сценкі. Хлюдзінскі паволі пайшоў, трымаючыся гэтай імправізаванай ніткі Арыядны, якая павінна вывесці яго са смяротнай цемрадзі да святла, да людзей.

Цішыню пакоя прарэзаў нечаканы гук: штосці шчоўкнула, зарыпела — і ў цямрэчы намаляваўся светлы прастакутнік. Адразу ж яго запоўніла чалавечая постаць.

— Грамадзянін Хлюдзінскі, вы тут? Мы вас цэлы дзень шукаем! Можа, выйдзеце і пагаворым у нас, у АДПУ?

# НОЧ НА 12 ТРАЎНЯ 1926 ГОДА, СЕРАДА

Васільчук затрымаўся ў кабінеце да позняга часу: такая праца — што ж тут паробіш! Кажуць, што ў Крамлі таварышы з ЦК таксама не спяць начамі — разважаюць, як найлепш далей жыць працоўнаму народу і як даць дыхту буржуям ды іх імперыялістычным прыхвасням…

Аператыўны ўпаўнаважаны пачухаў патыліцу сваімі вузлаватымі пальцамі ды паспрабаваў упарадкаваць у галаве ўсё, пра што ён даведаўся за доўгі, надзвычай доўгі дзень. Забойства таварыша Валянціны Мачугі сталася для яго справай першачарговай важнасці — так і начальства сказала, дый сам Васільчук гэта разумеў. Ён акуратна зняў са стала ўсе тэчкі, пераклаў іх на пустое крэсла. На шырокім стале засталіся пратаколы допытаў Канстанціна Мачугі, мужа забітай, і Антона Хлюдзінскага, яе… гм… палюбоўніка.

Васільчук не сядаў — ён навіс над сталом, бы тая пізанская вежа, абапершыся для надзейнасці абедзвюма рукамі аб прыемна шурпатую паверхню. Ён паглядзеў на адзін пратакол, потым на другі… Быццам узважваў іх

на нябачных шалях, вырашаючы, чые ж словы нясуць больш праўды.

Потым следчы ўсё ж апусціўся на крэсла, якое незадаволена рыпнула, паклаў перад сабой чысты аркуш паперы і стаў маляваць на ім. Першай пасярод аркуша з'явілася ўмоўная жанчына — галава, павязаная хусткай, пад ёй два кругі грудзей, а далей — доўгая спадніца. Над фігурай Васільчук надпісаў: «В.М.». Такія ж схематычныя фігуры, але мужчынскія, з'явіліся злева і справа ад жанчыны, але крыху ніжэй за яе. Левую постаць следчы абазначыў літарамі «К.М.», падумаў і дамаляваў на галаве фуражку. Правая фігура атрымала акуляры на знак адрознення і подпіс: «А.Х.».

Вочы зліпаліся пасля напружанага дня, і Васільчук цёр павекі, пад якімі быццам было насыпана пяску.

Значыць, маем любоўны трохкутнік: забітая Валянціна Мачуга жыла ў шлюбе з Канстанцінам Мачугам і мела пазашлюбную сувязь з Антонам Хлюдзінскім. Кожны з мужчын ведаў пра існаванне другога. Абодва маглі раўнаваць…

Васільчук прыгадваў урыўкі сённяшніх допытаў, спрабуючы скласці іх у адзіную карціну. Мачуга казаў, што з жонкай у яго складаныя адносіны былі цягам некалькіх гадоў, але апошнім часам ніякіх вялікіх сварак не было. Яны жылі побач як таварыш з таварышам, надзейнай савецкай сям'ёй, дзе адзін таварыш заўжды

прыйдзе на дапамогу другому, а калі трэба — то і выкажа справядлівую крытыку. Мачуга паведаміў, што ведаў пра сувязь жонкі з Хлюдзінскім, але савецкая ўлада дала жанчыне свабоду і права выбару не для таго, каб заганяць яе ў новае рабства, таму ён стараўся з разуменнем ставіцца да паводзінаў жонкі. У сваю чаргу, паведаміў далей муж забітай, яна таксама не звязвала яму рукі, а прасіла пачакаць, пакуль яна разбярэцца ў сабе самой і сваіх жыццёвых мэтах... Мачуга меркаваў, што жонка збіралася парваць са сваім палюбоўнікам, бо пачуцці астылі. Магчыма, што яна заявіла гэтаму... (тут Мачуга грэбліва сплюнуў на падлогу, але схамянуўся пасля строгай заўвагі следчага), што пакіне яго, а ў таго прачнулася рэўнасць, і ён забіў няшчасную жанчыну.

Васільчук дастаў з кішэні важкі металічны партабак, вывудзіў з яго папяросу і чыркнуў запалкай. Даўней, на фронце, ён паліў махорку, як і ўсе навокал, але цяпер перайшоў на папяросы: дастатак дазваляў дыміць не самасадам, а фабрычнымі... Для большага форсу ў яго быў яшчэ і муштук: па-першае, гэта прыгажэй, а па-другое, папяросу можна дакурыць да канца, не рызыкуючы апячы сабе вусны.

Што ж, пяройдзем да наступнага персанажа.

Хлюдзінскі прызнаў, што прапаноўваў Валянціне сысці ад мужа і жыць у яго. Зрабіць гэта, па яго словах, жанчына адмовілася, але прычыны не патлумачыла. На

думку Хлюдзінскага, душа Валянціны мітусілася паміж цяжкім выбарам — абавязкам сямейнага агменю і прагай кахання, якога яна не адчувала дома. Ён нават выказаў меркаванне, што Валянціна, магчыма (хаця ён, вядома ж, можа памыляцца, але яму так падаецца, і ён адчувае, што гэта, відаць, недалёка ад праўды), пабойвалася сысці ад мужа, бо ён мог яе папросту збіць на горкі яблык. Пагатоў, такое ўжо здаралася раней… Хлюдзінскі не здзівіцца, калі даведаецца, што яна паведаміла гэтаму вылюдку пра сваё жаданне сысці да каханага чалавека, а той у адказ пазбавіў яе жыцця.

Такім чынам, атрымоўваем, што матывы для забойства ёсць у абодвух.

А што з алібі? Гэтае слова Васільчук даведаўся дастаткова нядаўна і любіў бліснуць ім — не толькі перад іншымі, але і перад сабой.

У таварыша Мачугі алібі — пацвярджае гэта Лідзія Бурцава, сакратарка з будаўнічага трэста. Кажа, прыйшоў уначы да яе. Калі суаднесці яе словы з момантам забойства, то атрымаецца, што Мачуга забіць не мог… Праўда, сам муж забітай грамадзянкі пра тое, як правёў ноч, не памятае. Таму застаецца адкрытым пытанне, наколькі можна давяраць словам грамадзянкі Бурцавай.

Васільчук гмыкнуў: лятуць жа на гэтага Мачугу прыгожыя бабы, як тыя матылі ўначы на лямпу! І жонка

ў яго прывабная была, і гэтая грамадзянка Бурцава… Адно што стрыжаная яна па цяперашняй модзе: кароткія валасы, ухапіцца няма за што. Васільчук лічыў, што жанчына павінна мець доўгія валасы — гэтак і мужыку лацвей справіцца з дурніцай, калі тая заўпарціцца: хапануў за касу ды тарганууў мацней, каб ведала сваё месца.

Следчы зрабіў апошнюю зацяжку і выбіў рэшні попел з муштука, далікатна пастукаўшы ім па рабрыне сталешніцы. Жоўтая лямпачка, якая па-сірочы звісала зверху, быццам апошні яблык у восеньскім галлі, нервова міргнула.

Што ж, таварыша Мачугу даводзіцца мець на ўвазе, хаця пакуль што яго можна і не затрымліваць — пралетарскае чуццё падказвала Васільчуку, што ўцякаць Мачуга не збіраецца.

Цяпер — другі, Хлюдзінскі. Гэта, безумоўна, асоба больш падазроная, чым Мачуга. Адукацыю ён атрымаў яшчэ пры старым рэжыме, а тады сумленнаму працоўнаму чалавеку не было магчымасці так прабіцца — значыць, прадстаўнік буржуйскага класа. Увечары перад забойствам, па словах суседзяў, дадому Хлюдзінскі прыйшоў рана, цэлы вечар быў дома, нікуды не сыходзіў. У вакно яны бачылі, як Хлюдзінскі сядзеў сычом пад лямпачкай і нешта пісаў цэлы вечар… Потым лямпачку загасіў, але з дому не выходзіў.

Вось і атрымоўваецца, што ні аднаго з мужчын Валянціны Мачугі ні затрымаць, ні рашуча выкрасліць з ліку падазроных нельга.

Зрэшты, не стаў Васільчук цалкам адкідаць магчымасць і таго, што забойцам мог стаць нехта трэці, следству пакуль што невядомы. І паміж фігуркамі «К.М.» і «А.Х.» з'явіўся круг, у якім следчы вывеў гарбаты пытальнік.

Потым прыгадаў, што казалі медэксперты: забойцам хутчэй за ўсё быў мужчына, ростам вышэйшы за зарэзаную Валянціну Мачугу. Цяжка ўздыхнуўшы, Васільчук прымаляваў да круга такое ж тулава, як у двух суседніх фігурак, пазначаных літаркамі, — мужчына дык мужчына.

Незразумелым заставалася адно: ці мае дачыненне да смерці савецкай актывісткі Валянціны Мачугі забойства жанчыны лёгкіх паводзінаў Рывы Гольдберг, якое адбылося напярэдадні? Не хацелася, ой не хацелася Васільчуку ставіць гэтых дзвюх забітых разам! Уся яго натура пратэставала супраць таго, каб аб'ядноўваць у адну справу такіх процілеглых асобаў. Ну як можна нават ставіць іх побач? Гэта ж ужо бадай што выглядае нейкай дыс-крэ-ды-та-цы-яй савецкай улады!

Яму падавалася, што забойствам прастытуткі павінен займацца крымінальны вышук, бо гэта такая драбяза. А ён, як прадстаўнік АДПУ, павінен

расследаваць магчымае палітычнае злачынства. Але адмахнуцца ад таго факта, што абедзве жанчыны былі забітыя ў адным раёне і падобным спосабам, следчы таксама не мог.

Васільчук уздыхнуў і рашуча сабраў усе запісы ў мышастую кардонную тэчку са стандартным друкаваным надпісам: «Справа №» — і туга завязаў матузкі, каб не вылецела ніводная паперчына. Месца для тэчкі знайшлося ў верхняй шуфлядзе стала.

Зрэшты, паверхня стала пуставала нядоўга: з сейфа Васільчук дастаў яшчэ адзін дакумент. Вядома ж, яму даручылі расследаванне важнага (і, магчыма, палітычнага!) забойства, але іншых абавязкаў з яго ніхто не здымаў. Дый некаторыя справы ён і сам не аддаў бы нікому іншаму. Так, не хацеў Васільчук ні з кім дзяліцца сваім самым каштоўным агентам — «Бландзінкай». Менавіта свежае данясенне «Бландзінкі» ён і дастаў цяпер з сейфа.

Учытаўшыся ў тэкст данясення, Васільчук абвёў адзін абзац: «*У суботу, 8 траўня, на кватэры АЛЯКСАНДРА ПІЛІПЦА, нядаўна пераведзенага з партыйнай на гаспадарчую працу — у малочную галіну, пад выглядам сяброўскай вечарынкі сабраліся прадстаўнікі левай апазіцыі. Першы тост выпілі за таварышаў Леніна і Троцкага разам, другі — за Сусветную Рэвалюцыю. Прысутны на вечарынцы КАНСТАНЦІН МАЧУГА заявіў,*

*што партыі патрэбная чыстка, што адбываецца перараджэнне партыі, што правы элемент бярэ верх. Па словах МАЧУГІ, Рэвалюцыя цяпер перажывае своеасаблівы перыяд рэстаўрацыі, як гэта бывала заўжды, пасля кожнай рэвалюцыі – напрыклад Французскай. І цяпер, заявіў ён, сапраўдныя рэвалюцыянеры павінны зноў заняцца чарнавой працай і не баяцца, што ім будуць супрацьстаяць учарашнія таварышы. Мы такое ўжо бачылі не раз, заявіў МАЧУГА, калі партыя бальшавікоў, абараняючы інтарэсы рабочага класа і найбяднейшага сялянства, паварочвала зброю супраць тых, з кім учора разам стаяла нібыта плячо да пляча. Так было з меншавікамі, якія здрадзілі рабочаму класу і перайшлі на дробнабуржуазныя пазіцыі. Так было з левымі эсэрамі, якія сваімі бяздумнымі паводзінамі хацелі нашкодзіць першай у свеце дзяржаве рабочых і сялян».*

Васільчук яшчэ раз перачытаў абзац, і крывая ўсмешка прыўзняла правы край ягоных вуснаў, а ў вачах бліснула радасць пераможцы. А што, таварыш Мачуга, не такі ты ўжо, мажа, і таварыш… Папярэднія заслугі не гарантуюць, што ўчарашні таварыш не зробіць памылак. Не памыляецца адна толькі партыя, і яна яшчэ скажа сваё важкое слова. А кампетэнтныя органы ёй дапамогуць.

# 14 ТРАЎНЯ 1926 ГОДА, ПЯТНІЦА, ВЕЧАР

Канстанцін Мачуга цвёрда ведаў, хто вінаваты ў смерці ягонай жонкі — гэты брандахлыст Хлюдзінскі. Не зблыталася б Валянціна з ім, то яшчэ была б жывая, і, магчыма, усё б у іх наладзілася не горш, як у іншых. Звекавалі б век, як людзі…

Калі б Хлюдзінскі трапіўся яму на вочы ў першыя гадзіны або нават першы дзень пасля забойства Валянціны — не жыць бы яму. Не здрыганулася б рука былога чырвонага камандзіра! Не адвык ён яшчэ трымаць пісталет і прыцэльна страляць.

Але не трапіўся Хлюдзінскі на вочы Мачугу, пашанцавала акулярніку-інтэлігенціку.

Канстанцін правёў апошнія дні ў нейкім цьмяным тумане: распытвалі яго следчыя — ён ім штосьці адказваў, нешта казалі яму калегі на працы — альбо мармытаў, не ўдумваючыся ў сэнс сказанага, альбо проста паціскаў плячыма.

Напярэдадні, у чацвер увечары, з морга аддалі цела Валянціны — цела чужой, незнаёмай яму нават з выгляду жанчыны. Васкова-белая скура шчыльна аблягала твар, быццам была налепленая адразу на косткі — без усялякіх цягліцаў або тлушчу.

Канстанцін хацеў сказаць, што тут усё наблыталі і

што гэта не яго жонка. Але яго спыніў чыйсьці халодны голас унутры: «Не, нічога не наблыталі. Ты і сам гэта ведаеш, але не хочаш паверыць». Голас быў вельмі знаёмы, але Мачуга не мог апазнаць чый. Міхаіла Фрунзэ, разам з якім ён на браневіку ўязджаў у Менск, каб узняць над горадам чырвоны сцяг? Ці іншага Міхаіла — камандарма Тухачэўскага, пад чыім камандаваннем ён ішоў супраць брацішак-матросаў у Кранштаце? Камандзірскі голас быў, камандзірскі… «Збярыся! Што ты смаркачы развесіў, разнюніўся? Ты чырвоны камандзір ці паненка салонная?» — голас набрыняў сталёвай цвёрдасцю.

Толькі праз некалькі хвілінаў Мачуга зразумеў, што голас, які гучыць усярэдзіне, не належыць ніводнаму з яго камандзіраў — гэта яго ўласны голас, не чужыя, а ягоныя ж інтанацыі. І гэтае ўсведамленне нібы дало яму другое дыханне, так добра знаёмае бегунам-спартоўцам.

…Валянціну хавалі ў пятніцу.

На пахаванні Мачуга быў сабраны і засяроджаны, папярэдняя бяссонная ноч залегла шызаватым ценем пад вачыма, востра прарэзала складкі каля носа. Ён моўчкі слухаў старшыню акружнога камітэта КПБ таварыша Стасевіча, што расказваў, якога цудоўнага таварыша і паплечніка ў барацьбе за светлую будучыню ўсяго чалавецтва мы страцілі ў гэты

складаны час. Партыйны кіраўнік запэўніў, што светлая памяць пра таварыша Валянціну Мачугу ніколі не пакіне нашыя сэрцы. І ворагі, якія вырвалі яе з нашых савецкіх шэрагаў, жорстка пралічыліся, калі разлічвалі, што гэтая цяжкая страта спыніць наш нястомны поступ да камунізму, — прагрэсіўныя грамадзяне нашай радзімы стануць шчыльней плячом да пляча, каб наблізіць нашу светлую будучыню. І ў гэтай будучыні, завяршыў сваю палымяную прамову Стасевіч, светлай зоркай будзе ззяць імя таварыша Валянціны Мачугі.

Потым выступалі кіраўнік акругавага выканкама Амбражунас, і загадчыца жаночага аддзела акругкама КПБ Захарава, і старшыня акругавага прафсавета Келер. І ўсе яны так ці іначай паўтаралі сказанае Стасевічам: пра шэрагі, з якіх вырвалі нашага таварыша, пра светлую будучыню і пра тое, як пралічыліся ворагі нашай роднай савецкай улады.

Мачуга ўслухоўваўся ў гэтыя словы, пры кожным выступе даючы сабе маўклівую клятву выкрыць забойцу Валянціны і адпомсціць яму. Гэта быў ужо не той гарачкавы намер, які пагражаў жыццю Хлюдзінскага тры дні таму, — гэта была халодная разважлівасць камандзіра, які рыхтуе свой полк да атакі. І менавіта гэты халодны цвярозы разлік спыніў Канстанціна ў той момант, калі ў задніх шэрагах, за самымі дальнімі

спінамі ён заўважыў зненавідную постаць канкурэнта, які атруціў яму жыццё і растаптаў яго сям'ю.

Мачуга хацеў кінуцца праз натоўп, раскідваючы тых, хто трапіцца на дарозе. Дабрацца і ўчапіцца ў горла абедзвюма рукамі. Аж пакуль абмяклае здушанае цела не здрыганецца апошні раз і не сціхне канчаткова… Але голас усярэдзіне яго строга скамандаваў: спыніся! Не цяпер, не цяпер — будзе яшчэ магчымасць.

Увечары ён перабіраў у памяці ўсе падзеі гэтага доўгага і складанага дня, быццам перакатваў у пальцах каштаны. І пакрысе ўнутры Мачугі праясняўся, крышталізаваўся намер вывесці на чыстую ваду гэтага брандахлыста і пустабрэха Хлюдзінскага. Як гэта зрабіць, Канстанцін яшчэ дакладна не ўяўляў, таму перш-наперш вырашыў пачаць сачыць за чалавекам, вінаватым у смерці яго жонкі.

# 26 ТРАЎНЯ 1926 ГОДА, СЕРАДА, ДЗЕНЬ

Васільчук сядзеў у сваім кабінеце і пракручваў у галаве думкі. Следства па справе Валянціны Мачугі зайшло ў тупік: нейкія колцы ў ім пракручваліся ўхаластую, не даючы ўсяму механізму рухацца наперад. Ужо некалькі дзён ён не мог паведаміць начальству пра нейкі прарыў у расследаванні, і гэта нервавала і бянтэжыла следчага.

Нікога з падазроных Васільчук па-ранейшаму быў не ў стане абвінаваціць з канкрэтнымі доказамі, і гэта таксама не дадавала яму спакою. І Хлюдзінскі, і Мачуга заставаліся для следства ў роўнай ступені падазронымі. Да таго ж быў яшчэ той самы невядомы, чыю магчымасць следчы таксама пакуль не мог адпрэчыць.

У выніку яму давялося пачаць расследаванне ледзь не ад самага пачатку, каб пабачыць, ці не было прапушчана чаго-небудзь.

Васільчук нанова вывучыў пратаколы з месцаў забойства Валянціны Мачугі і Рывы Гольдберг, а таксама перагарнуў вынікі судовых экспертызаў. Са шкадаваннем у чарговы раз ён адзначыў, што падстаў для таго, каб расследаваць гэтыя справы асобна, усё ж такі няма. Судовы медык прыходзіў да высновы, што і адну, і другую жанчыну зарэзаў чалавек росту каля 180

см, фізічна моцны, бо яму хапіла аднаго ўдару. Хутчэй за ўсё гэта быў мужчына.

Звярталі на сябе ўвагу і самі раны, нанесеныя абедзвюм жанчынам. Судовы медык адзначаў, што абедзве яны былі забітыя ідэнтычнай зброяй вельмі спецыфічнага выгляду. Кожны раз смяротны ўдар быў нанесены, без усялякага сумневу, адзін раз. Але пры гэтым рана атрымоўвалася шырокая, з нераўнамернымі краямі, быццам яе рабілі некалькі лёзаў адразу. Як меркаваў эксперт, гэткі вынік магло б даць лязо хвалістай формы, кожны «пялёстак» якога крыху разведзены ўбок ад астатніх — прыкладна як зубы пілы.

Прылада забойства не была знойдзеная на месцы злачынства. Ператрусы, праведзеныя ў дамах Мачугі і Хлюдзінскага, таксама не далі плёну. Абодва мужчыны на допытах не прызналіся ў знаёмстве з такой зброяй і ўвогуле выглядалі вельмі здзіўленымі — тут Васільчук давяраў сваёй інтуіцыі: знарок такое здзіўленне не разыграеш…

Што яшчэ мае следства?

Удары былі нанесеныя знянацку, калі ахвяры не былі гатовыя да нападу. З гэтага вынікае, што нападнік быў добра знаёмы з ахвярамі — такую выснову Васільчук зрабіў, падумаўшы пра Валянціну Мачугу. З увагі на занятак Рывы Гольдберг прыпушчэнне выглядала занадта бедным: прастытутка магла ведаць

розных тыпаў, у тым ліку і небяспечных злачынцаў — гарадское дно стракаціць персанажамі, якія засталіся ў спадчыну ад царскага рэжыму.

Звестак гэтых было надзвычай мала, пагатоў — сведкаў ніводнага з забойстваў выявіць так і не ўдалося. А высокіх мужчын, здатных адным ударам зарэзаць безабаронную жанчыну, у горадзе было столькі, што хоць ты праводзь павальныя арышты. Але арыштны дом не змесціць столькі затрыманых… І Васільчук узяўся спярша апытваць сябровак забітай Гольдберг, ці не віліся вакол яе апошнім часам якія-небудзь цёмныя асобы. Рыўкіны прыяцелькі ўсе ў адзін голас казалі, што нікога надзвычайнага каля яе не было, грошай яна зарабляць больш не стала, пастаяннага мужчыны каля яе таксама ніхто не заўважаў. Шукаць жа ўсіх тых, хто карыстаўся паслугамі прастытуткі, як разумеў следчы, было дарэмна — гэты след вёў у нікуды.

Апошняй надзеяй Васільчука былі фатаграфіі Мачугі і Хлюдзінскага, якія ён паказваў сяброўкам Гольдберг: ці не пазнае каторая з іх аднаго ці другога мужчыну на здымках? Аднак спадзевы гэтыя былі марныя, бо каляжанкі пацвярджалі, што мужчыны на фатаграфіях выглядаюць добра, і яны б такіх мужчын абавязкова запомнілі б, калі б тыя з'явіліся каля Рыўкі, бо адразу відаць, што такі мужчына не пакрыўдзіць ні ў чым, і павесяліць умее…

Змарнаваўшы два дні на апытанні сябровак забітай грамадзянкі Гольдберг, Васільчук пераключыўся на тых, хто быў больш ці менш блізка знаёмы з Валянцінай Мачугай — гэтая лінія следства падавалася яму больш перспектыўнай. І цяпер па другі бок стала перад ім сядзела Стэфанія Марчанка — маладзіца, у якой Канстанцін Мачуга з лёгкасцю апазнаў бы кірпатую госцю, якую бачыў у сваёй жонкі падчас яе жаночых сходаў.

Зрэшты, Васільчук звярнуў увагу найперш не на кірпаты нос, а на заўважныя пругкія грудзі маладой жанчыны. Менавіта яны раз-пораз мімаволі прыцягвалі магнітам яго позірк — яны так спакусліва пакалыхваліся, калі яна пачынала жэстыкуляваць.

Стэфанія троху бянтэжылася важнай установы, у якую яе запрасілі, але разам з тым адчувала пэўны гонар: яе паклікалі, каб яна дапамагла расследаваць важную справу — забойства. Савецкая ўлада спадзяецца на яе дапамогу, і яна, Стэфанія, павінна дапамагчы роднай уладзе чым можа.

Ну, што яна можа сказаць пра забітую Валянціну Мачугу… Добрая была жанчына, душэўная, вясёлая, сапраўдны пралетарскі таварыш.

Васільчук перапыніў хваласпевы:

— А скажы, Стэфанія, ты ж нярэдка заходзіла да Валянціны ў госці, так? Пра што вы там размаўлялі?

Муж ейны кажа, што гаворкі ў вас там былі пра свабоднае каханне ды яшчэ нешта такое…

І рука следчага з растапыранымі пальцамі пакруцілася ў паветры, імкнучыся паказаць «нешта такое»: рука пайшла ўверх, там быццам бы нешта захапіла і потым паспрабавала абнесці гэтае захопленае вакол самой сябе.

Маладзіца зачырванелася:

— Ды не! Ну што вы! Скажаце ж… Валянціна нам казала, што новае грамадства павінна выпрацаваць новую рэвалюцыйную мараль. У новым грамадстве жанчына не павінна быць рабыняй мужчыны, а з'яўляецца яго паўнавартасным таварышам і мае такія ж самыя правы на ўсё, як і мужчына. Яна, Валянціна, чытала нам артыкулы таварыша Аляксандры Калантай, якая піша аб ролі жанчыны ў новым сацыялістычным грамадстве, і ў гэтых артыкулах…

— Вось ты кажаш — «новая мараль», — перапыніў яе следчы. — А старую што, зусім адкінуць? Гэта значыць, што жанчына цяпер будзе спаць з кожным, з кім захоча, так?

Запытальны позірк свідраваў маладую жанчыну, спускаючыся з вачэй на грудзі і зноў падымаючыся да ўзроўню вачэй. Сам Васільчук адчуў, як апякло яго знутры гэтае раптоўнае ўяўленне. Аднак следчы стрымаўся: найперш праца, а ўсялякія вольнасці нікуды

не ўцякуць.

— Ды што вы! — абурылася яна. — Ні пра якую распусту гаворкі ў нас не ішло. А вось казалі мы, што жанчына таксама мае права выбіраць сабе спадарожніка па жыцці. І мяняць яго мае права, калі адчуе такую неабходнасць… А не заставацца прывязанай да кухні і абрыдлага мужа, які не дае ёй развівацца, а толькі становіцца кайданамі, якія трымаюць яе на адным месцы ў старым, прагнілым побыце.

Пабочны назіральнік адчуў бы ў аргументах Стэфаніі не столькі асабіста перажытыя думкі і ўспрынятыя перакананні, колькі гладкія фармулёўкі чужых думак. Аднак Васільчук дыскутаваць з маладзіцай і шукаць слабыя месцы ў яе аргументацыі не збіраўся — яго задачай было расхваляваць яе, разгаварыць так, каб яна менш кантралявала свае размовы. Акурат тады, чакаў ён, Стэфанія і можа распавесці дэталі, якія могуць даць далейшы штуршок следству.

— Гэта значыць, — цягнуў следчы, — што жанчына можа кінуць мужа і пайсці да іншага? Як, напрыклад, сама Валянціна Мачуга, так? Пажыла з адным, потым пайшла да другога… А там, глядзіш, і трэці на даляглядзе намалюецца, і чацвёрты. Дык і іх жа можна сумяшчаць: спаць адну ноч з адным, другую — з другім, трэцюю — яшчэ з іншым, а потым вяртацца да

першага…

— Дарма вы, таварыш следчы, так пра Валянціну кажаце! І не таму, што пра мёртвых нядобра так казаць… Проста яна не такая была, яна шчырая была. І не заводзіла шашні з трэцім-чацвёртым. А пра мужа яна казала — думала сыходзіць ад яго да гэтага свайго Антона. І мужа папярэдзіла пра тое…

— Дакладна толькі адзін Антон быў, Хлюдзінскі? — перапыніў Васільчук. — Ніхто больш халяўкі да яе не смаліў?

— Ну, можа, хто і спрабаваў улягаць, але яна нікому сімпатый не выказвала, — троху сумелася Стэфанія. — Яна ж была яшчэ не старая, прыгожая… Дый да ўлады блізка. Сама казала, што некаторыя мужчыны хінуцца ці то да яе, ці то да ўлады.

Стэфанія хіхікнула, сарамяжліва прыкрыўшы рот рукой. Падумаўшы, дадала:

— Яна казала нам, што ў будучым грамадстве запануе паслядоўная манагамія: муж і жонка будуць жыць разам, пакуль хтосьці з іх не адчуе неабходнасці сысці, рухацца далей. А для гэтага трэба быць сумленным з чалавекам, з якім ты жывеш. Бо як гэта можна — усё жыццё правесці ў хлусні?

— А шмат было тых, хто хінуўся ці то да яе, ці то да ўлады? — асцярожна запытаўся Васільчук. — Яна імёны іх не называла?

Ні імёнаў, ні колькасці гэтых мужчын Стэфанія, на жаль, не ведала.

Калі маладзіца выходзіла з кабінета, следчы чэпкім позіркам яшчэ раз абмацаў яе ладную фігуру, думаючы, што і зад ён бы аблапаў не з меншай ахвотай, чым пышныя грудзі.

# 28 ТРАЎНЯ 1926 ГОДА, ПЯТНІЦА, ДЗЕНЬ

Ад самай раніцы Лідачка Бурцава была шчаслівая. Ды што там «ад раніцы» — яна такая шчаслівая хадзіла апошнія дні! І было з чаго радавацца, бо ейны Косцік ужо не раз заставаўся ў яе начаваць.

Ды хіба толькі начаваць?..

Не, начаваць — гэта, вядома, важна: і асалода, і для здароўя карысна, кажуць.

Лідачка згадала папярэднюю ноч і злёгку пачырванела. Мачуга завітаў да яе позна, на дварэ ўжо стаяла густая цемрадзь. Пасля таго, першага разу ён больш ніколі не прыходзіў п'яным, і гэта Лідачку вельмі цешыла.

Вось і цяпер цвярозы, чыста паголены стаяў ён у дзвярах, не спяшаючыся зайсці. Погляд Канстанціна быццам абмацваў усю Лідачкіну постаць, і яна адчувала яго на сабе так, быццам не было на ёй ні сукенкі, ні бялізны: ні вузенькай ніжняй спадніцы, якая шчыльна абдымала ногі, ні кароткіх шаўковых панталончыкаў… Спрагнёны быў гэты позірк, ненаедны.

І потым, калі ўжо ў цемры яны былі на ложку, Лідачка ўсё яшчэ адчувала гэты погляд, быццам бачыла ў змроку гэтыя чорныя вочы. І мужчынскія рукі,

якія лашчылі яе цела, былі толькі ўвасабленнем, фізічным працягам таго ненатоленага позірку.

Вочы, толькі вочы, поўныя палкай пажадлівасці, бачыла Лідачка, і гублялася ў іх глыбіні. Гэты позірк браў над ёй уладу, заварожваў яе. І таму яна пакорліва працягнула рукі, калі Мачуга стаў іх звязваць ейным жа ядвабным шалем: вось яна я, уся твая! Рабі са мной што хочаш — звязвай, пераварочвай, чапляйся кіпцямі ў мае бакі і жывот… Толькі не выпускай мяне з-пад улады гэтага спрагнёнага позірку, не дазваляй спыніцца гэтаму чарадзейству… І яе звязаныя рукі шалёна тузаліся, бездапаможна чапляліся адна за адну, а потым за прасціну і падушку. Гэтыя рукі намагаліся вырвацца, а потым сутаргава выцягваліся і бязвольна ападалі.

Мука? Цярпенне?

Не-е-е! Так назваць гэта мог бы толькі той, хто ніколі не адчуваў усю асалоду гэтага дзейства. І гэтую асалоду падарыў ён — ейны Косцік, Костачка…

Але гэта ўсё справы начныя, інтымныя, не для ўсіх. А сёння ўвечары Лідачка ідзе ў кіно разам са сваім кавалерам. Яна ўжо ведае, што паказваць будуць фільм «Кобра» з прыгажуном Рудольфам Валянціна.

Яна таксама будзе прыгожай. Вядома, для поўнай адпаведнасці вобразу жанчыны-вамп ёй бы варта быць пякучай брунеткай, а гэты руды колер валасоў надае ёй нейкую легкадумнасць. Ну хіба стануць мужчыны

траціць прытомнасць і падаць да ног рудой кабеты? Толькі да ног брунеткі!..

Таму Лідачцы давядзецца самой удасканальваць тое, што не дадумала прырода.

Найперш, вядома, валасы. Акурат учора яна наведала цырульню і зрабіла сабе «новую галаву»: замест ранейшых кудзерак цяпер валасы ў яе былі ўкладзеныя прыгожымі хвалямі. Цырульніца падчас стрыжкі прыгаворвала, што хлопчыкавая фрызура пасуе не ўсім, але менавіта ёй, Лідачцы, — нават вельмі і вельмі. («А-ля гарсон», — папраўіла Лідачка неабазнаную цырульніцу з унутраным пачуццём перавагі, але ўслых гэтага не вымавіла.)

Вусны пазначаныя насычанай густа-вішнёвай памадай. Апошнім штрыхом стане вось гэтае акуратнае маленькае сардэчка пасярод верхняй губы.

Цяпер — вочы. Тут спатрэбяцца цёмныя цені і густая чорная падводка: сучасная жанчына павінна выглядаць загадкава, таямніча і крыху трагічна. Ну, прыкладна так, як выглядаюць на кінаэкране жанчыны-вамп.

Лідачка паглядзелася ў люстэрка, дастала пудраніцу і нанесла густы белы слой на ружовыя шчокі. Вось цяпер усё правільна — вобраз атрымаўся нервовы, рэзкі, злёгку гістэрычны. Цяпер яшчэ дапоўніць гэта невялічкім капялюшыкам-клош у выглядзе званочка — і

вуаля!

Жанчына агледзела сябе ў люстра: сукенка светлага персікавага колеру, нядоўгая — да каленяў, і доўгая нітка пацерак. Не проста прыгажуня, а прыгажуня з густам, якая добра разбіраецца ў модзе.

Яна павінна падабацца Косціку, каб ён заўважаў толькі яе, каб ніводная з навакольных драпежніц не наклала лапу на яе мужчыну, пакуль ён часова страціў арыенціры ў жыцці пасля жончынай смерці…

Праўда, апошнія вечары ён прыходзіць позна, калі даўно ўжо цёмна на дварэ, хоць вока выкалі. Кажа, што вельмі пільныя справы. Але гэта не жанчына — у гэтым Лідачка ўпэўненая: ні жаночага воласа не знайшла, ні чужога жаночага водару яна на Косціку не адчула ні разу. Так што тут — нешта іншае. Напэўна, нешта з працай звязанае…

Галоўнае, што цяпер ён кожную ноч прыходзіць да яе. Ну і якая розніца, што позна? Ён не карова, каб яго да цёмнага часу ў хлеў заганяць. Мужчына павінен мець справу, а дома трэба, каб яго чакалі спакой і пяшчота.

А сёння ён паабяцаў разам пайсці ў кіно. Сказаў, што можна даць сабе адзін вечар на адпачынак. Лідачка ўзрадавалася, стала скакаць і ляскаць у ладкі. А калі на Косцікавым твары з'явілася ўсмешка ад такой дзіцячай непасрэднасці, то яна, Лідачка, падскочыла да яго і

пацалавала — моцна-моцна…

Лідачка ўздыхнула: цяжка гэта — давесці мужчыну да патрэбнай кандыцыі, каб ён сам пастаянна праяўляў ініцыятыву… Але тут яна яму паслабкі не дасць — на тое яна і жанчына!

# 28 ТРАЎНЯ, ПЯТНІЦА, ВЕЧАР

Невялікі сшытак, на вокладцы якога выцягнуліся стромкія вузкія літаркі — «Аршанскі маладняк». Хлюдзінскі круціў у руках тоненькі зборнік, у якім апублікавалі свае творы паэты і празаікі з усёй Аршанскай акругі — з Воршы, Горак, Талачына, Дуброўна, Смалянаў…

Гэтая тоненькая кніжачка таксама пойдзе ў фонды гарадскога музея: хто ведае — можа, акурат у ёй надрукаваў свой першы верш новы Купала? Дый нават калі няма тут твораў новага Купалы, усё адно праз пару гадоў гэты друкаваны сшытак стане сведчаннем сваёй эпохі, гістарычным знакам.

Аршанская філія ўсебеларускага літаратурнага аб'яднання «Маладняк» у сённяшнім дні Хлюдзінскага ўсплыла неяк выпадкова. Гартаючы свежы нумар газеты «Камуністычны шлях», Антон пабачыў нататку:

*ЦІКАВАЯ ЗНАХОДКА*

*Каля в. Ліцьвінава, Ляднянскага раёну, Аршанскае акр., на хутары В.Законьнікава сяляне, капаючы студню, на глыбіні 4 саж. наткнуліся на нейкае «бервяно», якое ім пешкаджала капаць глыбей. Яны хацелі выкінуць «бервяно», але сашчарбілі чатыры тапары і толькі частку «бервяна» адсеклі.*

*Пры вывучэньні кавалкі гэтага «бервяна» аказаліся часткамі біўня маманта. У зямлі яшчэ засталіся косьці маманта. Магчыма думаць, што і цэлы касьцяк маманта ўдасца выцягнуць з зямлі.*

*Аршанскае Акруговае Т-ва часткі біўня маманта, якія знойдзены каля в.Ліцьвінава, перадае ў акруговы с.-г. музэй і даручае проф. Лунгерсгаўзэну ўзяць на сябе кіраўніцтва па адкапваньні касьцей маманта.*

Антон з задавальненнем перачытаў невялікі тэкст, які сведчыў пра набытак яго музея і заваблівеў цікаўных прыйсці паглядзець на косткі дагістарычнай жывёлы. Акрамя задавальнення прыйшоў гонар — быццам сам, сваімі рукамі выкапаў з зямлі тыя мамантавы біўні.

Побач з нататкай пра археалагічную знаходку газета размясціла невялікую абвестку, на якую Хлюдзінскі таксама звярнуў увагу:

*АРШАНСКІ МАЛАДНЯК*

*Аршанская філія Ўсебеларускага аб'яднаньня паэтаў і пісьменьнікаў «Маладняк» запрашае на адкрытае пасяджэньне ўсіх, хто любіць літаратуру, піша вершы ці прозу.*

Датай пасяджэння называўся сённяшні вечар. Антон павагаўся — і вырашыў схадзіць. Што яго туды вабіла, Хлюдзінскі і сам не мог бы пэўна вызначыць.

Хутчэй за ўсё, гэта быў цёплы ўспамін пра той не вельмі далёкі вечар, калі Валянціна пацягнула яго на літаратурныя выступы. І ўвечары Хлюдзінскі накіраваўся па знаёмым ужо маршруце ў гарадскі тэатр. Праўда, гэтым разам маладнякоўцам ужо не далі сцэны, а вылучылі нейкую невялікую залу ў дапаможных тэатральных памяшканнях.

Народу сабралося даволі багата, і Хлюдзінскі ў свае «за трыццаць» адчуў сябе быццам стары корч сярод маладога зялёнага падросту. Шумныя, вясёлыя, баявітыя юнакі з дзяўчатамі запоўнілі ўсё памяшканне — не было не толькі сядзячых месцаў, але і ўсе сценкі былі падпёртыя маладымі аматарамі літаратуры.

Што яго прывяло сюды, Антон і сам не мог бы сказаць дакладна. Часткова гэта была цікавасць да той літаратуры, якую яму так нечакана адкрыла Валянціна, часткова — шчымлівы ўспамін пра жанчыну, якую так нечакана вырвалі з яго жыцця. Апошнімі днямі ён часам выходзіў, каб проста прайсціся па тых вуліцах, якія яшчэ захоўвалі ў памяці гукі іх з Валянцінай крокаў па брукаванцы, прайсці ўздоўж дамоў, якія пазіралі сваімі вокнамі на яго жанчыну…

Гэты паход да мясцовых літаратараў Хлюдзінскі адчуваў для сябе падобнай пілігрымкай — наведваннем святых, памятных мясцінаў. І цяпер ён спрабаваў занурыцца ў гэтае свята маладосці і паэзіі, але

атрымоўвалася кепска, ён пачуваўся староннім назіральнікам, якому не дадзена стаць сваім у гэтым коле. Інтуітыўна Антон стаў каля чалавека, блізкага яму паводле ўзросту, — вусатага мажнога мужчыны. «Прынамсі не буду тут вытыркацца, як той корч сярод поля», — падумаў ён і зацікаўлена стаў углядацца ў тое, што адбывалася.

У прасценку паміж вокнамі стаяў малады чалавек у талстоўцы, у якім Хлюдзінскі пазнаў паэта Гарбылоўскага, аўтара вершаў «пад Маякоўскага». З запалам малады чалавек скіроўваў у залу сваю прамову:

— Мы маладыя, за намі будучыня! І таму мы не хочам браць за прыклад спарахнелую мінуўшчыну, што не можа навучыць нас ніякай навуцы, якая спатрэбіцца ў будучыні. Што ж нам, пісаць пра жнеек ці аратаяў? Яны вось-вось адыдуць у невараць, іх месца зоймуць разумныя машыны. Новы час патрабуе новага мастацтва — сацыялістычнага, пралетарскага.

Большасць прысутных, не шкадуючы далоняў, апантана пачалі апладзіраваць.

— А вось у мяне ёсць пытанне, — прагучаў мяккі голас збоку.

Толькі пасля гэтага Хлюдзінскі звярнуў увагу, што там стаяў стол, за якім замест усяго прэзідыуму сходу сядзеў адзін чалавек. Гэта быў ужо не малады мужчына

— узросту хутчэй самога Хлюдзінскага, чым прысутнай тут моладзі. Сам ён паглядаў на прысутных паблажліва, быццам прафесар на гарэзлівых студэнтаў. Франтаваты шэры гарнітур-тройка падкрэсліваў гэтую прафесарскую перавагу над разнамасным зборышчам талстовак, блузаў, зашмальцаваных пінжакоў з бацькоўскага пляча, хустак і сукенак.

— Хто гэта? — шэптам спытаўся Хлюдзінскі ў вусатага суседа.

Той адказаў надзіва высокім голасам:

— Кіраўнік філіі «Маладняка» Міхась Ганчарык, выкладчык з Горак.

Тым часам мужчына за сталом працягваў:

— Вось вы, Уладзіслаў, кажаце пра новую рэчаіснасць. Я згодны, што мы жывем пры нараджэнні новага свету. Аднак людзі застаюцца ў ім старыя. Чалавек не вельмі мяняецца: у ім застаюцца такія пачуцці, як каханне і пяшчота, нянавісць і пагарда…

— Класавая нянавісць! — перапыніў яго Гарбылоўскі.

— Няўжо і пяшчота таксама класавая? — развесяліўся Ганчарык.

Яго апанент пакрыўджана соп.

— Вядома, у новых рэаліях гэтыя асноўныя пачуцці будуць праяўляцца ў нашых суайчыннікаў у новых акалічнасцях, але яны застануцца, так? Вы ж не будзеце

прызнавацца ў вершах да дзяўчыны, што кахаеце яе класавым каханнем… Хаця класавая барацьба можа накласці свой адбітак на гэтыя вершы — не спрачаюся. Гэта можа быць новая вершаваная форма, якую вы так любіце. Альбо матывам такога верша стане каханне пралетарыя да дзяўчыны з дэкласаваных элементаў і ўнутраная барацьба з гэтай нагоды…

Вусаты каля Хлюдзінскага няўцямна гмыкнуў штосьці сабе пад нос, але Антон не разабраў словаў.

— Таму я і кажу, што ісці ў рожкі са старымі, як вы заклікаеце, — гэта вельмі добра, але гэта не азначае, што варта адмаўляцца абсалютна ад усіх набыткаў, якія дала нам папярэдняя культура. Мне вельмі падабаюцца гэтыя вашыя радкі:

Часамі поўніцца
истота
музыкай,
А часам
дзіўнаю
пральецца
рызыкай…

Ганчарык памаўчаў, быццам услухоўваючыся ў нешта, і працягнуў:

— Я вам, даруйце, як спецыяліст у батаніцы скажу: новыя гатункі яблыкаў могуць з'явіцца толькі на аснове

ранейшых. Узяць бульбу ці крапіву і вырасціць на ёй яблыкі пакуль што нікому не ўдалося. Так і з культурай: мы ў кожным разе карыстаемся найлепшым з таго, што стварылі нашыя папярэднікі, нашыя продкі…

Гарбылоўскі махнуў рукой:

— Тое, што не ўдалося буржуазнай навуцы, можа атрымацца ў навукі савецкай!.. А вашыя думкі, таварыш Ганчарык, адводзяць нас ад нараджэння новага пралетарскага мастацтва, якое імкнецца ствараць «Маладняк». Не для таго мы на франтах кроў супраць буржуяў пралівалі!..

Але запал яго ўжо быў відавочна меншы, чым на пачатку прамовы, і прамоўца сышоў са сваёй імправізаванай трыбуны ў шэрагі публікі, дзе яго пасяброўску прыняліся паляпваць па спіне аднадумцы, выказваючы падтрымку.

Вусаты каля Хлюдзінскага паблажліва пасміхаўся ўсю гэтую спрэчку, адначасова нешта пазначаючы сабе ў невялікім нататніку. Антон зазірнуў збоку, але разабраць нічога не змог: сусед карыстаўся ці то стэнаграфічнымі значкамі, ці то яшчэ нейкім відам хуткапісу.

Хлюдзінскі вырашыў пацікавіцца:

— А вы што пішаце — прозу ці вершы? Я гляджу, вы тут добра арыентуецеся, ведаеце ўсіх…

Вусаты перабольшана жартаўліва замахаў рукамі на Антона, быццам адмаўляючыся ад незаслужанай узнагароды:

— Што вы, што вы! Куды мне… Я тут проста назіраю па даручэнні гаркама: партыя як накіроўчая сіла грамадства хоча ведаць, у якім напрамку развіваецца маладая літаратура краіны Саветаў. Так што я назіраю, але не ўблытваюся. Спрабую зразумець, а не спрачацца ці, там, дыскутаваць. — Вусаты шчыра пасміхнуўся: — Адукацыя ў мяне не тая, каб у дыспуты лезці… Мяне, дарэчы, клічуць Васіль Кашэль.

З гэтымі словамі ён працягнуў Хлюдзінскаму шырокую, бы шуфель, далонь. Антон паціснуў, кажучы:

— А мяне…

— А вас — Антон Хлюдзінскі, вы загадчык краязнаўчага музея, — пасміхаючыся яшчэ шырэй, перапыніў яго новы знаёмец. — Вас у нашыя краі прыслалі нядаўна, акурат для таго, каб падымаць гістарычныя даследаванні, краязнаўства, ну і ўсё такое.

Антон быў здзіўлены, і здзіўленне гэтае было не самае прыемнае. Ён не лічыў сябе занадта вядомай асобай, займаў не самую важную пасаду. Такую абазнанасць у чужых лёсах і тварах звычайна выяўляла толькі адно ведамства, з якім сутыкацца лішні раз не хацелася нікому, — ДПУ.

Мабыць, усе гэтыя эмоцыі хапатлівай чарадой пранесліся па Антонавым твары, што выклікала чарговы смех у яго суразмоўцы:

— Ды не пераймайцеся вы так! Я ж сказаў вам, што я з гаркама партыі. Інструктар гаркама… А ў вас такі твар, быццам вас у органы выклікалі, каб вы расказалі пра свае сувязі з польскай разведкай.

Жарты новага знаёмца падабаліся Хлюдзінскаму ўсё менш і менш. Яму было некамфортна побач з гэтым чалавекам, і Антон пастараўся бокам, бокам адсунуцца. Паспрыяў гэтаму і чарговы выбух эмоцый недзе ў раёне сцэны. Хлюдзінскі не стаў услухоўвацца ў яшчэ адзін дыспут, а вось вусатага Кашаля гэтая дзея, падаецца, надзвычай зацікавіла. Прынамсі, ад Хлюдзінскага ён адвярнуўся і стаў уважліва ўглядацца наперад.

Скарыстаўшыся гэтым, Антон выйшаў з душнага памяшкання на вуліцу. Тут вецер нёс п'янкі водар духмянага разнатраўя і палявых кветак — быццам не ў горадзе ідзеш, а раптоўна апынуўся пасярод луга. Здавалася, яшчэ імгненне — і загучаць здалёк крышталёвым перазвонам высокія дзявочыя галасы, зацягнуць песню, прыгожую і шчымлівую. Ды хаця б і «Купалінку»!..

І, быццам адказваючы на думкі Хлюдзінскага, песня загучала — недалёка, недзе з-за плота. Праўда, голас

быў адзін і далёка не дзявочы.

Хрыплаваты падлетак выводзіў з падвывам — не трапляючы ў ноты, але старанна. І жудасным дысанансам да мрояў Антона гучалі словы гэтай папулярнай яшчэ з часоў рэвалюцыі вулічнай песенькі:

Па вуліцы хадзіла
Мадама-кракадзіла.
Яна, яна
Зялёная была.

Пабачыла француза —
І цоп яго за пуза:
Яна, яна
Галодная была.

Пабачыла кітайца —
І цоп яго за яйцы:
Яна, яна
Галодная была…

# 1924—1926, БЕЗ ДАТЫ

Менавіта гэтую песню пра «мадаму-кракадзілу» ды яшчэ пра цыпляня смажанае, якое пайшло гуляць, бясконца слухаў Хлюдзінскі, седзячы ў менскім допры.

Чаму бальшавікі так любяць скароты, разважаў ён. Так старанна адракаюцца да старога свету, што нават успадкаваныя ад яго рэчы і з'явы імкнуцца назваць па-свойму. «Дом общественно-принудительных работ», допр. А чым адрозніваецца ад турмы? Ды нічым!

Следчы, які дапытваў яго, не пагадзіўся з Хлюдзінскім і патлумачыў:

— Гэта пры старым рэжыме былі турмы, якія ставілі сабе задачу караць. А савецкая ўлада перавыхоўвае чалавека.

Блукаючы позірк, па якім у следчым можна было лёгка апазнаць какаініста, з падазрэннем утаропіўся ў твар Хлюдзінскаму:

— Ці вы сумняецеся ў гуманнасці савецкай улады?

Антон паспяшаўся запэўніць, што ён запытаўся не таму, што сумняецца, а са звычайнай цікаўнасці. Калі б у яго былі сумневы, ён бы не перайшоў польска-савецкую мяжу і не прыйшоў добраахвотна здацца органам савецкай улады.

— Я акурат і разлічваю на гуманнасць савецкай улады, якая дасць мне магчымасць працаваць на

карысць народа. Пасля таго, як Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы Беларусі былі перададзеныя вобласці, населеныя беларускім насельніцтвам, і абвешчаная палітыка беларусізацыі ды карэнізацыі, я не бачу вялікіх адрозненняў у сваіх поглядах і савецкай палітыцы. Таму я хачу працаваць у савецкай Беларусі, дзе ёсць болей магчымасцяў для развіцця беларускага народа.

Недаверлівы позірк какаініста-следчага чэпка даследаваў твар Хлюдзінскага, шукаючы найдрабнейшыя сляды хлусні. Наркатычная падазронасць рабіла яго вочы шалёнымі.

— Вы, Хлюдзінскі, самі разумееце, што мы спярша павінны праверыць, ці не з'яўляецеся вы польскім шпіёнам, засланым на нашу тэрыторыю. Можа, вашыя імперыялістычныя гаспадары далі вам заданне шкодзіць працоўнаму народу і весці тэрарыстычную дзейнасць… Мы не можам рызыкаваць жыццямі будаўнікоў сацыялізму! Ужо былі такія выпадкі, калі такія самыя перабежчыкі выяўляліся агентамі сусветнага імперыялізму і наймітамі польскай дыфензівы. Іх спасцігла найвышэйшая мера сацыяльнай справядлівасці — смерць.

Ён моцна сціснуў сківіцы, быццам ваўкарэз, які насцігнуў сваю ахвяру і ўчапіўся ёй у карак.

Хлюдзінскі адчуў, як халодныя рагі поту папаўзлі

па ягоных лапатках.

Вяртанне ў камеру ён успрыняў амаль як неспадзяванае выратаванне з ледзяных рук смерці. Розум, праўда, падказваў яму, што гэта можа быць не выратаванне, а толькі адтэрміноўка. «Па вуліцы хадзіла мадама-кракадзіла…» Вартавым было сумна цэлымі днямі крочыць моўчкі, таму яны напявалі, не зважаючы на арыштантаў. Сцены калідораў, пафарбаваныя ў балотна-зялёны колер, наганялі страшную нуду і дэпрэсію. Не вельмі моцна развейвалі тую нуду плакаты, якія паведамлялі: «Са школ і клубаў ураганна Ударым мы па хуліганах», а таксама папярэджвалі: «Будзь пільным: вораг не дрэмле».

Таму вартавыя і разганялі сваю нуду песенькамі, якія можна было пачуць у кожнай падваротні.

Сам жа вязень спрабаваў перапыніць гэтыя спевы вулічнай шантрапы, заводзячы нацыянальны матыў:

Адвеку мы спалі, ды нас разбудзілі,
Сказалі, што трэба рабіць:
Што трэба свабоды, зямлі чалавеку,
Што трэ’ лепшай долі здабыць.

Амаль імгненнай была рэакцыя ахоўніка — ён гучна ляпаў прыкладам вінтоўкі ў металёвыя дзверы і пранізлівым голасам заяўляў: «Контррэвалюцыйныя песні спяваць забаронена!».

Антон спрабаваў тлумачыць, што гэта песня не контррэвалюцыйная, а зусім наадварот — гімн працоўнага люду, песня ў яго абарону і падтрымку. У адказ чуў толькі адно: «Вязням спяваць ка-тэ-га-рыч-на забаронена!». Вартавы вымаўляў так, што было ясна: яму падабалася слова «катэгарычна», якое ён недзе пачуў і вывучыў…

Хлюдзінскаму тады пашанцавала: ён не трапіў пад вышэйшую меру сацыяльнай справядлівасці — гэткі падступны эўфемізм бальшавікі прыдумалі для слова «расстрэл». За яго заступіліся даўнія знаёмыя, якія цяпер займалі высокія пасады ў савецкай Беларусі. Уласна кажучы, гэтыя знаёмыя і запрасілі яго перабрацца ва ўсходнюю частку Беларусі.

Аднак Антон не ведаў, наколькі далёка сягаюць магчымасці яго апекуноў. Прынамсі, ДПУ раз-пораз давала яму зразумець, што адпусціла яго недалёка і пільнуе яго рухі. Гэтая ўвага нагадвала яму гульню сытага ката з мышшу: вусаты драпежнік дае сваёй ахвяры магчымасць бегчы, але не занадта далёка…

Пакуль што яго адпусцілі ў Воршу. Не проста адпусцілі — прапанавалі кіраваць стварэннем тут краязнаўча-гістарычнага музея.

Мыш. Мыш. Мыш… Так ён адчуваў сябе да той пары, пакуль не спаткаў Валянціну. Яна не тое каб вызваліла Хлюдзінскага з гэтай небяспечнай гульні, але

проста перацягнула яго ў сваю, больш звабную. І ён пацягнуўся за ёй, забыўшыся на ўсе праблемы, якія турбавалі яго дагэтуль.

Водар гэтай невысокай жанчыны, непаўторны водар яе цела, распаленага любошчамі, кружыў галаву Антону. Яна аддавалася яму з жарсцю неафіткі, якая толькі нядаўна адкрыла для сябе новую сферу пазнання. Хлюдзінскаму было нават дзіўна адкрыць у дарослай жанчыне такую жарсць: яго ранейшы досвед паказваў, што дарослыя жанчыны ў любошчах не вельмі імпэтныя. Яго папярэднія каханкі часцей за ўсё эгаістычна прымалі мужчынскія ласкі, ціха стогнучы ад задавальнення, і не праяўлялі ніякай ініцыятывы ў ложку.

Валянціна ж была поўнай іх процілегласцю: яе цела і само прасіла любошчаў, і шчодра дзялілася ласкамі. Менавіта з ёй Антон упершыню даведаўся, што на ложку жанчына можа быць не толькі знізу, але і зверху. Яе невялікія грудкі з натапыранымі смочкамі пагойдваліся над ім і самі прасіліся ў яго далоні… Ён вельмі хацеў, каб Валянціна нарэшце разышлася з мужам і перайшла жыць да яго. Аднак яна не спяшалася зрабіць такі крок. Што яе стрымлівала? Ні яе рэпутацыі, ні кар'еры гэта не пагражала: рэвалюцыя і гады, якія прамінулі пасля яе, заўважна памянялі стаўленне да жанчыны. Прынамсі ў горадзе.

Антон пытаўся, што яе трымае разам з мужам, але Валянціна ніколі не адказвала, як вады ў рот набраўшы. Магчыма, яна проста не хацела рабіць апошні крок, які трывала звяжа яе з іншым чалавекам, бо шлюб з Мачугам заставаўся для яе толькі фармальнасцю.

Цяпер Антон ніколі ўжо не даведаецца, што менавіта не давала Валянціне парваць з мужам і перайсці да яго.

Забойства Валянціны сталася для яго шокам. Хлюдзінскі ўжо бачыў смерць блізкіх, але ці можна да яе прывыкнуць? «Смерць вырвала з нашых шэрагаў…» — казаў хтосьці ў казённай прамове на пахаванні. У кагосьці — з шэрагаў, у кагосьці — разам з кавалкам сэрца…

Акрамя душэўнай спустошанасці Хлюдзінскі адчуваў яшчэ і тое, што яго зноў вяртаюць у ранейшую гульню ката і мышы. І гутарка з Васілём Кашалём на літаратурнай вечарынцы толькі падмацавала яго ўпэўненасць: кот не збіраўся выпускаць ахвяру са сваіх кіпцюроў. Ён толькі даў ёй трошку вальней уздыхнуць, а сам пільнаваў паблізу, драпежным позіркам абмацваючы сваю здабычу да драбностак.

Ну, пагуляецца гэты чэкісцкі кот з ім, і што далей? Зноў верне ў турму?

У турму не хацелася: шэрыя сцены камеры быццам паралізоўвалі яму рукі і ногі, ціснулі на грудзі, не

даючы зрабіць лішняга ўдыху, хапануць трошку болей паветра.

Міжволі Хлюдзінскі згадаў аршанскую турму — допр, што мясціўся ў Турэмным завулку ў цэнтры горада. Грунтоўныя мураваныя сцены адгароджвалі тэрыторыю вязніцы ад гараджанаў.

Праўда, турма за гэтымі старадаўнімі мурамі была не заўжды — толькі апошнія 80 гадоў. Да таго часу і муры, і зямля за імі разам з усімі сваімі будынкамі належалі каталіцкаму ордэну езуітаў. Хлюдзінскі ўжо ведаў, што езуіты ў Воршы атайбаваліся даўно і некалькі стагоддзяў вялі тут сваю падступную дзейнасць — нават арганізавалі калегіюм, каб зваблiваць да сябе здольную таленавітую моладзь.

Езуіты здавён, яшчэ з царскага часу, лічыліся сімвалам беспрынцыповага падступства. Як і большасць не вельмі абазнаных у гэтым пытанні людзей, Антон быў перакананы, што менавіта езуіты займаліся інквізіцыяй. І таму ён дзівіўся, як у гэтых манахах магла ўжывацца высокая прага да асветы і адукацыі разам з тым цемрашальствам, якое ўвасабляла інквізіцыя.

З Воршы езуіты зніклі сто гадоў таму — тады ордэн быў выгнаны з тэрыторыі ўсёй Расійскай імперыі. Іх кляштар на нейкі час перайшоў да іншага каталіцкага ордэна і пастулова прыходзіў у заняпад. Магчыма, з часам старасвецкія будынкі зноў ажылі б пад пільным

гаспадарскім доглядам, але каталіцтва было зусім не той рэлігіяй, якая магла расквітнець у Расійскай імперыі.

На пачатку 1840-х гадоў у колішнім езуіцкім кляштары сапраўды з'явілася шмат людзей, але галасы іх гучалі глуха і паныла, быццам у звоне з расколінай. Панурыя галасы ды ляскат кайданоў — турма пасялілася ў колішніх кляштарных мурах, і вечаровую імшу замяніла пераклічка. І калі на змену царскаму рэжыму прыйшлі бальшавікі, нічога ў турме не змянілася: тут па-ранейшаму трымалі ўсялякіх ненадзейных элементаў — ад басякоў і дробных зладзюжак аж да контррэвалюцыянераў, ідэйных ворагаў улады.

Хіба што адзіны раз быў у найноўшай гісторыі гэтых муроў, калі людзі ішлі туды самахоць. У жніўні 1918 года ў Воршы полымем шуганула салдацкае стыхійнае паўстанне: ураджэнцы беларускіх земляў не хацелі ехаць у Сібір ваяваць супраць чэхаславакаў, якія прабіваліся з палону на радзіму. Салдаты-беларусы хацелі ісці ваяваць супраць немцаў, якія занялі амаль увесь іх край. Мяцеж імгненна ахапіў увесь аршанскі гарнізон, і палкі занялі горад. Вайскоўцаў падтрымалі левыя эсэры, якія таксама пратэставалі супраць Берасцейскага міру, які бальшавікі падпісалі з немцамі. І так атрымалася, што на нейкі час улада ў Воршы

перайшла ў рукі левых эсэраў і беспартыйных салдатаў.

Вернасць бальшавікам захавала толькі турэмная ахова, пад чыю абарону ўцяклі некаторыя з былых гарадскіх гаспадароў. Заняўшы кругавую абарону, бальшавікі пераtварылі турму ў непрыступную выспачку ў непадуладным ім горадзе. Яны пратрымаліся некалькі дзён, пакуль у Воршу не прыйшла дапамога — бальшавіцкія палкі з Віцебска і Смаленска. І тады месца бальшавікоў у турэмных камерах занялі левыя эсэры…

Не, трапіць у аршанскую турму Хлюдзінскі не хацеў — такое далучэнне да гісторыі яго ніяк не вабіла.

# 30 ТРАЎНЯ 1926 ГОДА, НЯДЗЕЛЯ, ДЗЕНЬ

Мачуга звыклым жэстам абцёр карак: зусім ужо летняя спякота даймала, хціва выціскаючы з людзей вадкасць.

У такое надвор'е ратавацца можна хіба што ў вадзе — у шырокім Дняпры або яго сціплай сястрыцы Аршыцы. Гарадская дзятва так і рабіла: пялёхалася ў вадзе, распырскваючы вакол сябе дняпроўскае срэбра і гучна гарланячы. І добра ў такі сквар схавацца дзе-небудзь у звычайнай хаце, абсаджанай яблынямі, а ў пакоі, што выходзіць на ценявы бок, адчыніць вакно. І можна моўчкі слухаць, як звініць і сцякае па лісці залацісты дзень.

Але Мачуга ў гэты час не мог ні даць нырца ў бадзёрую рачную плынь, ні прытаіцца ў зацішшы: у яго была дамоўленая сустрэча, якую ніяк не хацелася адкладаць. Ён дамовіўся сустрэцца са Стэфаніяй — той кірпатай дзяўчынай, якую запомніў на жончыных сустрэчах.

Сустрэцца яны дамовіліся ў парку ў цэнтры горада — месцы заўсёды даволі людным. Недалёка стаяў гарадскі тэатр; калі зірнуць у іншы бок, то праз дрэвы можна было заўважыць бляск Аршыцы, якая дадавала свежасці ў навакольны сквар.

На дзяўчыне была светлая паркалёвая сукенка ў чырвоныя гарошкі, якая ёй вельмі пасавала, міжволі адзначыў Мачуга. Яны прыселі на лавачку, і Канстанцін пачаў гаварыць, яшчэ раз правяраючы на надзейнасць і грунтоўнасць словы, падабраныя загадзя:

— Ведаеш, Стэфанія, у мяне да цябе ёсць вельмі далікатная просьба. Мне б не хацелася, каб ты няправільна зразумела яе. І, само сабой, прашу трымаць гэта ў сакрэце… Як бы гэта табе сказаць?..

— Вы хочаце штосьці спытацца пра Валянціну? — суразмоўца прыйшла яму на дапамогу. — Дык вы пытайцеся, я раскажу.

Мачуга разгублена пацёр лоб тыльным бокам далоні, быццам расчышчаючы месца для выхаду думкі.

— Ты ж з ёй апошнім часам часта бачылася, размаўляла, так? Можа, яна табе штосьці распавядала пра свае планы на будучыню? Можа, былі нейкія незвычайныя выпадкі, нейкія дзіўныя здарэнні? Мяне цікавіць усё, бо хачу, — тут ён пакрывіў душой, але палічыў, што суразмоўца гэтага не заўважыць, — хачу аднавіць для сябе апошнія дні яе жыцця.

Дзяўчына на імгненне задумалася, а потым рашуча сказала:

— Не, нічагуткі незвычайнага! Усё было як раней: яна нам чытала лекцыі пра вызваленне жанчыны. Адукоўвала, да культуры цягнула — вершы чытала.

Розных паэтаў, але ўсё нашыя, савецкія: Ясенін, Маякоўскі там… І тутэйшых любіла нам цытаваць. Яна да іх на паэтычныя выступы хадзіла, слухала вершы. Казала, што там на вачах нараджаецца музыка новай эпохі — прыгожа, праўда?.. Яшчэ Валя гаварыла, што часам як прычэпіцца да яе які-небудзь радок, дык яна ходзіць і ўвесь час яго паўтарае. Вось апошнія тыдні часта цытавала аднаго з аршанскіх паэтаў…

Стэфанія закаціла вочы, унутраным зрокам аглядаючы памяць і шукаючы правільныя словы, а потым урачыста прадэкламавала:

— Часамі поўніцца
истота
музыкай,
А часам
дзіўнаю
пральецца
рызыкай…

Мачуга ўважліва слухаў, запамінаючы ўсё, што распавядала яму кірпатая сяброўка ягонай жонкі. Верш падаўся яму вельмі дзіўным — быццам у гадзінніку шасцярэнькі замацаваліся неяк няправільна, і таму стрэлкі на ім пайшлі ў адваротны бок. Так і гэты верш: быццам і ладна ўсё гучыць, і ў той жа час трывожыць усё нутро нейкай незразумелай няправільнасцю.

Увогуле жаночага захаплення вершамі Мачуга не разумеў. Іншая рэч — песня, асабліва маршавая: яна і жыць дапамагае, і бадзёрыць, рытм задае! А ў вершах без музыкі ёсць штосьці не зусім чыстае, непразрыстае нейкае — вось як з гэтым, што прачытала яму Стэфанія. І чаму жанчыны так любяць вершы і паэтаў?..

Канстанцін дастаў пачак папярос і кароткі хімічны аловак, які знайшоў у кішэні. Нязграбнымі, ламанымі літарамі занатаваў на пачку радкі з верша, якія Стэфанія павольна надыктавала яму. Для чаго яму можа спатрэбіцца гэты верш, мужчына не ведаў, але вырашыў не грэбаваць ніякімі дэталямі, якія ўдасца даведацца.

— А часта яна на гэтыя літаратурныя зборкі хадзіла?

Дзяўчына аж махнула рукой:

— Ой, часта! Старалася не прапускаць ні адной!

І раптам Стэфанія быццам прыгадала штосьці:

— А вось апошнім часам ужо не дужа старалася трапіць туды, быццам не хацела там кагосьці пабачыць. Калі і збіралася, то шукала сабе кампанію, каб быць не адной…

— А каго яна так незалюбіла? Мужчына? Жанчына? Паэт?

— Не ведаю, — разгубленым тонам працягнула дзяўчына. — Не казала яна гэтага мне. Можа быць, гэта

мне ўвогуле так падалося…

Мачуга адчуў, што суразмоўца, якая так лёгка дзялілася з ім успамінамі пра Валянціну, чамусьці знянацку насцярожылася і захінулася ад яго пытанняў. Толькі што яна ўся была наросхрыст — і раптам нябачная, але ўсё адно цяжкая тэатральная завеса адгарадзіла дзяўчыну ад яго. Ён вырашыў пайсці ў лабавую атаку, каб прарваць гэтую нябачную загароджу, і запытаўся, ці не вяла Валянціна якую-небудзь адукацыйную ці растлумачальную працу сярод… ммм… як бы гэта сказаць? Вулічных работніц. Ну, так, сярод прастытутак…

Стэфанія ў адказ пакруціла галавой: не, яна пра гэта нічога не чула і не ведае. Маламоўнасць дзяўчыны выразна сведчыла, што далейшай гутаркі не атрымаецца.

Канстанцін падзякаваў Стэфаніі, што столькі распавяла яму. Ён прапанаваў выпіць разам халоднай салодкай шпанкі — напою, якім славіліся мясцовыя майстры-габрэі: хіба ж у такую спёку не будзе прыемна наталіць смагу? Але дзяўчына адмовілася і ад шпанкі, і ад прапановы правесці яе («Не позна яшчэ, сама дарогу пабачу, дзякую!»), ды хуценька пакінула Мачугу.

Сам жа ён павольна пайшоў дадому, разважаючы, ці не варта яму бліжэй пазнаёміцца з паэтам, якога цытавала Валянціна. Нешта ж яна знайшла ў ягоных

вершах важнае для сябе. У вершах? Ці ў самім паэце? Зразумець можна будзе хіба што пасля знаёмства.

Думаў ён і пра тое, ці звязаная смерць жонкі з папярэднім забойствам прастытуткі. У гутарцы са Стэфаніяй Мачуга спадзяваўся знайсці нейкую повязь паміж гэтымі падзеямі, але пакуль што ягоныя спадзевы выявіліся марнымі.

# 31 ТРАЎНЯ 1926 ГОДА, ПАНЯДЗЕЛАК, РАНІЦА

Васільчук нікому б не прызнаўся, за што любіў сваю працу. Калі б у яго спыталіся, ён бы распавёў пра імкненне да справядлівасці, пра абарону правоў працоўнага народу, пра тое, што ўсе сумленныя людзі павінны жыць у шчасці, а ўсе нягоднікі — панесці належнае пакаранне. Хто здольны жыць правільна — той выправіцца, а хто няздольны — таго чыстае і светлае будучае грамадства сацыялізму павінна без шкадобы адкінуць з дарогі, як непатрэбны хлуд.

Неяк так адказаў бы Васільчук кожнаму, хто задаў бы яму пытанне: «За што ты любіш сваю працу?», бо ён ведаў, як правільна трэба адказваць на пытанні.

Праўду ён не сказаў бы нікому.

Ён і для сябе не вельмі імкнуўся сфармуляваць гэтую праўду, бо выглядала яна не вельмі прывабнай. Не фармуляваў, але ведаў. Дакладней, ён адчуваў млявую асалоду ў душы — і калі чытаў паведамленні сваіх сакрэтных супрацоўнікаў, і калі сам дапытваў затрыманых, падазроных, сведкаў. Гэта была асалода ўлады, і яе хмельным сокам ужо быў атручаны яго арганізм.

Улада над чужымі жыццямі, чужымі лёсамі, чужымі душамі.

Не-е-е, нездарма буржуіны-белагвардзейцы так зацята змагаліся: пакаштаваўшы смак гэтага райскага яблыка ўлады, самахоць ад яго не адмовішся, іншаму не аддасі…

Найбольш поўна гэтую ўладу Васільчук адчуваў, калі чытаў даносы. Ён быццам бы падглядаў у шчыліну за жыццём людзей, якія нават не падазравалі пра яго наяўнасць: вялі нейкія свае размовы, абмяркоўвалі праблемы, сварыліся, смяяліся, расказвалі палітычныя показкі, насміхаючыся з усяго…

Яны і не падазравалі, што адным рухам пальца ён, аператыўны ўпаўнаважаны АДПУ Раман Васільчук, можа зламаць кожнага з іх. І тое, што ён пакуль што пакідаў жывымі гэтых нікчэмных людцоў з іх мізэрнымі памкненнямі, напаўняла яго адчуваннем уласнай усёмагутнасці.

Васільчуку здавалася, што дакумент, які ляжыць перад ім, напаўняе паветра ў пакоі звабным і непаўторным водарам — ад яго пахла ўладай.

Хтосьці гідлівы назваў бы гэтыя аркушы даносам, але Васільчук — не-е-е! Ніколі! Паперы, якія ляжалі перад ім, былі да-ня-сен-нем сакрэтнага супрацоўніка, інфарматара. А хіба можна называць даносам звесткі, якія перадае роднай пралетарскай уладзе верны ёй чалавек?

Ласкавым, амаль пяшчотным рухам Васільчук

дакрануўся да паперы, быццам улада, якой быў прасякнуты гэты дакумент, праз дотык павінна перайсці ў чалавека.

Потым ён рашуча крэкнуў, адкідаючы мілату і міжвольную лірыку, і пачаў чытаць.

*У шэрагах аршанскай суполкі літаратурнага аб'яднання «Маладняк» наспявае размежаванне. Звонку гэты працэс падобны да эстэтычнага супрацьстаяння густаў, аднак глыбейшы аналіз дае падставы меркаваць, што раскол адбываецца па ідэёвых, светаглядных пазіцыях. Мы бачым, як маладыя пралетарскія сілы рыхтуюцца даць бой струпехлай ідэі «мастацтва дзеля мастацтва», якая кашчавай буржуйскай лапай цягне нас у мінуўшчыну.*

Васільчук скрывіўся: не любіў ён гэтай літаратуршчыны, гэтага накручвання прыгожых выразаў. Але данясенні «Бландзінкі» з літаратурных сходак заўжды вызначаліся такімі мудрагелістасцямі: магчыма, атмасфера гэтага літарацкага асяроддзя неяк насычала і пяро сакрэтнага супрацоўніка АДПУ.

*Можна смела канстатаваць,* — чытаў Васільчук далей, — *што наперадзе аршанскую філію «Маладняка» чакае непазбежны раскол. Ідэйна ён падрыхтаваны, але фармальна не аформіўся. Моцнае нацыяналістычнае ядро ў філіі складаюць выкладчыкі і студэнты Горацкай акадэміі. Асноўнымі сярод іх варта назваць такіх асобаў, як кіраўнік філіі Міхась Ганчарык, а таксама Юрка Гаўрук. Ганчарык*

*пачаў літаратурную дзейнасць яшчэ да рэвалюцыі, па сваіх поглядах прымыкае да літаратараў старэйшага пакалення – кола Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі. Гэта нацыянальна-народніцкія пазіцыі, якія можна лічыць толькі часовымі спадарожнікамі пралетарыяту.*

*Юрка Гаўрук больш займаецца перакладамі з еўрапейскіх моваў. Яго шкодны ўплыў на дзейнасць аршанскага «Маладняка» палягае ў тым, што для перакладаў Гаўрук выбірае не творчасць сучасных пралетарскіх паэтаў, блізкіх па духу савецкім людзям, а буржуазных творцаў даўняй мінуўшчыны – брытанскага лавачніка Шэкспіра, нямецкага містыка Гайнэ ды іншых падобных.*

*Процівагу ім складаюць таварышы з моцнай пралетарскай сарцавінай. У адрозненне ад вышэйпамянёных жывуць яны і працуюць пераважна ў Воршы, такім чынам амаль не трапляючы пад шкодны дэкадэнцкі ўплыў горацкай часткі аршанскага «Маладняка». Як прыклад можна згадаць таварыша Уладзіслава Гарбылоўскага, чые вершы карыстаюцца вялікай папулярнасцю на сходах і мітынгах. Да гонару Гарбылоўскага трэба зазначыць, што яго творы нагадваюць вершы вядомага маскоўскага аўтара таварыша Уладзіміра Маякоўскага – нашага пралетарскага апявальніка рэвалюцыі. Такім чынам, Гарбылоўскі з'яўляецца лідарам левай, пралетарскай групы ў шэрагах літаратурнага аб'яднання.*

*Спрэчкі паміж гэтымі часткамі «Маладняка» вельмі*

*палкія, але фармальнае размежаванне яшчэ не аформленае. На апошнім сходзе аб'яднання таварыш Гарбылоўскі пераканаўча адстойваў перавагі савецкага ладу жыцця і савецкай навукі, абараняючы іх ад састарэлых поглядаў Ганчарыка. Хачу зазначыць, што Ганчарык аспрэчваў, што навуку можна падзяляць на буржуазную і савецкую, тым самым выказваў сумневы ў перавагах савецкага ладу.*

*Таксама Ганчарык прапанаваў перанесці дзейнасць філіі «Маладняка» з Воршы ў Горкі: маўляў, там знаходзіцца большасць удзельнікаў аб'яднання. Як варыянт было прапанавана падзяліць філію на дзве.*

*Лічу неабходным адзначыць шкоднасць як такога пераносу, так і падзелу філіі на дзве структуры, незалежныя адна ад другой. У першым выпадку ў аршанскім «Маладняку» возьмуць верх непралетарскія сілы, аказваючы шкодны ўплыў на моладзь. Падзел філіі на дзве таксама аслабіць уплыў здаровых працоўных настрояў на горацкую частку аб'яднання. У сувязі з гэтым бачу неабходным захаваць адзіную структуру, якая здолела б паказаць жыццядзейнасць пралетарскага мастацтва і літаратуры.*

Васільчук задаволена пасміхнуўся: «Бландзінка» як заўжды — на вышыні, цяжка пераацаніць такога інфарматара.

Цвёрда грукаючы падэшвамі ботаў у драўляную падлогу, ён выйшаў у прыёмную. Сакратарка, якая сядзела за шумнай друкавальнай машынкай

«Ундэрвуд», узняла на яго свае вялікія цялячыя вочы.

— Антаніна! — гучна звярнуўся Васільчук, і ўсмешка бліснула ў куточках яго рота. — Затэлефануй таварышу Стасевічу ў акруговы камітэт партыі. Ён цікавіўся, як органы паставяцца да таго, што аршанскі «Маладняк» пераедзе ў Горкі або падзеліцца на дзве філіі. Дык вось затэлефануй ад майго імя і перадай, што органы выказваюцца катэгарычна супраць абодвух варыянтаў: аршанская філія павінна быць непадзельнай і заставацца на старым месцы…

Потым ласым позіркам ён абвёў жаночую постаць і дадаў больш прытоеным голасам, адразу крыху ахрыплым:

— І гэта, гарбаткі мне згатуй… Я чакаю…

# 5 ЧЭРВЕНЯ 1926 ГОДА, СУБОТА, ВЕЧАР

Паўстань, пракляццем катаваны!
Паўстань, хто з голаду век пух!
Бурліць наш розум збунтаваны,
Няволі кліча рваць ланцуг!

Стары парадак мы зруйнуем
Магутным выбухам сваім
І свет на новы лад збудуем:
Хто быў нічым — той будзе ўсім![1]

Прысутныя спявалі «Інтэрнацыянал» нягучна, напаўголасу, але ўсё адно было чуваць, што слыхам прырода ўзнагародзіла далёка не ўсіх. Мачуга часам трошку ўздрыгваў, калі чый-небудзь голас выводзіў асабліва фальшывую ноту, аднак трымаўся: у такім гімне ўсё ж галоўнае зусім не пачуцце музычнага слыху, а вера ў яго праўдзівасць і справядлівасць.

Таксама трошку бянтэжыла Канстанціна Мачугу і тая сітуацыя, у якой даводзілася цяпер спяваць пралетарскі гімн. Зазвычай гэткі спеў гучаў у абстаноўцы ўрачыстай — ці то ўзнёсла-святочна на мітынгу, ці то стрымана-жалобна на пахаванні кагосьці з аднапартыйцаў.

Гэтым разам «Інтэрнацыянал» гучаў за накрытым сталом. Ён быў застаўлены міскамі з немудрагелістымі стравамі: засмажаныя хатнія кілбаскі яшчэ сквірчэлі ў тлушчы, нарэзаныя скрылікі сала мружыліся на дзённым святле, квашаныя гуркі ганарліва выстаўлялі свае бліскучыя бакі… Было заўважна, што стол накрывала мужчынская рука, якая не клапацілася пра якія-небудзь там выкшталцонасці — сурова і без усялякіх непатрэбных дробязяў.

Паміж міскамі з ежай струнка цягнуліся ў вышыню пад спевы «Інтэрнацыянала» бутэлькі з «рыкаўкай» — гарэлкай, якую афіцыйна выпускалі дзяржаўныя заводы. «Рыкаўкай» яе называлі ў народзе неафіцыйна — паводле прозвішча старшыні Саўнаркама Рыкава, пры якім быў скасаваны «сухі закон». Праўда, ад дарэвалюцыйнай «манапалькі» новы прадукт адрозніваўся ў горшы бок — меў мацунак толькі 30 градусаў.

Гэта бой наш астатні
За працоўны народ,
Каб у лучнасці братняй
Узняўся людскі род, —

выводзілі мужчынскія галасы. І здавалася, што пляшкі з гарэлкай таксама хочуць узняцца ў лучнасці братняй, але не могуць — нестае ім тых самых дзесяці

дарэвалюцыйных градусаў…

Ніхто не дасць самохаць волі —
Ні бог, ні цар, ні багатыр.
Даб'емся самі лепшай долі…
Дабро для ўсіх — наш правадыр!

Мачуга аглядаў кампанію, якая сабралася за сталом. Вось спявае гаспадар хаты — каржакаваты Сымон Лаўчэня, адначасова паглядаючы на стол: ці не забыўся чаго? Вось рухаецца ў такт спевам невялікая бародка Мендаля Іцкіна, які спрабуе не толькі вонкава, але і ў паводзінах капіяваць свой партыйны і рэвалюцыйны ідэал — Льва Троцкага. Выключэннем у гэтай кампаніі глядзеўся Павел Чарноцкі — з выгляду тыповы дарэвалюцыйны інтэлігент, а то і белы афіцэр з зухавата закручанымі вусікамі франта. І мала хто даў бы адразу веры, што партыйны стаж Чарноцкага адлічваецца яшчэ з дарэвалюцыйнай пары, а за спінай у яго — дзянікінскі фронт і штурм Крыма. Быў тут і вусаты Васіль Кашэль, прыяцель, субутэльнік і проста душа-чалавек, з якім Мачуга цяпер сустракаўся даволі часта і бавіў разам багата часу.

Выпадковых людзей за гэтым сталом не было, і ўсе яны разумелі, што і выпіўка, і заедак — гэта толькі нагода, антураж.

Калі скончылі спяваць «Інтэрнацыянал» і селі за

стол, агульны настрой змрочна агучыў Чарноцкі:

— Нават і падумаць не мог, што і цяпер, як пры старым рэжыме, давядзецца для канспірацыі ставіць на стол бутэлькі, калі збіраешся са сваімі ж партыйнымі таварышамі… Іцкін тэатральна развёў перад сабой рукамі:

— Пасля таго, як партыя забараніла фракцыйную дзейнасць, такі наш сход можа выглядаць вой-вой-вой як падазрона!..

Лаўчэня напоўніў чаркі і са злёгку вінаватым выглядам сказаў:

— Каб не прападала…

— І каб мы не прапалі! — падхапіў зычна Кашэль, падымаючы сваю чарку, каб чокнуцца з іншымі. Чаркі звякнулі нягучным і нястройным хорам — рыхтык так, як перад гэтым мужчыны спявалі «Інтэрнацыянал».

— Галоўнае, каб не прапала сусветная рэвалюцыя, — павучальным тонам сказаў Іцкін пасля таго, як закусіў. — У цяперашняй сусветнай сітуацыі нашыя блізкія перспектывы выглядаюць вельмі хісткімі. Нездарма таварыш Троцкі б'е ва ўсе званы: сусветная рэвалюцыя ў небяспецы!

— Ты б, Мендаль, думаў і сам, а не толькі цытаваў пастаянна таварыша Троцкага, — Чарноцкі па-ранейшаму заставаўся змрочным і засяроджаным.

— А што ж рабіць, калі ў партыі запанаваў правы

ўхіл, і толькі Леў Давыдавіч цвёрда трымае курс на перамогу сусветнага камунізму? — зноў карцінна развёў рукі Іцкін.

— Леў Давыдавіч — мудрая галава, — прагудзеў з гаспадарскага месца Лаўчэня. — Бач ты, і Чырвоную Армію здолеў арганізаваць, і потым народнай гаспадаркай заняўся… Мог бы і партыяй кіраваць пасля Ільіча…

Налілі яшчэ па чарцы, выпілі за родную бальшавіцкую партыю і перамогу сусветнага камунізму.

— Нэп, як вучыў нас Ільіч, гэта часовае адступленне рэвалюцыі. Я памятаю, і на фронце так было, што даводзілася адступаць, — Чарноцкі нарэшце расслабіўся і перастаў выглядаць так, быццам кожнае імгненне чакае нападу са спіны. — Але мы адступалі для таго, каб сабраць сілу ў адзін кулак і даць адпор буржуазнай навалачы!

Яго касцісты кулак гучна бухнуў аб стол, нервова бразнулі талеркі з відэльцамі.

— А ўсё ж такі, таварыш Лаўчэня, няправільна ты арганізаваў сустрэчу, — вясёлым тонам загаварыў Кашэль, крыху перачакаўшы выбух эмоцый Чарноцкага. — І не партыйнае пасяджэнне ў нас атрымалася, і не вясёлая вечарынка. Была б у цябе жонка, нам бы тут весялей было — мы б яе пахвалілі,

вашаму сямейнаму жыццю пазайздросцілі б… От зайшла б такая з поўнай міскай сала-аты ці чаго яшчэ…

Кашэль падняўся з-за стала, трымаючы ў руках уяўную міску, і пайшоў вакол стала, наўмысна круцячы клубамі, што выклікала ва ўсіх рогат.

— Прыйшла б такая прыгожая, круглая, радасная. Мы б і салату пахвалілі, і самі задумаліся пра жаніцьбу… — працягваў Васіль. — А то сусветная рэвалюцыя і штодзённая праца зусім не пакідаюць часу на асабістае жыццё!

Лаўчэня пляснуў яго па спіне, хаця спярша рука прымервалася даць плескача крыху ніжэй:

— Ідзі ўжо сядай ды налівай.

«Умее Васіль суцішыць народ», — Мачуга, які сядзеў амаль увесь час ціха, у думках пахваліў прыяцеля.

Мачуга не хацеў ісці на гэтую сустрэчу, бо роздумы яго апошнім часам бесперастанна кружлялі вакол загадкі Валянцінінай смерці. Следчыя, здавалася яму, нічога не робяць, заняўшыся іншымі справамі. Прынамсі, на допыты Канстанціна больш не выклікалі. Калі ж ён сам тэлефанаваў Васільчуку, той нудным голасам паведамляў, што следства працягваецца і ён, следчы, абавязкова паведаміць, калі будзе штосьці важнае…

Мачуга адчуваў, што не зможа быць на сустрэчы

нароўні з іншымі — штосьці сур'ёзна абмяркоўваць або ад душы весяліцца. Але Чарноцкі, які перадаваў яму запрашэнне, сказаў, нахінуўшыся да вуха:

— Абавязкова прыходзь, важная рэч будзе. Лічы, гэта табе амаль што партыйнае даручэнне.

І Мачуга прыйшоў. Агульная гамана неяк суцішыла яго, развеяла яго змрочны і хмарны настрой.

Заўважыўшы гэта, Чарноцкі пазвінеў відэльцам па чарцы, просячы цішыні, і паспрабаваў пажартаваць:

— Бачу, што цяпер ужо ўсе прысутныя з намі — значыць, можна пераходзіць да тэмы сходу. Ён адразу вярнуўся да ранейшай сур'ёзнасці:

— Нам перадалі ліст, які таварыш Троцкі напісаў для левай апазіцыі. Як гэта вядзецца апошнім часам, правыя апартуністы, якія цяпер вядуць рэй у партыі, адмовіліся апублікаваць зварот Льва Давыдавіча ў прэсе, таму ліст распаўсюджваецца неафіцыйна. Дазвольце зачытаць…

Усе прысутныя ведалі, што пасля смерці Леніна ў вярхах бальшавіцкай партыі разгарнулася жорсткая барацьба за ўладу. Учорашнія паплечнікі, якія разам ваявалі супраць белых, цяпер стваралі блокі «супраць-каго-сябруем» і вялі інтрыгі, якім пазайздросцілі б самыя несусветныя круцялі з ліку старарэжымных царадворцаў.

Капрызлівая фартуна адвярнулася ад стваральніка

Чырвонай арміі Троцкага: яго ўсё больш адціскалі ад улады. Спярша —Зіноўеў, Каменеў і Сталін, потым — Сталін, Томскі і Бухарын. Аднак бальшавіцкі Леў не здаваўся і працягваў гуртаваць сваіх паплечнікаў унутры партыі. Намаганні не былі марнымі: лісты і звароты апалагета сусветнай рэвалюцыі яго паплечнікі пашыралі ў рукапісах і перадавалі праз надзейных людзей.

Быццам той рымскі сенатар, які кожную прамову завяршаў словамі пра неабходнасць разбурэння Карфагена, Троцкі пастаянна пісаў пра неабходнасць гуртаваць сілы левай апазіцыі. Цяперашні правы ўхіл у партыі, казаў ён, мы павінны крытыкаваць пры кожнай нагодзе — вусна і пісьмова. Але як толькі партыя зробіць левы паварот, мы яго падтрымаем — незалежна ад таго, хто яго абвесціць і пачне праводзіць. Поўная сацыялізацыя зямлі і прамысловасці, адмова ад прыватнай уласнасці на сродкі вытворчасці — гэта ідэалы Кастрычніцкай рэвалюцыі, і мы не можам ні адмовіцца ад іх, ні аддаць на ганьбаванне апартуністам кшталту Бухарына, якія часова ўзялі верх у партыі…

Ліст Троцкага, які зачытаў Чарноцкі, выслухалі моўчкі, уважліва. Паўплываць на барацьбу ў партыйных вярхах ніхто з іх не мог, і ўсе ўсведамлялі гэта. Адзінае, што ім заставалася, — гэта сапраўды гуртавацца, шукаць аднадумцаў і быць напагатове да

ўсялякіх нечаканых паваротаў у палітыцы.

— Леў Давыдавіч галава, — зноў прабасіў Лаўчэня. — І сказаць жа ўмее гладка.

Іцкін ускочыў — ён відавочна пачуваўся абураным:

— Як жа так? Чаму мы павінны падтрымліваць кожнага, хто абвесціць левы паварот? А калі гэта палітычны флюгер — чалавек, які проста адчувае кан'юнктуру і прымазваецца да мацнейшага? Калі Сталін заўтра пачне вайну з аднаасобнікам у вёсцы, то мы і яго павінны падтрымаць?

— Адчуваецца ў табе, таварыш Іцкін, гэткая схільнасць да анархізму, — павольна загаварыў Чарноцкі, узважваючы свае словы на нябачных шалях. — Ты клапоцішся пра сябе, пра сваё «я», а думаць трэба аб рэвалюцыі ды працоўным народзе. Як казаў Ільіч, рэвалюцыю ў белых пальчатках не робяць, таму і мы будзем карыстацца дапамогай тых, каму з намі па дарозе. Ну, а як толькі будзе не па дарозе, скажам: «Бывай» — і ў распыл. Грамадзянская вайна нас шмат чаму навучыла ў гэтым плане.

— А я згодны з Мендалем, — нечакана заявіў Кашэль. — Адчуваецца, што недагаворвае нечага таварыш Троцкі. Можа, асцерагаецца, можа, якія іншыя матывы ім кіруюць… Але ж прыгадайце, таварышы: калі ўзніклі рознагалоссі ў сацыял-дэмакратычнай партыі 20 гадоў таму, Ільіч не пабаяўся пайсці на

раскол — стварыў нашу бальшавіцкую партыю. Ад палітычнага баласту трэба пазбаўляцца, каб рухацца наперад і ўверх! Часам гэта бывае балюча, але ж неабходна. Калі спатрэбіцца, то, можа, і абвясціць курс на новую рэвалюцыю!..

— У цяперашніх умовах раскол партыі можа быць на руку сусветнаму імперыялізму і паспрыяць рэстаўрацыі капіталізму, — Чарноцкі не збіраўся здавацца пераважным сілам апанентаў. — Менавіта пра гэта папярэджваў Леў Давыдавіч у ранейшых лістах, якія мы таксама атрымоўвалі… А гаворкі пра новую рэвалюцыю ўвогуле падобныя да правакацыі! Або, што яшчэ горш, да глупства. Сказаў жа вам Бухарын, што пры дыктатуры пралетарыяту могуць быць хоць пяць партыяў, але толькі пры адной умове: адна партыя будзе пры ўладзе, а астатнія чатыры — у турме…

Мачуга слухаў спрэчку троху адстаронена, часам правальваючыся ў свае думкі. Аргументы, якія гучалі за сталом, ён ужо чуў не раз і ведаў, што акрамя спрэчак не будзе нічога — ні падпольнай арганізацыі, ні падпольнай дзейнасці. Найбольшая ступень вальнадумства, якую дазволяць сабе прысутныя, — перапісванне і пашырэнне лістоў Троцкага. Палкі аратар і палеміст, які стварыў Чырвоную армію, так і не змог стаць бальшавіцкім Банапартам, здольным на пераварот і захоп улады ва ўчорашніх паплечнікаў. А

яго паслядоўнікі, само сабой, не могуць быць смялейшымі за таго, на каго яны раўняюцца, іначай менавіта яны выбіліся б у лідары.

А што можа ён, Канстанцін Мачуга? Цяпер ён можа хіба што перажываць уласную страту, якая нечакана сталася для яго важнейшай і за сусветную рэвалюцыю, і за блізкіх прыяцеляў. Ён павінен знайсці забойцу Валянціны. Знайсці, даказаць яго віну і пакараць — цырымоніцца і разважаць ён не будзе.

# 7 ЧЭРВЕНЯ 1926 ГОДА, ПАНЯДЗЕЛАК, АПОЎДНІ

Васільчук падняўся з канапы, адсопваючыся і цяжка дыхаючы. Ногі былі як ватныя і злёгку падгіналіся. Не апранаючыся, ён зрабіў па пакоі некалькі крокаў і падышоў да стала, аблітага сонечным святлом — яго бліскучая лакавая паверхня быццам утварала светлавы фантан. Васільчук нязграбным рухам узяў партабак, які нагрэўся на сонцы, дастаў папяросу і задыміў.

Потым павярнуўся і праз сізаваты дым паглядзеў на Антаніну, якая заставалася ляжаць на канапе. На чорнай скураной паверхні яе бессаромна аголенае белае цела, якое яшчэ не паспела загарэць, выглядала як каштоўнае ўпрыгожанне пакоя.

Калі б на месцы Васільчука быў чалавек з больш вытанчаным густам, ён згадаў бы Венеру, снежна-белы карарскі мармур, і адзначыў бы, як прыгожа выцягнуліся зграбныя жаночыя ножкі. Ён ацаніў бы гэтыя спакушальныя выгіны жаночага цела, якія нагадваюць гітарныя абрысы — з той розніцай, што гітара падманліва заканчваецца, а жаночая постаць мае гэтыя спакушальныя мяккія клубы, якія працягваюцца ўжо згаданымі стройнымі ножкамі… І хаця Васільчук не мог выказацца так вобразна, хаця ён быў чалавек больш простых нораваў, але пабачаная карціна падабалася і

яму. Таму ён кхекнуў і вымавіў:

— Ну, ты разлеглася тут… Як статуя ў панскім парку!

Антаніна пацягнулася, і яе грудзі спакушальна калыхнуліся, а смочкі быццам падміргнулі яму:

— Дык і ты можаш легчы побач — месца хапае.

— Ненаежная ты баба, Антаніна, прагная! Як толькі твой муж дае з табой рады?

Яна захіхікала:

— Думаеш, калі б ён даваў мне рады, я б давала табе? Я ж не настолькі дурная. Хаця…

Антаніна абвяла поглядам пакой, які зусім не выглядаў на сціплае пралетарскае жытло. Цёплага залацістага колеру сцены пад самай столлю заканчваліся велягурыстай ляпнінай — нейкія раслінныя матывы. Пад нагамі — мяккі дыван, у які ногі правальваліся па самую костачку. Камін, аблямаваны мармуровымі плітамі, глядзеў на прысутных з адкрытым ротам — быццам арыстакрат, які нечакана пабачыў пастуха, залеглага на панскіх пярынах.

Разгарачаная скура жанчыны ліпла да скураной паверхні канапы, і гэтыя новыя адчуванні былі Антаніне цікавыя, хаця і не вельмі прыемныя. Яна дзівілася, чаму буржуі прыдумалі такую нязручную мэблю для распусты, — кахацца на скураной канапе ёй не вельмі спадабалася. Але ж хацелася пакаштаваць

раскошнага жыцця…

Урэшце яна ленавата павярнулася набок і з усмешкай закончыла папярэднюю фразу:

— Хаця тут усё створана для распусты. Была б я буржуінкай, я б адсюль до-оўга не вылезла нікуды… І чаму ты, Раман, мяне раней сюды не прыводзіў?

Той прымружыў левае вока і, пазіраючы спадылба, ужо змрочна заявіў:

— Раней не прыводзіў, і цяпер не варта было б… Ты на ўсялякі выпадак забудзься пра гэтую кватэру. І завулак гэты абмінай за два кварталы. Кароткая памяць — доўгае жыццё… А гэты адрас — ён для зусім іншых сустрэчаў.

Даўкая цішыня залегла паміж жанчынай і мужчынам, якія так нядаўна былі, здаецца, адным нераз'емным целам. Не гледзячы ў бок Антаніны, Васільчук пачаў апранацца.

Званок у дзверы прагучаў для Антаніны сігналам трывогі — яна хапатліва ўзнялася на канапе, села, падкурчыўшы ногі, і прыкрыла грудзі рукамі:

— Што гэта? Хто там?

Суворы позірк Васільчука стрымаў яе на месцы:

— Апранайся, але адсюль не выходзь, дзверы не адчыняй. Ні мне, ні табе не трэба, каб цябе тут бачылі.

З гэтымі словамі ён выйшаў з пакоя, і цяжкія дзверы адрэзалі Антаніну ад гукаў у астатняй частцы кватэры.

Пакуль яна апраналася, за дзвярыма былі чуваць неразборлівыя галасы. Жанчына спрабавала прыслухацца, але там размаўлялі так ціха, што яна не змагла б сказаць, колькі чалавек там гаворыць. Яна ўжо здагадалася, што гэта канспіратыўная кватэра, на якой Васільчук прымае сваіх інфарматараў. Антаніна нават падазравала, што такая кватэра ў яе начальніка ў горадзе не адна.

Галасы за дзвярыма вабілі сваёй таямніцай, але Антаніна разумела, што яе спроба падслухаць можа скончыцца вялікімі непрыемнасцямі: у АДПУ яна працавала не першы дзень. Таму яна рашуча зацугляла сваю цікаўнасць і з усяе моцы стрымлівала яе.

Неўзабаве вярнуўся Васільчук — ён быў цяпер значна больш у гуморы, чым пару хвілінаў таму, калі пакідаў Антаніну. У руках ён трымаў нейкія паперы, скручаныя ў трубачку.

Нецярпліва адаслаўшы сакратарку на працоўнае месца і нагадаўшы ёй забыцца адрас кватэры, Васільчук замкнуў дзверы. Потым ён вярнуўся ў пакой, сеў за стол і любоўна паклаў перад сабой прынесеныя паперы. Гэта было чарговае данясенне ад «Бландзінкі».

*5 чэрвеня на кватэры ў СЫМОНА ЛАЎЧЭНІ адбыўся падпольны сход групы, якая называе сябе прыхільнікамі так званай левай апазіцыі ў партыі. Для канспірацыі сход быў замаскаваны пад сяброўскую вечарыну з выпіўкай. Прысутны*

*на сходзе ПАВЕЛ ЧАРНОЦКІ крытычна параўнаў сітуацыю з царскім рэжымам, пры якім таксама даводзілася карыстацца канспірацыяй пры сходах партыйцаў і маскаваць іх пад вечарынкі з выпіўкай. Такім чынам, звяртаю пільную ўвагу на контррэвалюцыйнасць такога параўнання.*

*Таксама ЧАРНОЦКІ зачытаў ліст, які ЛЕЎ ТРОЦКІ напісаў да так званай левай апазіцыі наконт бягучага моманту. У лісце гаворыцца пра неабходнасць супрацьстаяць так званым правым ухілістам, прыкладам якіх называецца таварыш МІКАЛАЙ БУХАРЫН. У сваім звароце ТРОЦКІ заклікаў падтрымаць так званы левы паварот у шэрагах партыі, калі ён адбудзецца, не зважаючы на персанальнае імя партыйнага кіраўніка, які абвесціць гэты т.зв. левы паварот.*

*Падчас абмеркавання ліста ад прысутных прагучалі крытычныя антысавецкія выказванні. Напрыклад, МЕНДАЛЬ ІЦКІН выказаўся супраць падтрымкі т.зв. левага павароту, калі яго абвесціць, як сказаў ІЦКІН, палітычны флюгер. У прыватнасці, такім флюгерам ён назваў таварыша ІОСІФА СТАЛІНА.*

*Акрамя таго, на сходзе гучалі выказванні пра непазбежнасць расколу ў партыі і пра неабходнасць стварыць новую партыйную арганізацыю. Найбольш радыкальна ў гэтым сэнсе выказваліся згаданы ІЦКІН і КАНСТАНЦІН МАЧУГА. Лічу неабходным узяць згаданых грамадзян пад*

*асабліва пільны кантроль, бо не выключаю антысавецкіх дзеянняў з іх боку – аж да палітычнага бандытызму.*

*Хачу звярнуць увагу, што пакуль застаецца нявысветленым шлях, якім дастаўляюцца лісты ТРОЦКАГА на перыферыю. Мяркую, што дзейнічае сетка кур'ераў, аднак канкрэтны кур'ер, які дастаўляе лісты ў Воршу, пакуль мной не вызначаны. Прапаную прыставіць назіральнікаў да ЧАРНОЦКАГА, каб раскрыць гэтую сетку.*

# 7 ЧЭРВЕНЯ, ПАНЯДЗЕЛАК, ПАДВЯЧОРАК

Хлюдзінскі няспешна вяртаўся з працы. Дзённая спёка ўжо не даймала, дыхалася лягчэй, і шпацыр успрымаўся як чарговая дробная прыемнасць жыцця.

Ворша — горад невялікі, і жыццё тут ішло няспешна, быццам мёд, які сцякае з лыжкі доўгай, цягучай, бясконцай ніткай. У большых гарадах, якія бачыў Антон — у Менску ці Вільні, —таксама ёсць такія раёны, дзе час прыпыняецца, дзе жывуць у рытме ці то вёскі, ці мястэчка. Але цэнтр у такіх гарадах заўжды мітуслівы, людны, нейкі ўскудлачаны.

Ворша імпанавала Хлюдзінскаму акурат гэтай сваёй старасвецкасцю, няспешнасцю. Быццам у вёсцы, ён вітаўся з жыхарамі тых вуліц, па якіх хадзіў штодня. Усё было па-суседску, без адчужанасці вялікага горада.

Часам Антону падавалася, што ён ведае абсалютна ўсіх людзей, якія трапляюцца яму на вуліцах. Ведае гэтую немаладую жанчыну, цётку Адарку, у якой раз-пораз купляе малако. Ведае каваля Хведара, які жыве ў Музейным завулку і вяртаецца дадому акурат тады, калі Хлюдзінскі сыходзіць з працы. Знаёмыя твары, знаёмыя фігуры…

Вось і гэтая постаць, спіну якой Хлюдзінскі пабачыў перад сабой, падалася яму знаёмай. Чалавек ішоў

цвёрдым упэўненым крокам, які выдаваў у ім не толькі вайсковую выпраўку, але і звычку камандаваць. Аднак Антон ніяк не мог узгадаць, каму ж з яго знаёмых належыць гэтая спіна і такія валявыя рухі. Зацікаўлены, ён пайшоў следам — балазе спяшацца не было куды, можна дазволіць сабе адпачыць за рашэннем нескладанай задачкі.

Раптам на чалавека, за якім ішоў Хлюдзінскі, наляцела кампанія падлеткаў гадоў дванаццаці-чатырнаццаці. Яны пачалі бегаць і скакаць вакол мужчыны, гарланячы:

— Дзядзечка, дай папяроску!

— Дзядзечка, дай грывеннік!

— Дзядзечка, дай на хлебушак!

— Пакінь пакурыць, дзядзечка!

Мужчына стаў адмахвацца ад пацанвы. Ён круціўся, нязграбна размахваючы рукамі, і відавочна хацеў не так схапіць, як напалохаць хлопцаў. Аднак тыя былі больш шустрымі ды паспявалі адскочыць ад сваёй ахвяры. Хлюдзінскі нечакана для сябе пазнаў у ім Васільчука — таго следчага з АДПУ, які расследаваў забойства Валянціны і дапытваў яго. Цяжкія ўспаміны, непрыемны чалавек…

Антон ужо сабраўся павярнуцца ў іншы бок, як пабачыў, што адзін з падшыванцаў, карыстаючыся момантам, спрытна выцягнуў у Васільчука штосьці з

кішэні пінжака. Сам следчы гэтага не заўважыў, бо спрабаваў адагнаць іншых шэсць-сем падлеткаў, якія кружлялі вакол яго і хапалі то за рукавы, то за крысо пінжака.

Як толькі здабыча апынулася ў руках малога зладзюжкі, кампанія рассыпалася і пабегла за найбліжэйшы паварот. Як зразумеў Хлюдзінскі, абакрадзены Васільчук не заўважыў сваёй страты і працягнуў свой маршрут.

Паведамляць следчаму, што той стаў ахвярай кішэннікаў, Антон не збіраўся: для яго сітуацыя мела хутчэй камічнае адценне, чым крымінальнае. А вось самому яму вельмі карцела даведацца пра той прыз, які дастаўся беспрытульнай хеўры. Таму Хлюдзінскі прыспешыў крок і павярнуў за рог на тую вуліцу, куды пабеглі падлеткі.

Падлеткі далёка не ўцяклі: у першай жа падваротні Хлюдзінскі пабачыў іх кампанію, якая з расчараваннем разглядала паперы, скрадзеныя ў Васільчука.

— Не, не грошы, а абы-што нейкае. Трэ было ў іншай кішэні пашнарыць, — сказаў галоўны і, скамечыўшы паперы, кінуў вобзем гэты невялікі мячык. Ён нападдаў па ім нагой, і камяк выскачыў проста пад ногі Хлюдзінскаму, які стаяў каля ўваходу ў падваротню. Расставіўшы ногі і засунуўшы рукі ў кішэні, ён назіраў за малалеткамі з выглядам

відавочнай перавагі.

Нечаканае з'яўленне дарослага збянтэжыла падлеткаў, і з крыкам «Атас!» яны рвануліся да процілеглага выхаду, каб уцячы з нечаканай пасткі.

Тым часам Хлюдзінскі нетаропка нагнуўся і падняў папяровы камяк, які так грэбліва шпурнулі яму пад ногі. Раскруціўшы яго, Антон пачаў чытаць і адчуў, як, не зважаючы на цёплы чэрвеньскі вечар, халодная рага поту пазначыла яго спіну. Гэтая прыкрая ліпкая кропля зарадзілася недзе на карку і марудна папаўзла, абмацваючы пазванкі.

У яго руках апынуўся сапраўдны данос.

Дбайна выведзеныя літаркі сведчылі, што аўтар даносу пісаў яго без залішняга спеху — акуратна і з любоўю. І гэтая стараннасць збянтэжыла Хлюдзінскага больш за ўсё.

Ён без вялікіх складанасцяў прачытаў кароткі тэкст. Сам факт даносу збянтэжыў Антона настолькі, што ён не адразу зразумеў сэнс напісанага, аднак потым перачытаў, запыніўшыся на ўжо знаёмым прозвішчы: «*Акрамя таго, на сходзе гучалі выказванні пра непазбежнасць расколу ў партыі і пра неабходнасць стварыць новую партыйную арганізацыю. Найбольш радыкальна ў гэтым сэнсе выказваліся згаданы ІЦКІН і КАНСТАНЦІН МАЧУГА. Лічу неабходным узяць згаданых грамадзян пад асабліва пільны кантроль, бо не выключаю антысавецкіх дзеянняў з іх*

*боку — аж да палітычнага бандытызму»*.

Азірнуўшыся па баках, Хлюдзінскі сунуў данос у кішэню і павольна пайшоў дадому сваім звычайным маршрутам.

Што рабіць са сваёй нечаканай знаходкай, ён яшчэ не вырашыў. Першым яго памкненнем было знішчыць агідную паперу, але выкінуць яе адразу Антон не наважыўся: раптам яшчэ хтосьці такі ж цікаўны падбярэ.

Дома данос можна было спаліць, не пакінуўшы ад яго слядоў. Няхай потым кусаюць сабе локці гэтыя таварышы з АДПУ.

Зрэшты, думаў ён дарогай, ёсць яшчэ адзін варыянт. Як сумленны чалавек ён, Антон Хлюдзінскі, мусіў бы папярэдзіць Мачугу і, магчыма, перадаць данос яму — калі б не адно «але»…

Калі б ніколі не было Валянціны і Мачуга не быў бы яе мужам.

Хлюдзінскі па-ранейшаму падазраваў, што Мачуга мае дачыненне да смерці Валянціны, а ад адказнасці ён сышоў дзякуючы сваёй партыйнасці і высокаму становішчу: абвінаваціць, а тым больш арыштаваць значнага партыйнага дзеяча не так і проста…

Задумаўшыся, ён нават не заўважыў, як дайшоў дадому. Там ён разбіў пару яек, і стаў смажыць сабе на прымусе яечню з цыбуляй. Дзеянні Хлюдзінскага былі

механічнымі, бо данос па-ранейшаму займаў усе яго развагі.

…Магчыма, Васільчук ведае, што Мачуга зарэзаў сваю жонку, і цяпер збірае на яго кампрамат — каб прыперці да сценкі не адным, дык другім абвінавачаннем. У такім разе варта было б неяк падкінуць данос следчаму, каб той працягваў капаць пад гэтага партыйца. Хто б з іх ні перамог другога (а Хлюдзінскі адчуваў непазбежнасць сутыкнення паміж імі), яго, Антона, гэта можа толькі пацешыць.

Абодва яны — і Васільчук, і Мачуга — былі яму ў роўнай ступені непрыемнымі. Праўда, пачуцці да Мачугі мелі жалезісты прысмак рэўнасці, а ў адносінах да Васільчука ён адчуваў глыбокі жывёльны страх.

Антон еў проста з патэльні, мачаючы акрайчык жытняга хлеба ў яечню. Смаку стравы ён амаль не адчуваў.

Але аддаць данос («Данос!» — у думках ён усё яшчэ ўспрымаў гэтае слова з жахам і агідай) падавалася яму немагчымым — гэта бадай адно і тое, што самому стаць аўтарам такой паперыны. Як пасля гэтага можна будзе глядзець у вочы іншым?..

Дык што, спаліць?

А калі… Уявім гіпатэтычна такую магчымасць: Мачуга не забіваў Валянціну. Так, іншай кандыдатуры на ролю забойцы Хлюдзінскі не бачыў, дый ягоны

канкурэнт добра пасаваў на ролю Атэла — хіба што колер скуры не адпавядаў шэкспіраўскаму маўру.

Але ўявім, што Мачуга невіноўны. І калі перадаць данос яму, то гэта можа перасцерагчы яго і яго таварышаў як мінімум ад турмы. А можа, тут і не турма пагражае? Казаў жа заснавальнік ЧэКа, што бальшавікам не трэба чатыры сцяны, каб стрымаць ворага, — хопіць і адной, да якой гэтага ворага можна паставіць…

Роздум пра тое, які крок будзе найбольш правільны, доўга не адпускаў Хлюдзінскага, аж пакуль літасцівы сон не накрыў яго сваім покрывам.

# 9 ЧЭРВЕНЯ 1926 ГОДА, СЕРАДА, ВЕЧАР

Уладзіслаў Гарбылоўскі адпрацаваў змену на аршанскім бровары і выйшаў праз прахадную на вуліцу. Заводзік, які выпускаў піва, насіў гучнае імя рымскага рэвалюцыянера і барацьбіта за правы прыгнечаных. І Уладзіславу вельмі падабалася, што завод, на якім ён працуе, носіць імя Спартака. Падабалася і тое, што над заводам вісіць чырвоны сцяг, які сведчыць пра кроў, пралітую працоўным народам за свае правы. Падабалася тое, што ён працуе васьмігадзінную змену на дзяржаву рабочых і працоўнага сялянства.

Ён падумаў, што варта будзе неяк у вершы напісаць пра тое, што імёны герояў мінулых часоў цяпер носяць фабрыкі і заводы. Напісаць па-пралетарску, так, каб у рытме верша можна было пачуць працу станкоў…

— Гарбылоўскі?! — запытальна гукнуў яго нехта збоку.

Уладзіслаў павярнуўся — на яго глядзеў незнаёмы мужчына. Чысты, дагледжаны, адразу відаць — не з рабочых. Не вельмі малады, ужо відавочна за трыццаць. Магчыма, нейкі службовец з якога-небудзь трэста, ацаніў яго Гарбылоўскі.

— Мы знаёмыя? — Уладзіслаў злёгку схіліў галаву набок, працягваючы разглядаць незнаёмца.

— Не, хаця і маем некаторых агульных знаёмых. У мяне ёсць да вас размова. А дзе вас знайсці, мне падказаў Міхась Ганчарык, кіраўнік мясцовай філіі «Маладняка». Вы ж ведаеце, што ён загадчык аддзела народнай адукацыі ў акрузе, а я працую інструктарам у гаркаме — мы з ім у нейкім сэнсе калегі. Па працы калегі… А вы з ім калегі па літаратуры, як я разумею…

— Дык вы пра літаратуру пагаварыць хочаце? — крывавата пасміхнуўся Гарбылоўскі. — Можна і пра літаратуру… Толькі сасмяг я пасля працы і прысесці хачу — вы супраць чайнай нічога не маеце? І… як да вас звяртацца?

Выявілася, што незнаёмца клічуць Канстанцінам Мачугам і што ад чайнай ён носа вараціць не будзе.

Адпаведнае памяшканне знайшлося недалёка — у цемнаватым пакойчыку з пасдлепаватымі, даўно не мытымі вокнамі пахла так, быццам гаспадар баяўся, што разам з вулічным паветрам усярэдзіну трапіць якая-небудзь смяротная зараза. Гарбылоўскі іранічна скасавурыўся, калі заўважыў, як Мачуга моршчыцца і стараецца прызвычаіцца да цяжкага паветра. А што, мы па рэстаранах не ходзім, адэкалон на сябе не выліваем!

Рабочы ўзяў сабе гарэлкі і заедак да яе — квашанай капусты, варанай ялавічыны, а Мачуга абмежаваўся

півам, чым зноў павесяліў Гарбылоўскага.

Размаўляць не спяшаліся.

Пасля таго, як Уладзіслаў выпіў і закусіў, Мачуга нарэшце наважыўся:

— Вы, таварыш Гарбылоўскі, папулярны ў нашым горадзе паэт. Гэта ж вашыя радкі: «Часамі поўніцца істота музыкай»?..

— А часам дзіўнаю пральецца рызыкай, — падхапіў з задавальненнем рабочы. — Мае! Я гэты верш на выступах чытаю, людзям падабаецца.

— Паэтаў жанчыны любяць, — працягваў старэйшы з суразмоўцаў. — Вы, мабыць, таксама карыстаецеся папулярнасцю ў іх. Не сумняюся, што на паэтычныя чытанні некаторыя прыходзяць толькі дзеля вас…

— Можа, і так, я ж усіх не ўпільную, хто і дзеля каго ходзіць, — Гарбылоўскі пасміхнуўся з пачуццём уласнай перавагі. — Я паэт-пралетар, пішу для ўсяго рабочага класа. Вершыкі для паненак — гэта буржуі ў сваіх палацах пісалі. Альбомы для бледных гімназістак!..

Павісла паўза, цяжкая, як паветра ў гэтым неахайным памяшканні. Мачуга пакутліва думаў, як задаць важнае для яго пытанне, каб пры гэтым не выглядаць смешна.

Дапамог яму сам паэт-пралетар, які абарваў

узаемнае маўчанне:

— Вось, напрыклад, запрашалі нас павіншаваць таварышаў жанчын з Восьмым сакавіка. Свята нашае, рэвалюцыйнае! І мы віншавалі не таму, што гэта жанчыны, а таму што гэта блізкія нам таварышы, таксама працоўны народ.

— Хто запрашаў? — пытанне само сарвалося з вуснаў Мачугі, быццам коршун, які заўважыў здабычу.

— Ну… гэты… жаночы савет!

— І як? Цікавы атрымаўся вечар? Запомніўся ж ён вам нечым? — коршун, спушчаны Мачугам, учапіўся ў сваю здабычу і ўжо не меў намеру адпускаць яе.

— Вечар як вечар, — абыякава перасмыкнуў плячыма яго суразмоўца. — Прымалі вельмі добра, у далоні ляскалі пасля кожнага верша. Ну, вы ж разумееце, што добры пралетарскі верш, ён заўжды зачэпіць струну ў душы працоўнага чалавека!

Раптам твар Гарбылоўскага змяніўся: з абыякава-высакамернага ён нечакана стаў радасным і нейкім прасветленым. Вочы праменілі пяшчоту, якую Мачуга бачыў даўно — хіба што ў святых на нейкіх старых абразах у царкве. Спярша ён вырашыў, што паэт-пралетар так зрэагаваў на нейкі цёплы ўспамін з той вечарыны для жаночага савета, і ў сэрцы Мачугі зашчыміла: ён памятаў, што Валянціна была там старшынёй.

Але, прыгледзеўшыся, ён зразумеў, што Гарбылоўскі не глядзіць задуменна ўглыб сябе, згадваючы ранейшыя салодкія часіны, а з такой радасцю і пяшчотай аглядае чалавека, які толькі-толькі зайшоў у чайную. Пасля светлай вуліцы той не адразу мог разгледзець прыцемненае памяшканне і таму троху бесталкова азіраўся навокал.

— Пятро! — гукнуў яго Гарбылоўскі і памахаў рукой. — Пятро, хадзі сюды.

Высокі, як пажарная вежа, Пятро падышоў да стала і павітаўся, насцярожана пазіраючы на Мачугу.

— Гэта таварыш Мачуга з гаркама, — патлумачыў Гарбылоўскі. — Ён літаратурай цікавіцца, пра вершы мае распытваў, пра выступы…

— Літаратурай, значыць? Ага, — неяк няпэўна гмыкнуў Пятро. — І вы зайшлі менавіта сюды, каб пагаварыць пра літаратуру і пра вершы? Ну-ну…

— Ай, не выдурняйся, — неяк ненатуральна засмяяўся паэт-пралетар.

Паводзіны парачкі вельмі былі падобныя да сцэны рэўнасці, і гэтая кароткая сцэнка паказала Мачугу марнасць усіх яго падазрэнняў наконт сувязі паміж Валянцінай і гэтым пустазвонам-рыфмачом. Гарбылоўскі, як выглядала, ваяваў зусім на іншых франтах — тых, дзе змагаюцца за ўвагу мужчын, а не жанчын.

Канстанцін і раней чуў пра існаванне такіх прадстаўнікоў моцнай паловы чалавецтва, хоць і не сустракаўся з імі. Праўда, чуткі, якія даходзілі да вуха Мачугі, сцвярджалі, што такімі ненатуральнымі справамі займаюцца прадстаўнікі дэгенератыўных класаў — белыя афіцэры альбо якія-небудзь памешчыкі-фабрыканты… Для яго стала шокам тое, што рабочы чалавек можа цікавіцца іншым чалавекам свайго ж полу не як таварышам па працы, барацьбе ці іншай грамадскай дзейнасці, а менавіта як аб'ектам для кахання і любошчаў.

Разгублены Мачуга падняўся і, ледзь не забыўшся развітацца, выйшаў з чайнай. Свежае паветра вуліцы акаціла яго халаднаватай хваляй, і Канстанцін зразумеў, што ён увесь палае, хаця і не мог зразумець — ці ад цяжкога паветра чайнай, ці ад свайго нечаканага адкрыцця.

# 9 ЧЭРВЕНЯ, СЕРАДА, ВЕЧАР

Прыемнаму чалавеку ты схільны прабачаць хібы, і не заўжды толькі дробныя. А калі непрыемны чалавек зробіць табе штосьці добрае, то гэта не выклікае да яго аўтаматычнай прыязнасці. Ну, хіба што паслуга будзе ве-ельмі вялікай…

Чалавечыя пачуцці існуюць незалежна ад логікі. І большасць людзей кіруецца ў сваіх паводзінах часцей менавіта эмоцыямі, а не халоднай выверанасцю лагічнага разліку.

Лідачка Бурцава не была выключэннем, яна належала да большасці. Яна вырашыла, што Канстанцін Мачуга будзе належаць ёй, і таму ў яе выклікалі вялікі неспакой яго незразумелыя паводзіны апошняга часу: кудысьці сыходзіў, нічога не кажучы, недзе бадзяўся вечарамі, сустракаўся невядома з кім…

Лідачка не намервалася выпускаць здабычу са сваіх драпежных вострых кіпцікаў: яна вырашыла прасачыць, чым займаецца і куды ходзіць Мачуга ў вольны ад працы і ад яе час. Павінна ж яна ведаць, каб як найлепш дагадзіць сваму будучаму мужу, ці не? А ў тым, што менавіта ён неўзабаве стане яе мужам, Лідачка не сумнявалася — яна зробіць для гэтага ўсё магчымае і немагчымае.

Яе не турбавала, калі «яе Косцік» вечарам ішоў

выпіваць заміж таго, каб спяшацца да яе. Лідачка памятала мамчына выслоўе: «Калі мужа не адпускаць выпіць трошкі гарэлкі з мужчынамі, то ён пойдзе піць яе з чужымі жанчынамі». І тое, што пасля выпіўкі Канстанцін часта ішоў спаць не да яе, а ў сваё ранейшае жытло, таксама не выклікала празмернага неспакою. Мужчына пасля працы расслабіўся і не хоча паказацца сваёй пасіі ў не дужа прывабным выглядзе…

Але аднойчы яна пайшла пасачыць за «сваім Косцікам» удзень (дакладна памятае — гэта была нядзеля, 30 траўня) і нечакана высветліла, што ён сустракаецца з нейкай шлёндрай у гарадскім парку! Яе абурэнне было нястрыманым, быццам шторм на карціне мастака Айвазоўскага, пра якога Лідачка неяк чула ад прыезджага лектара.

Першае, што яна хацела зрабіць, — гэта падскочыць да лавачкі, на якой сядзела гэтая здрадлівая парачка, і ўчапіцца ненавіснай лахудры ў космы, а потым цягаць яе па дарожцы. Яе раз'ятранасць не дазволіла ёй фурыяй даляцець да лаўкі толькі таму, што ад вострага прыступу нянавісці яна адчула слабасць у нагах. Каленкі гадка падрыгвалі, і Лідачка была вымушаная мацней абаперціся на дрэва, за якім хавалася ад вачэй Мачугі.

Яна стаяла і толькі глядзела, як спрытная шэльма спрабуе зацугляць яе мужчыну.

Аднак тое, што адбывалася паміж Канстанцінам і шлёндрай, зусім не было падобным да любоўнага спаткання: за рукі яны не трымаліся, не абдымаліся і не цалаваліся. Размовы Лідачка не чула, але разгледзець твары магла: у іх таксама нічога не выдавала пяшчотных пачуццяў або заляцанняў паміж мужчынам і жанчынай.

Паціху яна супакойвалася, назіраючы гэтую дзіўную сустрэчу. А калі маладзіца, з якой размаўляў Канстанцін, шпарка пайшла ад яго, не азіраючыся, Лідачка ўжо святкавала перамогу і віншавала сябе з тым, што праявіла абачлівасць і не пабегла драць валасы на галаве ў лахудры: цяпер ужо ясна, што ніякая яна не суперніца.

З іншымі жанчынамі яна за ўвесь астатні час Канстанціна не бачыла. Таму на гэты конт Лідачка троху супакоілася, але кантраляваць не перастала: хто сам сябе сцеражэ, таго і бог беражэ… І гэтым вечарам яна цішком ішла за Мачугам, які спярша каля фабрыкі спыніў нейкага хлопца, потым пайшоў з ім у чайную.

Лідачка ўжо даволі доўга стаяла на вуліцы каля чайнай і ніяк не магла вырашыць, што рабіць далей, бо проста стаяць было ўжо нават і няёмка. Выбар быў невялікі: або ісці дадому, або зайсці ў чайную (як быццам выпадкова!) і забраць адтуль Канстанціна.

Пакуль яна вырашала, які з гэтых варыянтаў

выбраць, з дзвярэй як ашалелы выскачыў Мачуга: твар у яго быў расчырванелы, вочы збянтэжана зіркалі па баках, быццам не маглі засяродзіцца ні на адным прадмеце.

Лідачка зразумела, што яе дапамога неабходная, і рашуча падхапіла Канстанціна пад руку. Яна вяла яго да сябе дамоў, прыгаворваючы нешта, быццам маломy дзіцяці, каб ён хутчэй супакоіўся. Сэрцам яна адчувала, што тон важнейшы за словы, і таму гаварыла не спыняючыся, нібы рытмічна закалыхвала ўсе турботы, якія апанавалі душу яе мужчыны:

— Ціха-ціха-ціха! Не перажывай так, усё будзе добра. Зараз мы з табой прыйдзем дадому, ляжаш на ложак. Я табе пасцялю, сама цябе ўгайдаю, калі трэба — за вушкам пачухаю… Ты, Косцік, харошы, і ты мне патрэбны. Заставайся са мной, Костачка, я табе добра гатаваць буду, адзежу табе мыць, даглядаць цябе, пылінкі з цябе здзьмухваць буду… Я харошая, Косцік, і ўначы табе добра са мной будзе. Я табе верная буду, не тое што твая былая…

Лідачка прыкусіла язык, але было позна: Мачуга спыніўся, і яго позірк не абяцаў жанчыне нічога добрага.

Выразна аддзяляючы кожнае слова, ён адчаканіў:

— Што? Ты? Хацела? Сказаць? Пра? Валянціну?

—Ды нічога, нічога, — Лідачка закруцілася,

быццам ліса, якая спрабуе вырвацца з неспадзяванай пасткі. — Агаварылася я…

Твар Канстанціна ўжо даўно страціў сваё бурачковае адценне і ў вечаровых прыцемках бялеў цяпер невыразнай маскай. Ніводная эмоцыя не адбівалася на твары, але вочы… У вачах бушавалі такія ўраганы, што Лідачцы стала вусцішна.

— Да Валянціны тваёй заляцаўся сябрук гэты твой вусаты, Кашэль, — словы былі ціхімі, ледзь улоўнымі. — Усе вакол ведалі, што ён да яе пад бок падкаціцца хоча… Не ведаю, ці было паміж імі што-небудзь, але потым яна яго абсмяяла пры іншых жанчынах: сказала, што ад такога пеўня толку мала, бо ў яго ўся сіла ў шпоры пайшла, а вышэй не ўзнялася. Можа, нешта яна пра яго і ведала, калі такое сказала…

Лідачка апусціла галаў, не наважваючыся паглядзець у твар Канстанціну.

Той маўчаў, не кажучы ёй ані слова.

Праз якую хвіліну ўжо ён абняў яе за плечы і павёў дадому. Лідачка злёгку дрыжала — ці то ад вечаровага холаду, ці то ад перажытых эмоцый, і таму з удзячнасцю грэлася ў мужчынскіх абдымках.

# 10 ЧЭРВЕНЯ 1926 ГОДА, ЧАЦВЕР, ВЕЧАР

Пад правай рукой Васіль Кашэль адчуваў пругкае маладое дзявочае цела, і гэтае адчуванне кружыла яму галаву не горш за гарэлку. Ён па-гаспадарску абдымаў гэтую невысокую чарнявую Марыйку за талію і ўпэўнена вёў яе па гасцінічных лесвіцах угору, на трэці паверх. У потнай ад хвалявання левай руцэ Кашэль сціскаў ключ ад нумара, уручаны яму жулікаватым парцье, які выдаў прыязную шырокую ўсмешку пад тоненькай палоскай вусікаў і нахабна падміргнуў, калі пабачыў наведнікаў.

Васіль рэзка параіў яму не сушыць зубы, а ветліва абслугоўваць гасцей, іначай гасцініца «Парыжская» можа атрымаць такія праблемы, пасля якіх гаспадар без роздуму разлічыць нахабу-парцье. Шырокая ўсмешка адразу знікла з твару маладога чалавека, быццам сцёртая нябачнай рукой, а ў голасе з'явіліся лёкайскія ноткі:

— Як пажадаеце, грамадзяне харошыя…

Кашэль пажадаў, каб яму са спадарожніцай выдалі ключ ад добрага двухмеснага нумара і не турбавалі да раніцы. І цяпер ён падымаўся па лесвіцы, абапіраючыся на парэнчы і надзейна прытрымліваючы рукой дзяўчыну, чыё сэрца нервова калацілася пад простай

паркалёвай сукенкай, якая кепска спалучалася з мармуровымі лесвіцамі гасцініцы і цяжкімі пазалочанымі свяцільнямі на сценках.

Зрэшты, і вопратка самога Кашаля мала адпавядала гэтаму багатаму інтэр'еру: фрэнч, галіфэ і боты выглядалі сярод нэпаўскага аздаблення чужымі, але самога мужчыну гэта ані не бянтэжыла.

Марыйка раней не была ў такіх месцах і лічыла іх вельмі буржуазнымі і ўпадніцкімі. Васіль пазнаёміўся з ёй на адным з пасяджэнняў аршанскіх маладнякоўцаў: дзяўчына прыйшла туды са сваімі вершамі, у якіх заціхалі лілёвыя вечары, бурапеніўся ветрам дух эпохі ды ўзрасталі сталёвыя кветкі заводаў на тых мясцінах, дзе яшчэ ўчора стаялі занядбаныя сялянскія халупы… Словам, вершы былі не горшыя, чым у іншых. Праўда, і не лепшыя.

Затое сама Марыйка прыцягвала ўвагу і сваім абаяльным канапатым тварыкам, на якім лёгка з'яўлялася чырвань, і рудымі косамі, якія спускаліся стрэлкамі-ўказальнікамі на дзявочыя грудкі. Кашэль адразу паклаў на яе вока і пастараўся адвадзіць усіх магчымых кавалераў-юнакоў, адразу пусціўшы ў дзеянне цяжкую артылерыю — грошы, вялікай наяўнасцю якіх тыя не маглі пахваліцца, бо ў асноўным на паэтычныя вечары прыходзіла працоўная і навучэнская моладзь.

Кашэль спярша запрасіў Марыйку на вячэру ў рэстаран, пасля чаго правёў яе да рабфакаўскага інтэрната, дзе пражывала дзяўчына. Ужо на другім спатканні паход у рэстаран пры гасцініцы «Парыжская» лагічна завяршыўся паходам у адзін з нумароў.

У нумары дзяўчына азіралася з цікаўнасцю: вялікі ложак, якіх яна раней ніколі не бачыла, пярэстыя шпалеры, у якіх сям-там пад святлом бліскалі залацінкі, велізарнае люстэрка — ледзь не ад палогі да столі… Нават крэслы тут былі мяккія! Ніколі раней Марыйка не бачыла такой раскошы.

Тым часам мужчына адкрыў бутэльку шампанскага, якую прыхапіў з сабой з рэстарана: яна рэзка стрэльнула, і корак паляцеў кудысьці ў кут. Васіль абыякава махнуў рукой — маўляў, не бяды, хай валяецца.

Ён падаў дзяўчыне напоўнены келіх, і яна заварожана пабачыла, як у напоі падымаецца тоненькі струменьчык бурбалак.

— Ой! — Марыйка не змагла стрымаць свайго захаплення. А пасля таго як адпіла, смешна зморшчыла носік: шчыплецца, але неяк смешна, нязвыкла…

— Мы вып'ем на брудэршафт! — абвясціў ёй Васіль, узяўшы свой келіх. Іх рукі, занятыя келіхамі, перапляліся, кожны зрабіў па глытку, пасля чаго мужчына паведаміў, што цяпер трэба пацалавацца.

Пацалунак быў смачны, кіславата-салодкі, і Марыйка ўсярэдзіне ўся сцялася і затрымцела ў прадчуванні далейшага працягу.

І працяг не затрымаўся: мужчынскія рукі лашчылі яе плечы, спіну, грудкі, а вусны тым час палка цалавалі вусны, шчокі, вочы, шыю…

Дзяўчына сама не заўважыла, як ужо распранутая апынулася на ложку, а побач — разгарачанае алкаголем і яе блізкасцю мужчынскае цела. У галаве круцілася, яна адчувала ласку Васілёвых рук, і хацела, хацела, каб ён зрабіў з ёю тое, што мужчыны робяць з жанчынамі — назваць гэта іначай яна саромелася нават у думках.

Але раптам Васіль адстаронена адкаціўся на другую палову ложка і застыў, увесь наструнены, быццам пазначаў сабой нейкі невядомы мерыдыян, з якога яму ніяк нельга было зварухнуцца.

— Што здарылася? — Марыйчыны вочы яшчэ былі затуманеныя, і яна ніяк не магла зразумець, чаму так рэзка і крыўдна абарвалася гэтая цягучая насалода.

— Нічога, — голас мужчыны гучаў прыдушана, нібы прабіваўся з-пад крушні, у якуюператварылася ўсё яго цела.

Марыйка зірнула на твар Васіля — яго пусты позірк утаропіўся ў столь, спрабуючы ўгледзець там штосьці, нябачнае іншым. Ейны позірк ацаніў мужчынскае цела, якое яшчэ рэзка ўздымалася ад невыраўнянага дыхання,

а потым апусціўся ніжэй: мужчынская годнасць яе кавалера бездапаможна звешвалася набок, зусім не адпавядаючы тым жарсцям, якія толькі што палалі на гэтым ложку.

Дзяўчына пагладзіла свайго кавалера па плячы, спрабуючы падлашчыцца:

— Ну, бывае, кажуць…

Нечаканая поўха апякла ёй шчаку. Потым мужчынскі кулак урэзаўся ў жывот, выбіваючы з яе паветра, і Марыйка скурчылася на сваёй палове, нема варушачы вуснамі, як рыба, выкінутая на бераг. У гэтым вялікім пакоі паветра было замала — прынамсі, Марыйцы яго неставала.

Кашэль на гэтым не спыніўся: ягоная лютасць нібы сілкавалася бездапаможнасцю ахвяры. Схапіўшы дзяўчыну за валасы, Васіль сцягнуў яе з ложка, а потым, не спыняючыся, давалок да дзвярэй. Марыйка бездапаможна перабірала па падлозе рукамі і нагамі, каб паспець, каб не даць яму адарваць валасы ад галавы. Яна б крычала ад болю, каб магла, але здолела толькі сутаргава хапануць паветра, як ужо апынулася за дзвярыма гасцінічнага нумара. Голая, яна сядзела ў прыцемку калідора і ніяк не магла зразумець, як так здарылася і чым яна выклікала такую раз'ятранасць.

Дзяўчына нарэшце змагла ўздыхнуць, і адчула, як апякае ўсярэдзіне кожны ўздых, кожны хапок паветра.

Скура на галаве смылела, цела ныла ад удараў, рукі і ногі пачырванелі ад дывановай дарожкі, па якой Марыйку толькі што валаклі. Яна дакранулася да сіняка, які ўсё больш яскрава праступаў на жываце: балюча!

Дзверы нумара адчыніліся, і на дзяўчыну звалілася яе немудрагелістая вопратка.

— Скажы «дзякуй», што не голая па вуліцы пойдзеш, — голас быў халодны, адстаронены. Пасля гэтага дзверы хлопнулі, пакідаючы Марыйку сам-насам з непрыветным паўзмрокам калідора, куды ў кожны момант мог зазірнуць або парцье, або нехта з гасцей.

Кашэль дапіў шампанскае, якое купляў пераважна для спакусы дзяўчыны, але — не палягчэла. Апошнім часам канфузы ў ложку праследавалі яго, і гэта балюча біла па мужчынскім самалюбстве. Васіль спадзяваўся, што з новай жанчынай у яго ўсё атрымаецца, таму цягнуў іх у ложак адну за адной, але марна…

Парцье ўсіх аршанскіх гатэляў ужо ведалі яго. «Брыстоль», «Эрмітаж», «Цэнтральная», «Дняпроўская», «Брэст-Літоўская», «Парыжская», «Камерцыйная» — ён не па адным разе наведаў усе гасцініцы, заходзячы туды штораз з іншай жанчынай.

І кожная чарговая няўдача ўсё больш раз'юшвала яго.

# 10 ЧЭРВЕНЯ, ЧАЦВЕР, ВЕЧАР

Мачуга пасля працы вяртаўся дадому. Дакладней, ён спярша хацеў ісці дадому, але адчуў, што там яго сустрэнуць бязлюдныя пакоі, у якіх усе прадметы нагадваюць пра былую жонку. Ранейшы боль ад страты ўжо крыху суцішыўся, але рэчы, звязаныя з Валянцінай, усё яшчэ абуджалі ў сэрцы непрыемны тупы боль, а не светлую настальгію — на яе яшчэ не настаў час…

Таму Канстанцін на паўдарозе развярнуўся і пайшоў не да сябе дадому, а да Лідачкі, якая заўжды з радасцю чакала яго. Ішоў ён без вялікага спеху ды яшчэ перад гэтым затрымаўся на працы, таму да Лідачкінага дома наблізіўся, калі сонца ўжо добра спаўзло на захад. Нечакана ад дрэва ў бок Мачугі хіснулася нейкая худая высокая фігура. Тры крокі — і чалавек апынуўся побач. З вялікім здзіўленнем Канстанцін пабачыў перад сабой Хлюдзінскага.

Яны не бачылі адзін аднаго з дня пахавання Валянціны, калі ледзь не дайшло да бойкі. Цяпер жа абодва мужчыны моўчкі стаялі адзін насупраць другога, быццам апынуліся на процілеглых берагах не вельмі шырокай (а не пераскочыш!) ракі.

Абодва пазіралі насцярожана. Хлюдзінскі заўважыў, што Мачуга за апошні месяц схуднеў, што адбілася не толькі на фігуры, але і на твары, дзе больш рэзка

праступілі скулы. У сваю чаргу Мачуга адзначыў, што пад вачыма яго канкурэнта за Валянцініну ўвагу залеглі ад недасыпання цёмна-сінія цені.

— Ну? — рэзка кінуў пытанне Мачуга.

— Падумаў, што гэта табе спатрэбіцца, — Хлюдзінскі таксама не стаў вітацца, а проста працягнуў руку з нейкай паперай.

Канстанцін не спяшаўся браць прапанаванае. Ён не падазраваў Хлюдзінскага ў якой-небудзь хітрасці або падступстве — проста яму было непрыемна мець нешта агульнае з гэтым чалавекам.

— Што там?

— Данос, — тон Хлюдзінскага таксама быў сухі настолькі, што мог бы загарэцца, калі б паблізу была хаця б адна жарынка. — На цябе данос. Васільчук згубіў, а я падабраў.

Яго рука ўсё яшчэ была працягнутая да Мачугі, і той нарэшце забраў у музейшчыка паперу. Чытаць данос, аднак, Мачуга не стаў — ён па-ранейшаму глядзеў у вочы Хлюдзінскаму. І яго наступнае пытанне заспела Антона знянацку.

— Чаму?

— Што «чаму»? — здзіўленне Хлюдзінскага было настолькі моцным, што ён ажно разгубіўся.

— Чаму ты прынёс гэта мне?

Вусны Антона скрывіліся ў нейкай сарданічнай

усмешцы:

— Ведаеш, я сапраўды не хацеў аддаваць табе… Але потым вырашыў, што да нашых з табой рахункаў гэтая папера не мае ніякага дачынення. Ну, і яшчэ… Я вельмі не люблю даносы.

Не развітваючыся, ён павярнуўся і няспешным крокам пайшоў у той бок, дзе сядала сонца. Канстанцін моўчкі паглядзеў яму ўслед і пачаў чытаць перададзены данос.

Лідачка, якая праз вакно назірала гэтую кароткую, але напружаную сцэну, не чула ні слова з таго, што сказалі абодва мужчыны. І ўсё ж яна з палёгкай уздыхнула, калі Хлюдзінскі пакінуў яе Косціка і сышоў.

На яе здзіўленне Канстанцін не паспяшаўся да яе, а застаўся на вуліцы чытаць нейкую паперу. Яго засяроджаны твар сведчыў, што ў паперы было напісана нешта вельмі важнае. Што менавіта — Лідачка прачытаць ніяк не магла, дый выраз твару Мачугі таксама не даваў магчымасці здагадацца пра змест паперы.

Нечакана для Лідачкі Канстанцін павярнуўся і рашуча пайшоў кудысьці прэч.

# 12 ЧЭРВЕНЯ 1926 ГОДА, СУБОТА, ДЗЕНЬ (ПАЧАТАК)

Церусіў цёплы летні дожджык, але неба было непрыветна шэрым, і Васіль Кашэль падумаў, як абачліва з яго боку было прыхапіць сёння пінжак. Здавалася б, і дождж невялікі, але кожны, хто трапляў у такую імжаку, ведае: праз якія-небудзь паўгадзіны кашулю можна будзе выкручваць — так яна набрыняе вадой.

Васіль схаваўся ад каварнай вільгаці пад ліпай каля аднаго з дамоў на вуліцы, якая да рэвалюцыі называлася Дваранскай, а цяпер насіла ганарлівае найменне Пралетарскай.

Кроплі шапаталі ў лісці штосьці невыразнае, аднак Кашэль не прыслухоўваўся да іх гутаркі. Магчыма, калі б ён быў паэтам, гэтыя гукі нарадзілі б у яго душы лірычны верш, дзе блішчэлі б рыфмы і вобразы, дзе кроплі дажджу падміргвалі б з маладога зялёнага лісця, а вясёлка, якая заззяла б у канцы верша, запэўніла, што жыць жа ўсё-ткі невымоўна добра, таварышы! Калі б ён быў кампазітарам, то, магчыма, напісаў бы мелодыю, дзе рытмічны пошчак дажджавых кропляў сплятаўся б з цягучым нізкім жаночым голасам, бо голас у лета менавіта жаночы…

Але Кашэль не быў ні кампазітарам, ні паэтам —

ён проста чакаў, калі з'явіцца Мачуга, які прызначыў яму сустрэчу. Разам яны мусілі адправіцца на канспіратыўную яўку, дзе збяруцца таварышы з левай апазіцыі. Сам Васіль з'явіўся на прызначанае месца акуратна ў названы час, а вось Мачуга запазняўся, і гэта ўжо нервавала.

Калі мужчына ўжо раздумваў, ці не варта сысці, да яго падкаціла брычка, з якой яго гукнуў Мачуга. Пасажыр быў закрыты ад дажджу паднятым верхам брычкі, а вось фурману было няпроста — ён быў безабаронны перад дажджом. Відаць, таму ён насунуў саламяны брыль ледзь не на самы нос і сядзеў згорбіўшыся — ну чыста куль, а не чалавек!

Кашэль хутка забраўся ў брычку, і яна пакацілa ў бок маста, перакінутага на левы бераг Дняпра.

— На ўскраіне горада спакайней, — патлумачыў спакойна Мачуга на запытальны погляд таварыша. — Дый чужых цікаўных вачэй там менш.

Кашэль кінуў асцярожны позірк на фурмана, але той быў больш заняты дарогай, чым сваімі седакамі, і ніяк не рэагаваў на іх размову.

За Дняпром каля аднаго з дамоў Крывога завулка Мачуга крыкнуў фурману, каб той спыніўся. Хата гэтая нічым не вылучалася з агульнага шэрагу — гэтак жа складзеная з бярвення, гэткія ж фігурыстыя ліштвы на аканіцах.

Атрымаўшы плату, фурман павярнуў назад. Мужчыны глядзелі яму ўслед, і толькі калі ён знік за паваротам, Мачуга прамовіў нечакана хрыплым голасам:

— Пайшлі, нам не сюды.

Ён павёў Кашаля вуліцамі, якія шлі паралельна Дняпру, і неўзабаве абодва выйшлі за апошнія хаты. Наперадзе было поле, дзе-нідзе парослае кустоўем, а за ім узвышаліся званіцы і купалы цэркваў мужчынскага Куцеінскага манастыра.

Але мужчын вяла наперад зусім не прыгажосць краявідаў — на навакольны паштовачны пейзаж яны нават не зварталі ўвагі: Мачуга маўкліва і ўпарта крочыў наперад, Кашэль з гэткай жа зацятасцю шнураваў за ім.

Нарэшце, дабраўшыся да чарговай купіны хмызняку, Канстанцін нырнуў у вузкі праход, які адкрываўся паміж прутамі. Яго спадарожнік на імгненне замарудзіў: штосьці быццам варухнулася ўсярэдзіне, нейкае цьмянае прадчуванне, якое было складана выказаць словамі. Кашэль наструніўся і апусціў руку ў кішэню, толькі пасля гэтага ён паследаваў за сваім праваднікам.

Невялікая паляна пасярод хмызняку з'явілася нечакана. На ёй Мачуга павярнуўся тварам да спадарожніка і сказаў:

— Прыйшлі.

Васіль агледзеўся навокал з непаразуменнем і спытаўся:

— А дзе ж таварышы? Ты ж мне абяцаў…

— Мы з табой без таварышаў тут пагаворым, — перапыніў яго Мачуга, твар якога стаў адразу нейкі злы і непрыгожы. — Пагаворым па-мужчынску. Раскажы мне, Васіль, што за шашні былі ў цябе з маёй жонкай?

— Ды ну цябе! — штучна рассмяяўся Кашэль. — Не было ў нас нічога, пустыя навeты гэта. Нагаварылі табе! Ты ж сам ведаеш, з кім твая жонка хадзіла — са шчаўлікам гэтым музейным, як яго там… Хлюдзінскім! А я з Валянцінай тваёй хіба што пажартаваў пару разоў, і нічога больш.

— Пажартаваў, кажаш?.. Жарты — справа неблагая, хаця часам і крыўдная. Ну, як пра таго пеўня, у якога падымаюцца толькі шпоры, праўда?

Васіль спалатнеў, а Мачуга тым часам працягваў:

— Адкуль жа Валянціна пра шпоры ведала, а? Ці, можа, проста прыдумала, каб нагаварыць на цябе?

Кашэль маўчаў і толькі неадрыўна сачыў за рухамі чалавека, які так неспадзявана з яго прыяцеляператварыўся ў праціўніка.

Канстанцін таксама замаўчаў, з выклікам гледзячы на суразмоўцу. Моўча, якая павісла між імі, нагадвала перадналвальнічнае зацішша. Перарваў яе зноў Мачуга:

— Дарэчы, ты пытаўся пра таварышаў з левай апазіцыі… Ты пра іх пытаўся менавіта як пра сваіх таварышаў? Ці проста хацеў напісаць чарговы данос?

— Ты ад рэўнасці, як я гляджу, зусім звар'яцеў, — ціхая пагроза гучала ў голасе Кашаля. — Якія даносы?

— А такія! — істэрычным высокім, амаль бабскім голасам крыкнуў Мачуга, рэзка выхапіўшы з кішэні складзеную паперу і сунуўшы яе ў рукі Васілю. Той узяў паперу левай рукой і зрабіў крок назад. Памылкі не было — гэта быў данос, які ён, Васіль, напісаў на імя Васільчука.

— Што скажаш, агент «Бландзінка»? — не супакойваўся Мачуга. — І гэта не ты? Нехта іншы напісаў, ага. Усіх нас згадаў, аднаго цябе забыўся — не падкажаш, чаму ў агента «Бландзінкі» такая выбарачная памяць?..

— Не падкажу, — змрочна прасычэў Кашэль, і яго правая рука выцягнула з кішэні нож. Не просты складанчык, а вельмі заўважны, з незвычайным хвалістым лязом. Раны пасля яго застаюцца шырокія — такія, як у прастытуткі Рывы Гольдберг і старшыні жаночага савета Валянціны Мачугі.

Знаўца халоднай зброі апазнаў бы ў гэтай прыладзе штосьці падобнае да малайскага крыса — зброі небяспечнай пры ўсім сваім дзіўным выглядзе. Кожная з «хваляў» ляза рабіла на целе свой разрэз,

утвараючы пазбаўленыя крыві пялёсткі плоці. Нават неглыбокая рана, зробленая такім нажом, гоіцца вельмі кепска і марудна. Пры колючым жа ўдары такі нож быццам сам праварочваецца ў руцэ, шукаючы найбольш слабое месца — абмінаючы косткі і тарнуючы сабе шлях у чалавечым целе.

Васіль гэты нож купіў у кітайцаў, якія засталіся ў Воршы з часоў імперыялістычнай вайны. Пабачыў неяк выпадкова, калі праходзіў кітайскім кварталам, і глянулася яму экзатычная хвалістая зброя. Як пазней высветлілася, прылада была не толькі прыгожая, але і вельмі небяспечная для іншых.

Простая мужчынская сварка ці нават бойка за жанчыну Кашаля не палохала — хіба ж першы раз яму з такім сутыкацца?.. Але пагроза выкрыцця — вось што было насамрэч страшна. У руках Мачугі апынулася не толькі яго рэпутацыя, але і дабрабыт, і далейшы лёс. А за такія сур'ёзныя рэчы Кашэль быў гатовы біцца люта, неміласэрна, насмерць.

# КРАСАВІК — ТРАВЕНЬ 1926 ГОДА

Васіль Кашэль любіў жыццё за тыя прысмакі, якія яно яму дарыла. Дарункі гэтыя былі не настолькі частымі, як ён, паводле свайго меркавання, заслугоўваў, таму Васіль стараўся не прамінаць найменшай магчымасці ўхапіць што-небудзь смачнае — грошы, пасаду, дабаўку да пайка, жанчыну…

Жанчыны ў гэтым пераліку былі ці не самым ласым кавалачкам. Стройныя і ў целе, чарнявыя і бялявыя, высокія і нізенькія — Васіль хацеў бадай усіх. Ну, акрамя хіба што зусім брыдкіх, якія, што называецца, ні ў пір, ні ў вір, ні ў добрыя людзі. Бо калі ж, напрыклад, жанчына з твару і не вельмі прывабная, то ў яе можа быць такая фігура, што проста слінкі цякуць: дупка што два гарбузы, цыцка ў далонь не змяшчаецца… А бывае, што быццам і не дужа паглядная, а ў ложку такое вырабляе, што потым пры адным толькі ўспаміне ў чырвань кідае.

З ціхай настальгічнай зайздрасцю прыгадваў ён самыя першыя паслярэвалюцыйныя гады, калі пачаліся размовы пра абагульненне жанчын, ды аднымі толькі размовамі не скончылася. Сам чытаў пастанову камсамольскага камітэта, які вырашыў, што камсамолка павінна па-пралетарску дапамагчы таварышу-

камсамольцу, калі ў яго ўзнікла палавая патрэба. А партыя, як вядома, старэйшы таварыш камсамола — ёй і правоў належыць больш.

Якія жанчыны тады прайшлі праз Васілёвы рукі!.. І не толькі камсамолкі, дарэчы. Ён прыгадаў буржуазку, якая ўзімку 1920-га прыйшла да яго як да прадстаўніка ўлады — прасіць дапамогі ў дастаўцы дроваў, бо дома замярзае старая маці, а пасля рэквізіцый яны не могуць нічым аплаціць. Яна хуталася ў нейкі варты жалю танкаваты палітончык, але Васіль пабачыў вялікія шырока раскрытыя вочы, тонкія рысы тварыку, залацістыя кудзеркі, якія звешваліся з-пад хусткі, — і зразумеў, што проста так ён яе не адпусціць… І яму пляваць было, што яна пад ім ляжала быццам бервяно і з ціхай нянавісцю і пагардай глядзела яму ў твар.

Дроваў Васілю было не шкада — гэта ж усё цяпер народнае, а ён прадстаўнік народнай улады. Але за гэты зненавідны позірк ён выпісаў дзяўчыне толькі палову ад таго, што яна прасіла.

Праўда, такая вольніца цягнулася нейкія пару гадоў пасля рэвалюцыі — пакуль ішла вайна ды наладжваўся побыт. А потым усе размовы пра абагульненне жанчын, свабоднае каханне ды іншыя падобныя рэчы неяк спыніліся. Улады загаварылі пра тое, што жанчыны павінны быць нароўні з мужчынамі. А калі жанчыны будуць нароўні, дзе ж тут

абагульненне?

Нежанаты Кашэль быў яшчэ прывабны для жанчын, але разумеў, што цяпер у ім кабет найбольш цікавіць статус халасцяка, які яны хацелі б змяніць. Статус ды яшчэ пасада пры дзяржаўным пайку, які ён мае.

Сам жа Васіль заводзіць жонку не хацеў, палюбоўніцы ад яго адпадалі, як толькі разумелі, што жаніцца ён не будзе. Таму ўсё часцей і часцей завітваў ён на вуліцу Падгорную, дзе ажно ў некалькіх вясёлых дамах можна было гарантаваць сабе жанчыну на ноч.

Зрэшты, карыстаўся Кашэль не толькі грашыма, але і ўладай. Праўда, загадаць упадабанай кабеце задраць спадніцу ён не мог, але мог намякнуць, што шлях да павышэння акладу і ўсялякіх іншых матэрыяльных дабротаў скарачаецца праз яго ложак. Часам гэта давала плён, але ўзрост браў сваё, і Васіль адчуваў, што яго стаўкі сярод жаночага полу пачынаюць зніжацца.

Асабліва востра адчуў ён гэта пасля непрыемнага выпадку з адной з машыністак, якой абяцаў дапамагчы з пераменай працы — дакляраваў ёй пасаду сакратаркі ў гаркаме. На спосаб аплаты яна пагадзілася, нервова хіхікаючы і чырванеючы. Сам Васіль тады хадзіў задаволены — аж да таго часу, пакуль справа не дайшла ўласна да ложка… Ці то ў той дзень ён

перабраў з алкаголем, ці то з якой іншай прычыны, але Кашэль асароміўся і скарыстацца сваім дабром у тую ноч не змог. Ён пачаў нервавацца, псіхаваць, і ўсю сваю злосць выплюхнуў на дзяўчыну — збіў яе да сінякоў і выкінуў за дзверы…

Натуральна, новую пасаду яна не атрымала, а неўзабаве і ўвогуле звольнілася ды некуды з'ехала.

Пасля гэтага канфузу яго ўвага пераключылася з маладых дзевак на жанчын пасля трыццаці гадоў. Васіль разлічыў, што гэтыя павінны ж разумець, што да іх набліжаецца старасць, таму будуць радыя ўсялякай мужчынскай увазе.

Тут яму на вока і трапілася Валянціна Мачуга — наравістая, незалежная і ўсё яшчэ прыгожая. Шукаючы ключыкі да гэтай жанчыны, Кашэль схадзіў паслухаць яе выступы на жаночым савеце. Прамовы пра вызваленне жанчын з сямейнага рабства і паслядоўную манагамію яму спадабаліся. Пасля адной з такіх лекцый ён паклікаў Валянціну ўбок і прапанаваў заняць бліжэйшае месца ў ейнай паслядоўнасці. Тым болей, што ён усё ж такі чалавек больш салідны і надзейны, чым гэты музейшчык Хлюдзінскі, з якім яна цяпер звязалася…

Валянціна рассмяялася, махнула рукой — маўляў, жарты ў цябе. Потым яна пайшла да сяброўак, так спакушальна пагойдваючы клубамі, што Васіль нервова

зглынуў нечакана горкую сліну і кінуў услед:

— Але ты згарача не кажы, падумай спярша!

Вось тут яна і сказала гучна, амаль не павярнуўшыся ў яго бок:

— Ад такога пеўня толку мала: уся сіла ў шпоры пайшла, а вышэй не ўзнялася!

Жанчыны, якія чакалі заканчэння іхнай размовы, выбухнулі рогатам, а бурачковы ад збянтэжанасці Кашэль вомільгам уцёк.

У той вечар ён піў у нейкіх замызганых кабаках, а потым пацягнуўся на Падгорную — калі не ўдалося зацягнуць да сябе ў ложак Валянціну, то ён пойдзе і купіць сабе каханне. Ён ім усім пакажа! Ён дакажа, што яшчэ дасць рады з жанчынай!

Але прырода злосна пакпіла з раздражнёнага Васіля, і ўсе намаганні прастытуткі зрабіць сваю працу выявіліся марнымі: гадзіннік мужчынскай годнасці кліента ўпарта паказваў палову шостай… Ідучы на наступны дзень каля Падгорнай, Кашэль зноў пабачыў гэтую прастытутку — з падведзенымі вачыма, з падчырвоненымі шчокамі, яна пасміхнулася і гулліва спыталася:

— Мужчына, а сёння зойдзеце? Ці ў вас зноў настрою няма, як і ўчора?

Гэтае пытанне быццам сарвала нейкую нябачную пячатку ў глыбіні Васілёвай душы. Лютасць затапіла

яго, лютасць і нянавісць да тых, хто насмельваецца пасміхацца з ягоных мужчынскіх няўдач. Гукі навокал нібыта сціхлі і ледзь прабіваліся да яго, толькі цяжкое тахканне сэрца раздавалася ў вушах, у мозгу, адбівалася ў дрыготкіх пальцах.

Кашэль сам не заўважыў, як у руцэ апынуўся нож. І калі ягоная крыўдзіцелька без гуку асела на зямлю, ён яшчэ некалькі імгненняў нерухома стаяў над целам, слухаючы, як паступова цішэе басавітае тахканне і пачынаюць з'яўляцца іншыя гукі: недзе рытмічна рыпіць воз, на чыімсьці двары сакочуць куры, дзесьці раздаўся сіпаты заводскі гудок…

Васіль азірнуўся і зразумеў, што яму нечакана пашанцавала: на вуліцы было пуста. Ён паспеў сысці на іншую вуліцу, пакуль цела Рыўкі Гольдберг знайшлі мінакі.

Але цяпер ён адчуваў, што павінен разлічыцца і з наравістай Валянцінай, іначай будзе адчуваць сябе нікчэмнасцю, з якой можа смяяцца нават баба. У адным горадзе з ёй Васіль ніколі не будзе пачувацца спакойна, а гэта значыць, што яго зноў будуць чакаць непрыемнасці ў ложку.

Значыць, Валянціну чакае тое ж, што і гэтую прасталытку. Кропка.

# 12 ЧЭРВЕНЯ 1926 ГОДА, СУБОТА, ДЗЕНЬ (ЗАКАНЧЭННЕ)

…Простая мужчынская сварка ці нават бойка за жанчыну Кашаля не палохала — хіба ж першы раз яму з такім сутыкацца?.. Але пагроза выкрыцця — вось што было насамрэч страшна. У руках Мачугі апынулася не толькі яго рэпутацыя, але і дабрабыт, і далейшы лёс. А за такія сур'ёзныя рэчы Кашэль быў гатовы біцца люта, неміласэрна, насмерць. Ён перахапіў нож лаўчэй і пачаў абыходзіць праціўніка, цікуючы найбольш зручны момант для нападу. Аднак Канстанцін таксама не збіраўся лёгка здавацца. І хаця ў яго руках не апынулася ніякай зброі, Кашэль разумеў, што тут яго чакае не такая лёгкая перамога, як у выпадку з дзвюма забітымі жанчынамі.

Ён зрабіў рэзкі выпад нажом наперад, ад якога Мачуга ледзь паспеў ухіліцца: лязо толькі раскроіла талстоўку. Канстанцін паспрабаваў ударыць па руцэ, каб выбіць небяспечную зброю, але і яго ўдар не дасягнуў мэты.

У адказ Васіль махнуў нагой і пацэліў мыском акурат у калена праціўніка. Ад нечаканага пранізлівага болю Канстанцін асунуўся на зямлю: нага перастала

трымаць яго цела. Рукамі ён стаў перабіраць па мокрай слізкай траве, каб адпаўзці і паспрабаваць падняцца. Нападнік навіс над Мачугам, быццам коршун над мышшу, і радасць пераможцы прамільгнула на ягоным твары.

У гэты момант грымнуў стрэл, і вопратка Кашаля стала імкліва набрыньваць чырвоным колерам.

З хмызняку выйшаў Чарноцкі ў саламяным капелюшы, які раней дапамагаў яму хаваць твар, калі давялося граць ролю фурмана. У руцэ ён напагатове трымаў наган — для яшчэ аднаго стрэлу. Аднак неабходнасці ў гэтым не было: Кашэль ужо не ўяўляў небяспекі, нож вываліўся з яго рукі.

Канстанцін падпоўз да падстрэленага ворага — той цяжка хрыпеў, чырвоная пена стала збірацца ў левым кутку вуснаў.

— Чуеш, ты? — Мачуга патрэс яго за плячо. — Мы цябе адвязем да лекара, жыць будзеш. Але спярша скажы, за што забіў маю жонку! Як толькі скажаш, так адразу і павязем…

У вачах Кашаля роспач змянілася няўпэўненым праблескам надзеі: ён і хацеў, і баяўся верыць у пачутае. А Мачуга працягваў яго церабіць:

— Брычка тут недалёка, да горада хутка даедзем. Але ты павінен спярша прызнацца! Іначай кінем цябе паміраць тут.

Думкі ў параненага блыталіся, але ён адчуваў рэўнасць Мачугі, таму вырашыў супакоіць яго.

— Пакрыўдзіла яна мяне, — кожнае слова давалася Кашалю цяжка, у горле яго штосьці свісцела пры ўдыхах. — Не дала… Нават Хлюдзінскаму дала… А мяне абсмяяла пры ўсіх… Не мог я дараваць…

Клацнуў курок нагана, і Чарноцкі яшчэ раз стрэліў, гэтым разам — у скронь параненага. На нямое пытанне Мачугі ён паціснуў плячыма:

— Мы ж не збіраліся яго ратаваць, так?

Падняў з зямлі нож, які выраніў Кашэль, і, пакруціўшы яго ў руках, задуменна вымавіў: «Цікавая штука». Пасля гэтага нож апынуўся ў кішэні яго някідкай шэрай марынаркі.

Чарноцкі дапамог Мачугу падняцца і запытаўся, ці можа той ісці сам. Канстанцін паспрабаваў: хадзіць было складана, але можна.

— Значыць, каленная чашачка на месцы, — з задавальненнем рэзюмаваў Чарноцкі. — Інвалідам не будзеш.

Ухутаўшы нейкім рыззём цела, у якім яшчэ нядаўна без аніякіх праблемаў ужываліся Васіль Кашэль і агент АДПУ «Бландзінка», Чарноцкі закінуў яго ў брычку, пакінутую непадалёк, і паехаў у бок Дняпра. Дождж змые сляды на траве, а дняпроўская вада знясе ў невараць цела нягодніка…

У горад вярталіся моўчкі.

# 15 ЧЭРВЕНЯ 1926 ГОДА, АЎТОРАК, ДЗЕНЬ

Васільчук вальяжна разваліўся на крэсле ў сваім кабінеце, закінуўшы нагу на нагу. У яго душы трыўмфальна граў палкавы аркестр: барабаны задавалі маршавы рытм, басавіта гулі трамбоны, на высокіх нотах ім падпявалі трубы… Звон медзі і рэзкі барабанны грукат.

Акрамя яго ў кабінеце былі яшчэ два чалавекі, і абодва яны стаялі. Адзін стаяў насупраць следчага — і гэта быў арыштаваны. Другі стаяў каля дзвярэй — вартаваў першага і быў гатовы выканаць загады Васільчука.

Следчы пераможна глянуў на чалавека, які стаяў насупраць яго. Той быў бледны, але рашучы. Вусны ў чалавека сцяліся ў адну вузкую шчыліну — хіба толькі лязо і пройдзе. Іх падзяляў стол, але падавалася, што паміж следчым і падследным бездань, праз якую немагчыма ні падаць рукі, ні нават зразумець адзін аднаго.

— Ведаеце, Чарноцкі, з вашага боку было б больш разумна прызнацца ў відавочным, — у голасе Васільчука можна было лёгка пачуць шкадаванне, што яго апанент не хоча зрабіць самы правільны крок. — Вас злавілі з несумненнымі доказамі вашай віны, і калі вы

не пачняце супрацоўнічаць са следствам, суд улічыць гэта як абцяжарвальную акалічнасць.

Арыштаваны маўчаў, па-ранейшаму гледзячы ў твар следчаму.

— Па-першае, вы вялі антысавецкую дзейнасць, скіраваную на стварэнне раскольніцкай фракцыі ў нашай партыі. Вас і кур'ера затрымалі з адпаведнымі дакументамі… Па-другое, у вас знайшлі халодную зброю, у якой судовы медык апазнаў прыладу забойства Рывы Гольдберг і Валянціны Мачугі. З улікам вашай антыпартыйнай дзейнасці забойства старшыні жаночага савета таварыша Мачугі можна без сумневу лічыць актам палітычнага бандытызму.

Чарноцкі не казаў ні слова, таму Васільчук пасля кароткай паўзы працягнуў пералік абвінаваўчых доказаў:

— Літаральна ўчора за 30 кіламетраў уніз па Дняпры быў вылаўлены труп інструктара гаркама таварыша Васіля Кашаля. Як выявілася, таварыш Кашэль не патануў, а быў застрэлены. У яго целе знайшлі дзве кулі. Эксперт-балістык заяўляе, што абедзве былі выпушчаныя з рэвальвера сістэмы «наган», канфіскаванага ў вас дома падчасператрусу. Так што гэта ўзмацняе вашу адказнасць перад працоўным народам…

Васільчук памаўчаў, даючы падследнаму

належным чынам ацаніць аргументы абвінавачання.

— Але ж вы, таварыш Чарноцкі, маеце заслугі перад нашай пралетарскай рэвалюцыяй, вы пралівалі за яе кроў у грамадзянскую вайну, так? Я думаю, наш гуманны суд улічыць, што вы троху заблыталіся ў палітычнай неразбярысе, калі вы надумаеце шчыра пакаяцца і расказаць пра ўсе свае злачынныя сувязі і неабдуманыя ўчынкі.

Арыштаваны кінуў грэблівы позірк:

— Шкада, што ты мне на фронце не трапіўся — мы б з табой іначай там пагаварылі…

Пасля гэтага Чарноцкі замаўчаў. Ён ні слова не казаў, калі яго білі — часам толькі мычаў або енчыў ад болю. Гэтак жа маўкліва ён выслухаў прысуд: «Ужыць найвышэйшую меру сацыяльнай абароны — расстрэл».

Адзіную фразу ён выкрыкнуў перад смерцю, і яна вельмі збянтэжыла расстрэльную каманду — тыя яшчэ не прызвычаіліся забіваць людзей, якія крычаць: «Няхай жыве Савецкая ўлада і пралетарская рэвалюцыя!».

Мачуга, Ляўчэня і Іцкін за антысавецкую дзейнасць былі асуджаныя на 10 гадоў у лагеры на Салаўках. Доказаў іх прыналежнасці да забойстваў не знайшлося.

# ПАСЛЯСЛОЎЕ

У гэтым творы дзейнічаюць як рэальныя персанажы, так і выдуманыя. Сярод рэальных пераважную бальшыню складаюць удзельнікі аршанскай філіі «Маладняка», працытаваныя вершы належаць рэальным аўтарам. Мне б хацелася верыць, што ўдалося больш-менш рэальна адлюстраваць тое, што адбывалася сярод аршанскіх маладнякоўцаў, але я не прэтэндую на поўную гістарычную дакладнасць.

Адзіным выняткам сярод маладнякоўцаў стаўся выдуманы персанаж Гарбылоўскі, якому аўтар прыпісаў чужыя вершы. Рэальны аўтар у тых вершаў ёсць, але гэта тэма бадай што для даследчыкаў літаратуры.

# ПАДЗЯКІ

Вялікую падзяку хачу выказаць усім, хто падтрымліваў мяне і дапамагаў мне сваімі парадамі падчас напісання гэтага твора. У першую чаргу маім сябрам Кацярыне Барысенка, Дар'і Зялінскай, Уладзіміру Пучынскаму — без іх гэты гістарычны крымінал выглядаў бы іначай. Асобная падзяка Галіне Рабянковай, якая старанна вычышчала памылкі і абдрукоўкі.

1 Пераклад «Інтэрнацыяналу» зроблены Янкам Купалам. ↵